Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 39 (4685) 28 верасня 2012 г.

## Думка пісьменніка

### 945-ГОДДЗЕ ЧАГО?



Зусім нядаўна ў Мінску адзначаўся Дзень горада. Вясёлае атрымалася свята. І разнастайнае: тут табе і мнагалюдныя канцэрты, і цікавыя выстаўкі, і нават (Год кнігі, як-ніяк) літаратурныя чытанні. А яшчэ па Мінску праходзілі шматлікія спартыўныя мерапрыемствы, нават такія экзатычныя, як 10-ы чэмпіянат Беларусі па… кіданні мабільнікаў.

"Дзень горада", як ніякае іншае свята, аб'ядноўвае гараджан, робіць іх яшчэ большымі патрыётамі роднага горада (ды і ўсёй краіны ў цэлым).

Усё разумею і нават падтрымліваю, але… Вось гэтае "але" мяне крыху і непакоіць. А можа, і не мяне аднаго…

Добра "маладым" гарадам (Наваполацку, Салігорску, нават Санкт-Пецярбургу), яны дакладна ведаюць свае "гады нараджэння". Пра гарады старажытныя такога, на жаль, не скажаш… Вось і лічаць жыхары іх узрост ад першага ўпамінання ў тым ці іншым летапісе. Узяць, да прыкладу, Маскву, якая таксама традыцыйна святкуе "дзень горада" ў верасні (у першую суботу месяца). Лічыцца, што Маскве споўнілася 865 гадоў, бо менавіта ў 1147-м годзе з'явілася першая згадка пра яе ў Іпацьеўскім летапісе. Там адзначаецца, што ў суботу 4 красавіка 1147 года растоваСуздальскі князь Юрый Даўгарукі прыняў у гарадку пад назвай Масква сваіх сяброў і саюзнікаў… Зразумела ж, Масква існавала і да гэтай даты (і, можа, не адно дзесяцігоддзе), але адлік свой вядзе менавіта з гэтага вось першага пісьмовага ўспаміну.

Першая летапісная згадка пра Мінск (Менск) — год 1067, а значыцца, Мінск значна старэйшы за сваю ўсходнюю суседку. І ў гэтым годзе жыхары нашай сталіцы адзначалі 945-годдзе…

945-годдзе чаго? І што ж адбылося ў Менску ў 1067 годзе? А тады ў адказ на захоп і разрабаванне полацкім князем Усяславам Чарадзеем Ноўгарада, кіеўскі князь Ізяслаў разам са сваімі братамі Святаславам і Усеваладам рушылі супраць Усяслава. І невялікі гарадок Менск першым апынуўся на іх шляху.

Вось як адзначае летапісец тое, што адбылося далей:

"…*меняне зачыніліся ў горадзе, і браты тыя ўзялі Менск, пасяклі мужчын, а жанчын і дзяцей захапілі, як здабычу і пайшлі да Нямігі*".

Далей адбылася знакамітая бітва на Нямізе, але я не пра гэта. А пра тое, што ў годзе 1067-м Менск на нейкі час проста спыніў сваё існаванне. А мы адзначаем гэтую сумную падзею як "Дзень горада"? Год знішчэння Мінска лічым годам яго нараджэння? А можа, і правільна? Бо, на думку многіх гісторыкаў, той старажытны Менск знаходзіўся ў баку ад Мінска сучаснага. І паўднёвыя князі, знішчыўшы горад, "*пайшлі да Нямігі*". А яна ж якраз у самай старажытнай частцы Мінска!

Тады выходзіць, што "новы Менск" і сапраўды "нарадзіўся" (дакладней, адрадзіўся) менавіта ў 1067 годзе, і адрадзіўся зусім у іншым месцы, бо той, цалкам знішчаны горад проста не было каму адраджаць. І мы законна адзначаем "свята горада", яго 945-годдзе, і нават месяц верасень добра з гэтым усім стыкуецца, бо знішчэнне Менска адбылося ў лютым 1067 года. Ну, а ў верасні таго ж года ў новым Менску ўжо маглі быць першыя яго жыхары. Але гэта ўжо, як казалі браты Стругацкія, "зусім іншая гісторыя"…

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

# «Я не баюся жыццёвай буры…»

**Беларуская пісьменніца, грамадская і культурная дзяячка Людвіка Антонаўна Сівіцкая больш вядомая пад паэтычным псеўданімам Зоська Верас. Нарадзілася 30 верасня 1892 года на Украіне ў мястэчку Мяджыбаж. Бацька, Антон Міхайлавіч Сівіцкі, быў родам з Гродна, служыў афіцэрам царскай арміі. Маці, Эмілія Людвікаўна Садоўская, атрымала адукацыю ў Кракаве пры кляштары, валодала замежнымі мовамі.**

**Анёла АЗАРНСКАЯ,**
**фота з сайта Літаратурнага музея Максіма Багдановіча**



Разам з бацькам Людвіка аб'ездзіла ў дзяцінстве ўсю Гродзеншчыну. Яны вандравалі па вёсках, наведвалі руіны старажытных замчышчаў, ездзілі да Каложы і па Нёмане. Потым, калі вярталіся дадому, бацька прасіў Людвіку апісаць іх падарожжы.

Антон Сівіцкі збіраў хатнюю бібліятэку, знаёміў дачку з творамі сваіх любімых паэтаў А. Міцкевіча і У. Сыракомлі. Бацька ўзгадаваў у яе душы любоў да беларускай зямлі, прыроды, да роднай мовы і літаратуры. Адным з першых вершаў Людвікі быў "Што я люблю".

Атрымаўшы пачатковую адукацыю, яна паступіла ў прыватнае Гандлёвае вучылішча ў Кіеве. Там Людвіка апублікавала свае першыя літаратурныя спробы ў рукапісным часопісе "Подснежник". Аднак пасля смерці бацькі маці і дачка Сівіцкія вярнуліся ў Гродна. Як сірата афіцэра царскай арміі дзяўчына мела права вучыцца бясплатна ў Інстытуце высакародных паненак, але адмовілася ад гэтай прывілеі, маркуючы, што там няма свабоды думак і дзеянняў. У 1909 годзе Людвіка паступіла ў прыватную жаночую гімназію ў Гродне. Восенню гэтага ж года арганізаваўся Гродзенскі гурток беларускай моладзі, мэтай якога была самаадукацыя: вывучэнне мовы, гісторыі, звычаяў свайго краю. На першым арганізацыйным сходзе Людвіку Антонаўну выбралі ў склад кіраўніцтва — даручылі загадваць бібліятэкай. Першымі набыткамі кніжніцы былі "Дудка беларуская" і "Смык беларускі" Ф. Багушэвіча, "Жалейка" Янкі Купалы. Потым пачалі выпісваць кнігі выдавецкай суполкі "Загляне сонца і ў наша аконца".

Дзякуючы намаганням Людвікі Сівіцкай бібліятэка атрымлівала з Вільні "Нашу Ніву", календары і іншыя выданні. Людвіка Сівіцкая спрычынілася таксама да выпуску альманаха гурткоўцаў "Колас беларускай нівы".

Пісьменніца брала ўдзел і ў падрыхтоўцы спектакляў. Былі пастаўлены камедыі "Модны шляхцюк" К. Каганца, "Па рэвізіі" М. Крапіўніцкага і інш. Сяляне дапамагалі гурткоўцам: давалі адзенне для сцэны, рэквізіт.

Творы пісьменніцы пачалі друкавацца ў 1911 годзе ў "Нашай Ніве". А ў 1912 годзе яна ўпершыню пераступіла парог рэдакцыі. Аляксандр Уласаў дапамог ёй зняць футра, зірнуў на яе і сказаў сваім глыбокім басам: "Мы думалі, што гэта паважная асоба, а гэта ж дзіцё!"

Пасля заканчэння гімназіі Людвіка Антонаўна паехала ў Варшаву, дзе наведвала 10-месячныя курсы "Агародніцтва, садоўніцтва і пчалярства" і 6-тыднёвыя ваенныя санітарныя курсы.

Падчас Першай сусветнай вайны пісьменніца апынулася ў Мінску сярод бежанцаў. Разам з Максімам Багдановічам яна працавала ў камітэце Таварыства помачы ахвярам вайны. Мінскі аддзел таварыства адкрыў дзіцячы прытулак у раёне Камароўкі і Залатой Горкі, начлежныя прытулкі для ўцекачоў, дзве бясплатныя і адну платную сталоўку пад назваю "Беларуская хатка" — адначасова клуб беларускай інтэлігенцыі. Людвіка загадвала сталоўкай, дзіцячым прытулкам, арганізавала курсы для ўцекачоў, стварала для іх працоўныя месцы, лячыла хворых. У гэты час яна пазнаёмілася з многімі беларускімі дзеячамі: З. Бядулем і яго сёстрамі, Ядвігіным Ш. і яго дачкой Вандай, з У. Галубком, А. Смолічам, У. Фальскім.

Карыстацца псеўданімам Зоська Верас яна пачала таксама ў Мінску. Аднойчы ў рэдакцыі "Вольнай Беларусі" Людвіка Антонаўна паспрачалася з Бядулем, што зможа напісаць твор без паправак. Хуценька, не адрываючыся ад паперы, напісала "Нёман" і стала складаць верш: "Праз акопы і рады штыхоў..." Падпісалася Зоськай Верас. Так пісьменніца ўпершыню ўжыла гэты псеўданім. Зоська — гэта як другое імя, верас — расліна, якую яна вельмі любіла.

У 1922 годзе памёр дзед Людвікі. Сям'я прадала фальварак Альхоўнікі і пераехала ў Вільню. Там пісьменніца працавала адміністратарам газет Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Выконваючы мноства абавязкаў, звязаных з выпускам і рассылкай газет, яна арганізавала выданне беларускага календара на 1926 год, што дало пачатак рэгулярнаму выхаду такіх календароў у Заходняй Беларусі.

(Заканчэнне на стар. 4.)

## Пункцірам

✔ Да 30 кастрычніка 2012 года ў Літоўскай Рэспубліцы праходзяць Дні культуры Рэспублікі Беларусь. Беларускую культуру прадстаўляе дэлегацыя колькасцю больш як 650 чалавек. У розных гарадах Літвы — Вільнюсе, Каўнасе, Вісагінасе і Анікшчаі — адбудуцца выступленні Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Рэспублікі Беларусь, Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра, Тэатра-студыі кінаакцёра, фальклорнай групы "Купалінка". У рамках святкавання юбілею Янкі Купалы разгорнецца выстаўка "Не згаснуць зоркі ў небе".

✔ Тэлерадыёвяшчальная арганізацыя Саюзнай дзяржавы ініцыіруе стварэнне фільма-эпапеі пра Першую сусветную вайну. Паводле задумы, у 2013 годзе будзе праведзена ўся падрыхтоўчая работа — стварэнне сцэнарыя, касцюмаў, эскізаў дэкарацый, камп'ютарнай графікі, а таксама кастынг акцёраў. А ў 2014 годзе пройдзе ўвесь здымачны працэс. Большасць падзей, пра якія будзе расказвацца ў карціне, звязана з бітвай у Смаргоні, баямі Брусілаўскага прарыву і дзеяннямі стаўкі галоўнакамандуючага пад Магілёвам.

✔ Рэканструкцыю Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў Мінску плануецца завяршыць да канца 2012 года. Пра гэта паведаміў генеральны дырэктар дзяржаўнага вытворчага аб'яднання "Мінскбуд" Мікалай Мілашэўскі. Рэканструкцыя пачалася яшчэ ў 2010 годзе. Яна прадугледжвае вяртанне будынку яго гістарычнага выгляду, а таксама аснашчэнне самым сучасным абсталяваннем. Будынак тэатра быў пабудаваны ў 1890 годзе па праекце польскага архітэктара К. Казлоўскага.

✔ Падведзены вынікі конкурсу "Лепшы прыклад аховы гісторыка-культурнай спадчыны". Першае месца прысуджана сялянскай фермерскай гаспадарцы "Панскі маёнтак" за адраджэнне былога сядзібна-паркавага комплексу пачатку XIX ст. у в. Сула Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці. Другое месца — у фермерскай гаспадаркі "Быхаўцаў Уладзімір Іванавіч" за рэстаўрацыю і аднаўленне ветранога млына XIX ст. на хутары "Міколін востраў" Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці. Трэцяе месца прысуджана прадпрыемству "Мінскпраект" за добраўпарадкаванне тэрыторыі былых мінскіх брацкіх могілак і стварэнне мемарыяльнага комплексу "Памяці воінаў Першай сусветнай вайны 1914 — 1918 гг." па Старавіленскім тракце ў г. Мінску.

✔ Абвешчаны конкурс эскізных праектаў помніка Міндоўгу. Рашэнне пра стварэнне помніка і яго ўстаноўку ў Навагрудку прынята сумесна Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, Гродзенскім аблвыканкамам, Навагрудскім райвыканкамам. Помнік плануецца ўсталяваць у скверы на гарадской плошчы ў Навагрудку. Для ўдзелу ў конкурсе да 26 кастрычніка 2012 г. неабходна падаць заяўку па адрасе: г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11, каб. 316.

✔ Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ўдзельнічае ў IV Тбіліскім міжнародным тэатральным фестывалі, які праходзіць у Грузіі да 30 верасня. Разам з купалаўцамі у сёлетнім фестывалі бяруць удзел калегі з Расіі, Ізраіля, Польшчы, Літвы, Малдовы, Азербайджана, Грузіі, Мексікі, Швецыі, Вялікабрытаніі і Японіі.

Падрыхтавала
Ярына РЫТАМІНСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Творчая справаздача

На чарговым пасяджэнні Прэзідыума Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, якое адбылося 21 верасня, былі абмеркаваныя задачы СПБ на завяршальным этапе правядзення Года кнігі.

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

Старшыня саюза Мікалай Чаргінец прадставіў вынікі апытання сярод бібліятэк краіны па запатрабаванасці кніг членаў СПБ. Такім чынам, выданні 48 пісьменнікаў за два апошнія гады прачытала больш як два мільёны чалавек. Атрыманыя дадзеныя дапамогуць вырашыць, у якія бібліятэкі варта адправіць кнігі, выдадзеныя Саюзам пісьменнікаў Беларусі. А іх, дарэчы, толькі за бягучы год з'явілася каля 270! Старшыня СПБ закрануў і пытанне работы творцаў з чытачамі, прынамсі, якасць выступленняў пісьменнікаў, якія вельмі часта мусяць не толькі агучваць уласныя радкі, але і разважаць на сацыяльныя тэмы. "Мы павінны ўмець патлумачыць людзям, чым варта ганарыцца ў сваёй краіне!" — зазначыў М. Чаргінец. Што да бліжэйшых вечарын, якія арганізуюцца СПБ і Мінскім гарадскім аддзяленнем СПБ, то інфармацыя пра іх будзе больш шырока распаўсюджвацца менавіта сярод моладзевай аўдыторыі.

Акрамя таго, на пасяджэнні былі вылучаны кандыдаты на атрыманне прэмій "За духоўнае адраджэнне" і Спецыяльнай штогадовай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі "Літаратура". На першую прапанаваная кніга Г. Шчаглова "Хранитель. Жизненный путь Фёдора Михайловича Морозова". Сярод прэтэндэнтаў на другую становіча адзначаны кнігі М. Барысенкі, І. Пехцерава, В. Кадзетавай, А. Крэйдзіча, В. Грышкаўца. Аднак большасцю галасоў была падтрымана кніга Н. Касцючэнкі "Верба над омутом".

Што да планаў СПБ на будучы год, то было вырашана дадаць да прэміі, якая прысуджаецца на Свяце беларускага пісьменства, яшчэ дзве намінацыі: "Лепшы твор пра Беларусь членаў СПБ, якія жывуць за мяжой" і "Дэбют" — магчымасць адзначыць маладых аўтараў.

Літаратары ўзгадалі і пра хуткія юбілеі калег: А. Суслава, А. Скарынкіна, У. Гніламёдава, М. Чаргінца.

## За падзеяй

# Дыпламаты ведаюць Танка

Вечарына "Перапіска з сусветам", прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Танка, адбылася ў Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі.

**Дар'я ШОЦІК,**
**фота аўтара**

Літаратурную вечарыну вёў намеснік старшыні таварыства "Беларусь-Славакія", галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі. Мікалай Міхайлавіч вельмі ўзнёсла і шчыра распавёў пра творчасць Танка, яго перапіску з творцамі замежных краін. У Дом дружбы завіталі дыпламаты, каб з гонарам прачытаць вершы Максіма Танка, адчуць меладычнасць слова ў кожным радку.

Дэкламавалі вершы на ўкраінскай мове пастаянны паўнамоцны прадстаўнік Украіны пры каардынацыйных інстытутах СНД Іван Бунечка, на славацкай — намеснік Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Славацкай Рэспублікі ў Беларусі Эрык Ліптак, на кітайскай — саветнік пасольства Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь Сунь Хунчжы. Дарэчы, вядомы кітайскі літаратар Гаа Ман з'яўляецца адным з перакладчыкаў вершаў Максіма Танка.

Максім Танк захапляўся кубінскай літаратурай, пераклаў некалькіх паэтаў Кубы. З падзячнай прамовай да прысутных звярнуўся Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Куба ў Беларусі Альфрэда Ньевес Портуонда, а журналіст Інстытута кубінскага тэлерадыёвяшчання Альберт Лорайдзіс распавёў пра беларуска-кубінскія культурныя сувязі і прачытаў верш Танка на беларускай мове. Луселія Ролдан, кубінская спявачка, лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Мулявіна, удзельніца XXI Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў на "Славянскім базары ў Віцебску" шчыра праспявала пра "Васількоевае неба". З літаратурнай спадчынай японскага паэта Дзюна Такамі пазнаёміла аўдыторыю саветнік па пытаннях культуры пасольства Японіі ў Беларусі Ханада Тамока.

Пісьменнік, старшыня таварыства "Беларусь-Польшча" Анатоль Бутэвіч зазначыў:



*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Куба ў Беларусі Альфрэда Ньевес Партуонда з Луселіяй Ролдан.*

— Сапраўдны інтэрнацыяналізм існуе, нельга парваць сувязі між народамі, адасобіць адну культуру ад другой. Максім Танк быў адзін з тых, хто гэта разумеў.

# Новая сустрэча з чытачамі Сібіры

У Расійскай Федэрацыі ўсё часцей пачалі з'яўляцца публікацыі новых перакладаў беларускай прозы, паэзіі, драматургіі, мастацка-публіцыстычных твораў.

**Сяргей ШЫЧКО**

Два "стратэгічныя" партнёры ў прадстаўленні сучаснай беларускай літаратуры ў перакладзе на рускую мову з'явіліся ў апошнія гады ў нашых паэтаў, празаікаў, публіцыстаў. Гэта часопісы "Наш современник" і "Сибирские огни". У свой час Анатоль Луначарскі сказаў пра сібірскі часопіс: "Гэты часопіс даводзіцца прызнаць лепшым з правінцыйных".

Вось і ў сёлетнім сёмым нумары "Сибирских огней" надрукаваны творы двух вядомых у Беларусі пісьменнікаў: аповесць Алены Брава "Каменданцкі час для ластавак" (пераклад зроблены аўтарам) і паэма Алеся Бадака "Каменні" (пераклад на рускую мову належыць Уладзіміру Беразеву). Нагадаем: рэгіянальны расійскі літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс выходзіць штомесяц. Заснаваны ў 1922 годзе, равеснік "Полымя". З выданнем звязаны творчыя лёсы Віктара Астаф'ева, Валянціна Распуціна, Георгія Маркава, Ганны Караваевай, Лідзіі Сейфулінай, Аляксея Івантэра, іншых вядомых савецкіх, рускіх пісьменнікаў. Творчы лёс цэлага шэрагу аўтараў, якія жылі і працавалі ці цяпер жывуць у Беларусі, таксама звязаны з "Сибирскими огнями". Часта друкуецца ў часопісе беларускі празаік Сяргей Трахімёнак. Сярод любімых чытачамі Сібіры аўтараў быў і празаік, паэт, бард Мікалай Шыпілаў, аўтар рамана "Остров Инобыль", жанр якога пазначаны яшчэ і як раман-катастрофа. Мікалай Шыпілаў, які памёр у 2006 годзе, апошнія гады жыцця правёў у Беларусі, на Міншчыне. Менавіта тут напісаў многія свае творы.

Увогуле сувязі беларускай літаратуры з расійскімі рэгіёнамі атрымалі пашырэнне і дзякуючы традыцыйнаму "кругламу сталу", што ладзяць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Саюз пісьменнікаў Беларусі штогод у рамках Дня беларускага пісьменства. Да ўдзелу ў яго рабоце запрашаліся пісьменнікі Расіі не толькі з Масквы і Санкт-Пецярбурга, але і з Екацярынбурга, Казані, Іжэўска, Іркуцка, Волагды. Часам менавіта такія сустрэчы становяцца падставай для развіцця і перакладчыцкіх стасункаў.


## Спяшайцеся выпісаць "ЛіМ"!



*Для індывідуальных падпісчыкаў:*
**1 месяц — 15 800 руб.**
Падпісны індэкс — 63856
*Ведамасная падпіска:*
**1 месяц — 32 699 руб.**
Падпісны індэкс — 638562
*Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў:*
**1 месяц — 9 700 руб.**
Падпісны індэкс — 63815
*Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі:*
**1 месяц — 24 207 руб.**
Падпісны індэкс — 63880

Літабсягі

# Віцебшчына ў асобах


*Алена Транкевіч і дырэктар бібліятэкі Аляксандр Сёмкін.*

У Віцебскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна прайшла прэзентацыя кнігі М. Кузьміча і М. Сцепаненкі "Імёны. Асобы. Лёсы: ураджэнцы Віцебшчыны ў далёкім і блізкім замежжы", выдадзеная ў РВУ "Літаратура і Мастацтва". Яна стала цэнтральнай падзеяй святкавання Дня бібліятэк.

**Кацярына СТАСЁНАК, фота аўтара**

Дырэктар кніжнай скарбніцы А. Сёмкін павітаў прысутных, павіншаваў калег з добрай нагодай для сустрэчы і перадаў слова Міхаілу Кузьмічу. Гэта ўжо другая кніга, якая носіць біяграфічны характар. Плануецца выпуск трэцяй і чацвёртай. Аўтар звярнуўся да прысутных з просьбай, каб перадавалі інфармацыю ў бібліятэку пра выбітных асоб. У згаданай кнізе апавядаецца пра людзей, якія праславілі Віцебшчыну. Міхаіл Пятровіч згадаў: менавіта Мікалай Сцепаненка быў ініцыятарам гэтай працы. Інфармацыю бралі з розных крыніц, у тым ліку з кнігі "Памяць". Міхаіл Пятровіч па адукацыі філолаг, Мікалай Іванавіч — медык. Людзі розных прафесій паяднаныя адным праектам.

У кнізе змешчана больш як 600 біяграфій дзеячаў навукі, культуры, палітыкі, бізнесу, Герояў Савецкага Саюза, Герояў Сацыялістычнай Працы. Паводле аўтара, мэтай стварэння кнігі было паказаць людзей Віцебшчыны з найлепшага боку, тых асоб, якімі варта ганарыцца. Сталыя людзі, моладзь павінны памятаць і шанаваць свае карані: "Народ, які забыўся пра гісторыю — мёртвы народ".

Паводле краязнаўца М. Ляшчынскага, выданне вельмі дакладнае і лаканічнае. Гэтую ж думку выказаў і кандыдат гістарычных навук М. Піваварэў.

Сярод прысутных знаходзіліся нашчадкі выбітных асоб, а менавіта Алена Транкевіч, якая распавяла пра генерала Л. Даватара, і Сара Юдовіна, сваячка віцебскага мастака-графіка Юдовіна, які быў вучнем і паслядоўнікам І. Пэна.

Увазе наведвальнікаў былі прапанаваны выстаўкі "Асобы. Імёны. Лёсы" і "Збіральнікі лёсаў адметных людзей", а таксама прэзентаваныя іншыя праекты РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Арт-лінія

# Майстру — за 90


*Лінагравюра Рыгора Клікушына, прысвечаная 1000-годдзю Віцебска.*

Унікальнай экспазіцыяй парадаваў сваіх наведвальнікаў Віцебскі мастацкі музей. Выстаўка "Віцебск — любоў мая" прадставіла лінагравюры Рыгора Клікушына з фонду абласнога краязнаўчага музея.

**Кацярына СТАСЁНАК, фота Святланы Берасцень**

Пачну з невялікай даведкі пра гэтага выдатнага чалавека. Рыгор Клікушын нарадзіўся ў 1921 годзе ў вёсцы Сладкова Цюменскай вобласці (Расія). Ён удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне, пасля заканчэння якой, у 1946 годзе, пераехаў у Віцебск. У 1956-м скончыў мастацкае аддзяленне Маскоўскага завочнага паліграфічнага інстытута. Выкладаў у Віцебскім дзяржаўным педагагічным інстытуце, з 1970 па 1995 год працаваў мастаком-афармілелем у абласной друкарні. Рыгор Піліпавіч з'яўляецца аўтарам дзевяці кніг і навучальных дапаможнікаў, прысвечаных мастацтву шрыфта. А якая багатая яго творчасць! У аўтарскай скарбонцы Р. Клікушына каля сотні гравюр, пяць серый графічных аркушаў: "Вясковыя краявіды", "Віцебск — любоў мая", "Стары Віцебск", "Успаміны пра малую радзіму", "Полацкі нафтабуд". Яшчэ ён аформіў каля 70 кніг. Рыгора Клікушына называюць віцебскім Юрыем Нікуліным: мастак на працягу многіх гадоў збіраў анекдоты, а затым надрукаваў іх у дзесяці самвыдатаўскіх тамах!

У выставачнай зале музея прадстаўлены работы Рыгора Клікушына 1960 — 1970-х гадоў. На іх адлюстраваны Віцебск. Шаноўнаму майстру пайшоў ужо 91-ы год, ды нягледзячы на такі сталы ўзрост ён з радасцю і хваляваннем распавядае пра Віцебск, сваё жыццё і творы. Вось што сказаў Рыгор Піліпавіч пра свой вернісаж: "У гравюрах, выразаных мною на лінолеуме (такі матэрыял ужо не выпускаецца), усе сюжэты канкрэтныя, гэта ў асноўным краявіды Віцебска, яны не магаюць тлумачэнняў. Глядзіце і ацэньвайце маю творчасць. У гравюрах няма нічога загадкавага: гэта проста цяжкая фізічная праца (рэзаць і друкаваць уручную), аднак праца, якая прыносіць радасць творчасці".

Я глядзела на гэтыя творы мастацтва і разумела: шкада, што не ведала і ніколі не змагу ўбачыць Віцебск такім, які ён паўстае на вывях, але шчасце, што нам ніколі не давядзецца пабачыць перажытае Рыгорам Клікушыным падчас вайны і ў цяжкі пасляваенны час.

На выстаўцы можна пазнаёміцца з кнігай, напісанай мастаком. У ёй — яго біяграфія, распавядаецца і пра ўдзел у экспазіцыях, пра творчыя ўзнагароды; ёсць вялікая колькасць рэпрадукцый яго работ.

Повязі

# Вечар літаратуры і сяброўства


*Алжас Сулейменаў падпісвае кнігу маладым землякам.*

Дыпламатычным зносінам паміж Рэспублікай Беларусь і Рэспублікай Казахстан споўнілася 20 гадоў. У гонар гэтай даты ў Доме літаратара адбыўся творчы вечар Алжаса Сулейменава, народнага паэта Казахстана, вучонага, даследчыка, дыпламата, грамадскага дзеяча.

**Ганна ПАЛЯКОВА, фота аўтара**

Імя Алжаса Сулейменава вядома не толькі ў Казахстане, але і ва ўсіх краінах СНД. Яго паэзія, якая пры канцы 60-х стала сапраўднай падзеяй у свеце літаратуры, не перастае здзіўляць і сёння. Вершы Алжаса Амаравіча адметныя тым, што знаходзяцца на скрыжаванні культур і традыцый. Яны спалучаюць у сабе асаблівы мясцовы каларыт і спецыфіку іншых культур.

На творчы вечар, прысвечаны Алжасу Сулейменаву, прыйшлі аматары яго творчасці, сябры, калегі, землякі. З цёплымі словамі выступілі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец і галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі. Таксама ўзяў слова Пасол Рэспублікі Казахстан у Рэспубліцы Беларусь Ергалі Булегенаў: "Літаратурныя творы — гэта своеасаблівы "мост" паміж дзяржавамі. Літаратура не ведае межаў, яна збліжае народы. Спадар пасол выказаў надзею, што сяброўскія адносіны паміж нашымі краінамі будуць такімі заўсёды.

Арганізатары падрыхтавалі вельмі цікавую праграму. З песнямі выступілі выканаўца Ніна Бранковіч і квартэт "Акалада". На вечары гучалі самыя вядомыя вершы паэта "Волчица", "Жара", "Догони!" і іншыя ў выкананні артыста Алега Вінярскага і артысткі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Тамары Нікалаевай. Алжас Амаравіч пазней сказаў, што яму было вельмі прыемна пачуць свае творы ў такім цудоўным выкананні. Паэт прызнаўся, што нават адкрыў у іх для сябе нешта новае. Па жаданні гасцей Алжас Сулейменаў прачытаў некаторыя свае вершы, а таксама падзяліўся ўражаннем пра Беларусь. Асабліва запомнілася паэту наведванне Брэсцкай крэпасці і Белавежскай пушчы.

Пры канцы мерапрыемства адбылася самая ўрачыстая яго частка: Алжас Амаравіч быў узнагароджаны медалём "За вялікі ўнёсак у развіццё літаратуры". Алжас Сулейменаў стаў першым замежным пісьменнікам, які атрымаў гэтую ўзнагароду.

З-пад пяра

У Цэнтры беларускай культуры ў Даўгаўпілсе прайшоў літаратурна-музычны вечар, прысвечаны народнаму паэту Беларусі Максіму Танку. Тут гучалі вершы Яўгеніі Гуляевай, Галіны Сантоцкай, Вольгі Паўловіч, Барыса Іванова, Марыі Памецькі, Тэрэзы Паўлавай, Артура Каладынскага і Максіма Паташова, а таксама — песня "Завушніцы" на верш Максіма Танка кампазітара Уладзіміра Мулявіна ў выкананні салістаў Уладзіміра Лі і Аляксандра Лапы. Саліст Павел Прозар выканаў знакаміты твор Шуберта "Ave Maria". Ансамбль "Купалінка" і салістка Зінаіда Сіліня праспявалі некалькі беларускіх народных песень. Сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі Станіслаў Валодзька прачытаў верш, прысвечаны Максіму Танку.

**Яніна ВАСІЛЕЎСКАЯ**

У літаратурна-музычнай вечарыне "Я сэрцам пісаў сваю кожную песню…", што ладзіў Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы да 100-годдзя з дня нараджэння Максіма Танка, удзельнічалі Віка Трэнас, Таццяна Барысюк, Дар'я Лосева, Мікола Кандратаў, сябры "Альтанкі" — літаратурнага гуртка пры філфаку БДУ. Гучала класічная і нацыянальная інструментальная музыка ў выкананні студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, вучняў і выкладчыкаў музычнай школы № 10 г. Мінска.

**Вольга ПАЛОМЦАВА**

Напярэдадні Дня бібліятэк мінскія кніжніцы № 14 імя Ф. Багушэвіча і № 4 імя М. Гогаля арганізавалі сумесную акцыю "Гэты дом напоўнены кнігамі". У скарбніцу № 14 завіталі супрацоўнікі бібліятэк, Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, вучні. Чытачам прапанавалі кніжную выстаўку "Веліч памятных радкоў", прысвечаную Янку Купалу і Якубу Коласу; стэнд "Быў. Ёсць. Буду", прысвечаны Уладзіміру Караткевічу; выстаўку, якая пазнаёміць з жыццём і творчасцю Францішка Багушэвіча. Прадстаўлены таксама навінкі беларускіх выдавецтваў.

**Дар'я ШОЦІК**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці пісьменніка, Ганаровага грамадзяніна г. Іванава і Іванаўскага раёна, ветэрана Вялікай Айчыннай вайны Аляксея Трафімавіча КАЎКО.

Калектыў РВУ "Літаратура і Мастацтва" глыбока смуткуе з прычыны смерці журналіста і пісьменніка Аляксея Трафімавіча КАЎКО і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніку Івану Стадольніку ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю ЖОНКІ Валянціны Раманаўны.

# «Я не баюся жыццёвай буры…»

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

Дзякуючы глыбокім агранамічным ведам Людвіка Сівіцкая падрыхтавала і выдала “Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік”. Працу над слоўнікам яна пачала яшчэ ў 1912 — 1913 гадах, жывучы ў Альхоўніках, аднак Першая сусветная вайна змусіла на нейкі час прыпыніцца. З выхадам кніга хутка разышлася і стала бібліяграфічнай рэдкасцю.

Людвіка Сівіцкая думала таксама пра заснаванне дзіцячага часопіса. Яна доўга выношвала ў сваім сэрцы гэтую мару, пакуль у 1927 годзе з Варшавы не прыехаў А. Уласаў і ад імя пасольскага клуба не прапанаваў: “Калі хочаце ганарова працаваць, гэта значыць рэдагаваць і выдаваць беларускі часопіс, то наш клуб дасць вам субсідыю — 30 злотых”. Пісьменніца вырашыла паспрабаваць. Перад выхадам першага нумара “Заранкі” яна, маючы шмат адрасоў, па якіх высылаліся беларускія газеты, выбрала найбольш свядомых падпісчыкаў, даслала ім пробныя нумары. Праз некаторы час набралася дастаткова чытачоў-падпісчыкаў, каб ужо ў трэцяй кніжцы пачаць друкаваць матэрыялы, дасланыя дзецьмі, у аддзеле “Працы нашых чытачоў”. Дзеці нават самі стараліся аплаціць падпіску. Напрыклад, у вёсцы Жалюбчыкі Дзісненскага павета пайшлі спяваць валачобныя песні, каб атрымаць грошы на наступны нумар “Заранкі”. Аднак з кожным годам станавілася ўсё складаней. “Заранка” праіснавала да 1931года.




*Экслібрыс.*

У 1928-м Людвіка стварыла і ўзначаліла Беларускае кааператыўнае пчалярскае таварыства “Пчала”. Таварыства забяспечвала сялян цукрам для падкормкі пчол, перапрацоўвала воск на вузу, рассылала насенне медадайных раслін і зёлак. Сувязь з пчалярамі падтрымлівалася праз пошту і сельскагаспадарчы штомесячнік “Саха”. У штомесячніку існаваў “Пчалярскі раздзел” пад рэдакцыяй Зоські Верас, дзе змяшчаліся паведамленні і аб’явы “Пчалы”. Аднак гэтага было недастаткова. У рэдакцыю прыходзіла шмат лістоў, аўтары якіх чакалі адказу. Было вырашана адкрыць самастойны часопіс. У жніўні 1934 года выходзіць першы нумар пчалярскага часопіса “Беларуская борць”. Станоўчыя рэцэнзіі адразу змясцілі на сваіх старонках часопісы “Українській пасічник” і “Бартнік Велькопольскі”. Першыя пяць нумароў, адбітыя на шапірографе, мелі сціплы выгляд: 8 невялікіх старонак з невыразным, цьмяным тэкстам. З 1935 года “Беларуская борць” пачала выдавацца друкарскім спосабам, яе аб’ём павялічыўся да 28 старонак. Часопіс існаваў за кошт падпіскі. Усе супрацоўнікі рэдакцыі працавалі на грамадскіх пачатках. “Беларуская борць” выдавалася да 1938 года.



*Рамуальд Зямкевіч з Гальяшам Леўчыкам і Зоськай Верас.*

З 60-х гадоў Людвіка Антонаўна актыўна ўключылася ў літаратурнае жыццё Беларусі. Да яе прыязджаў Арсень Ліс, які збіраў матэрыялы для сваёй дысертацыі. Пасля гэтага яе пачалі наведваць пісьменнікі, навукоўцы, журналісты, студэнты. Зоська Верас друкавала ўспаміны пра М. Багдановіча (“Пяць месяцаў у Менску”), Г. Леўчыка, Ядвігіна Ш., У. Галубка і інш, вяла перапіску з літаратарамі і краязнаўцамі, давала інтэрв’ю, ваявала з усімі, хто пасягаў на гістарычную праўду.

У 1982 годзе Людвіка Антонаўна была прынята ў Саюз пісьменнікаў СССР. Рэкамэндацыю на ўступленне ёй далі У. Караткевіч, А. Мальдзіс, А. Ліс.

Праз тры гады, у 1985-м, выдавецтва “Юнацтва” выпусціла зборнік Зоські Верас “Каласкі”. У ім сабраныя творы розных жанраў: вершы, апавяданні, абразкі.

Памерла пісьменніца ў 99-гадовым узросце 8 кастрычніка 1991 г. Яе пахавалі на могілках у Панарах побач з магіламі маці, мужа і сына. Цяпер на гэтых могілках стаіць сціплы помнік з чорнага граніту, на якім выбітыя прозвішчы ўсіх там пахаваных.

# З Вільні — у Германавічы

**Кліменцій КОЖАН**

Імя Зоські Верас знаёмае ў Беларусі, Літве, Латвіі, Польшчы і іншых краінах. Яго ведаюць і помняць у многіх беларускіх школах, якім пісьменніца дапамагала арганізоўваць музеі, у навуковых установах, даследчыкі якіх звярталіся да яе з просьбамі пра кансультацыю. З пашанай згадваюць выбітную дзяячку і ў Шаркоўшчынскім раёне.

На працягу 10 гадоў (1980 — 1990) я працаваў у архівах і бібліятэках Вільні, збіраючы матэрыялы для кнігі “Памяць. Шаркаўшчынскі раён”. Прыязджаючы ў гэты горад, я не мінаў гасцінную “лясную хатку” Зоські Верас. Яна збірала ў гэты час матэрыялы пра заслужаных людзей у беларускай культуры, якія былі малавядомымі або нагул забытымі. Ад яе я мог даznaцца пра жыццё і дзейнасць Марыяна Пецюкевіча, Янкі Пачопкі, Пятра Ластаўкі, Язэпа Шнаркевіча і іншых.

Зоська Верас, Галіна Войцік, Лявон Луцкевіч дапамагалі мне ў зборы матэрыялаў, за што быў ім вельмі ўдзячны. Яны добра арыентаваліся ў віленскіх архівах і бібліятэках, падказвалі, дзе і што шукаць. Лявон Луцкевіч вазіў мяне па беларускіх мясцінах Вільні, дзякуючы чаму я адкрыў багатую беларускую культуру ў Літве.

Сваю “лясную хатку” Зоська Верас ператварыла ў сапраўдны музей-архіў: тысячы лістоў, розныя дакументы, успаміны, рэдкія кнігі, творы беларускіх мастакоў, альбомы. Тут я ўпершыню пазнаёміўся з гісторыяй Віленскай, Радашковіцкай, Навагрудскай, Нясвіжскай беларускіх гімназій, з творчасцю выдатнага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага, пачуў мілагучныя беларускія песні ў выкананні Багдана Андрусішына (Данчыка). Зоська Верас задумала тады стварыць “Партрэты віленчукоў”. Яе працу працягнуў Лявон Луцкевіч. Ён падрыхтаваў 50 партрэтаў беларускіх дзеячаў, жыццёвы і творчы шлях якіх быў цесна звязаны з Вільняй. Пасля смерці Лявона Луцкевіча ў 1997 годзе за гэтую справу ўзялася Галіна Войцік.

Аднойчы Зоська Верас і Лявон Луцкевіч параілі мне пагаварыць на педсавеце маёй школы пра стварэнне ў Германавічах музея мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, жыццё і дзейнасць якога былі цесна звязаны з нашым краем. У час пасяджэння педсавета ў лютым 1983 года было прапанавана ўсяму педкалектыву ўзяцца за збор матэрыялаў для будучага музея. Да справы актыўна далучылася настаўніца рускай мовы і літаратуры Ада Райчонак. Разам з членамі гуртка “Спадчына” яна стварыла гісторыка-краязнаўчы музей у Германавіцкай сярэдняй школе, а крыху пазней — музей мастацтва і этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча, які з 1 лютага 1992 г. стаў дзяржаўным. У зборы матэрыялаў дапамагалі і члены сям’і Ады Эльеўны, асабліва сын Міхась Райчонак. І вось ужо 20 гадоў музей мастацтва і этнаграфіі ў Германавічах паспяхова працуе. Яго наведваюць не толькі жыхары Беларусі, але і госці з Літвы, Латвіі, Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі, Англіі, нават з ЗША.

У жніўні 2004 г. Ада Райчонак адкрыла ў Германавічах прыватны літаратурна-мастацкі музей, дзе сабраныя карціны сучасных беларускіх мастакоў, якія ўдзельнічалі ў пленэрах “Шляхамі Язэпа Драздовіча”.

Вось так дзякуючы ініцыятыве і падтрымцы Зоські Верас і Лявона Луцкевіча ў Германавічах цяпер працуюць тры музеі.

# Бывайце, дарагі Аляксей Трафімавіч!



23 верасня на 91-м годзе жыцця перастала біцца сэрца пісьменніка, першага рэдактара іванаўскай раённай газеты “Чырвоная звязда”, якой кіраваў да выхаду на заслужаны адпачынак, выдатнага журналіста, пісьменніка, грамадскага дзеяча, мудрага, зычлівага чалавека Аляксея Трафімавіча Каўко.

Нарадзіўся Аляксей Трафімавіч 28 сакавіка 1922 года ў вёсцы Міраслаўка Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці. У 1940 — 1941 навучальным годзе скончыў 10 класаў Сялібскай сярэдняй школы. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны — ваяваў з фашысцкімі захопнікамі ў складзе 208-га партызанскага палка. За баявыя заслугі ўзнагароджаны ордэнамі Баявога Чырвонага Сцяга і Вялікай Айчыннай вайны II ступені, шасцю медалямі, у тым ліку “Партызан Вялікай Айчыннай вайны I ступені”, “За перамогу над Германіяй у 1941 — 1945 гг.”

З 1944 года, пасля заканчэння курсаў партыйна-савецкага актыву ў Мінску — на журналісцкай рабоце. Працаваў рэдактарам Жабчыцкай райгазеты, газеты палітаддзела Лагішынскай МТС, Лунінецкай раённай газеты, уласным карэспандэнтам газеты “Заря”. З 1965 года і да выхаду на пенсію працаваў рэдактарам іванаўскай райгазеты “Чырвоная звязда”. Завочна атрымаў вышэйшую адукацыю — скончыў ВПШ пры ЦК КПСС. За дасягненні ў працы ў 1971 годзе прысвоена званне “Заслужаны дзеяч культуры Беларусі”. Удастоены трох Ганаровых грамат Вярхоўнага Савета Беларусі.

Літаратурную працу пачаў падчас вучобы ў школе. Калі хадзіў у 7 клас, часопіс “Іскры Ільіча” надрукаваў яго апавяданне “Вавёрачка”. Працягваў літаратурны занятак, працуючы ў газетах. Удзельнічаў у першай пасляваеннай рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў. Там было абмеркавана апавяданне “Піянер”, якое друкавалася ў часопісе “Бярозка”, а потым было ўключана ў хрэстаматыю для 4 класа “Роднае слова”. За апавяданне “Васіль прыехаў” у 1952 годзе атрымаў другую прэмію на конкурсе газеты “Чырвоная змена”. Яно было ўключана і ў альманах “На сонечных сцежках”. У свой час высокую ацэнку калег-літаратараў атрымала апавяданне “Я і мая мама”, змешчанае ў часопісе “Работніца і сялянка”.

Апавяданні, гумарэскі, байкі рэгулярна на працягу ўсяго жыцця друкаваліся ў часопісах “Маладосць”, “Работніца і сялянка”, “Вожык”, “Родная прырода”, у газетах “Літаратура і мастацтва”, “Звязда”, “Беларуская ніва”, “Чырвоная змена”, “Заря”, “Народная трыбуна” і іншых, а таксама ў калектыўных зборніках “На сонечных сцежках”, “Вожык смяецца”…

Асобнымі выданнямі выйшлі кнігі “Смех не грэх”, “Пад гоман вогнішча”. Аповесць “На крутых паваротах” друкавалася ў газеце “Заря”. На выхадзе яго пасмяротная кніга “Неад’емнае”.

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага саюза журналістаў.

За выключныя заслугі перад раёнам Аляксей Трафімавіч Каўко ўдастоены звання Ганаровы грамадзянін г. Іванава і Іванаўскага раёна.

Мы глыбока смуткуем з выпадку незваротнай страты творцы высокага палёту, тонкага знаўцы жыцця і выдатнага майстра слова.

А родным і самым блізкім — нашы шчырыя спачуванні. Падзяляем вашыя смутак і боль.

Бывайце, шаноўны Аляксей Трафімавіч! Бязмежнага Вам неба і мяккай ды цёплай, як пух, зямлі. Вы назаўсёды — у нашай памяці.

**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**

# Трохмоўнае сяброўства

Калі ў рукі мае патрапіла гэта кніга, то я нават крыху разгубілася: Саюз пісьменнікаў Дона да 75-годдзя Растоўскай вобласці выдаў кнігу вершаў беларускай аўтаркі з мілагучным імем Надзея Верас. У зборнік увайшлі творы Надзеі на беларускай мове, а таксама іх пераклады на рускую, зробленыя членам Саюза пісьменнікаў Дона Леанідам Северам, і на ўкраінскую — паэтэсай з Таганрога Вольгай Сафронавай. На сустрэчу яны прыйшлі разам: Надзея і Леанід, які на некалькі дзён завітаў у Мінск. “А давайце я вам спачатку свой верш прачытаю”, — прапанаваў госць.

*В белёсой одежде леса и поля —*
*Земля моей ветреной воли…*
*С надеждой, как прежде,*
*шумят тополя*
*И всё мне знакомо до боли.*

*Здесь юность моя*
*той же стежкой бредёт,*
*А хлеб по-особому вкусен,*
*И сойка поёт, и солнце встаёт*
*Над милой моей Беларусью...*

Леанід СЕВЕР



Надзея ВЕРАС






**Н.В.:** Нават песня ёсць на гэтыя радкі! А ўпершыню гэты верш пачула — у мяне слёзы былі на вачах...

**Л.С.:** Гэтыя радкі нарадзіліся пасля мінулага візіту ў Беларусь. Я з’ездзіў у Хатынь, у Брэсцкую крэпасць, а потым патрапіў у невялікі горад Кобрын, у якім знаходзіцца шыкоўны аквапарк, а насупраць яго — трохпавярховая Дзіцячая школа мастацтваў... Што яшчэ казаць?

**Т.С.:** Скажыце, напрыклад, дзеля чаго вы з Надзеяй знайшлі адно аднаго, як разбурылі сваёй творчасцю межы, створаныя людзьмі?

**Л.С.:** Усё атрымалася вельмі натуральна. Напаткаў у інтэрнэце сайт з вершамі беларускіх аўтараў па-беларуску. Я больш як 20 гадоў жыў у Беларусі, ведаю мову, так што паспрабаваў штосьць перакласці — атрымалася! З адным аўтарам, другім, трэцім... З Надзеяй атрымалася больш за ўсіх — недзе з тузін перакладаў. І ўзнікла думка ўкласці сумесны зборнік — спачатку двухмоўны. Але лёс звёў нас з Воляй Сафронавай, якая жыла вельмі доўгі час ва Украіне, а цяпер жыве і працуе ў Таганрогу. Яна таксама паспрабавала перакласці Надзею... Так мы разбурылі межы, творы загучалі на трох мовах, і, паклаўшы побач тры тэксты, любы чалавек можа адчуць, якія мы блізкія адно да аднаго.

**Т.С.:** Вершы дапамагаюць паяднаць цэлыя народы?

**Л.С.:** Раней у гэтым не было неабходнасці. Быў пэўны аўтар, якога перакладалі, выдавалі і вывучалі ў школах па ўсім СССР. Апошнія дваццаць гадоў такога няма. А нас звёў лёс — я наогул упэўнены, што ў жыцці ўсё невыпадкова.

**Н.В.:** Мяне наогул уразіла, што Леанід да мяне звярнуўся. Усё атрымалася так шчыра і нязмушана. Я ж аўтар невядомы, больш для сябе пішу, раней друкавалася ў сваёй раённай Маладзечанскай газеце — і ўсё. А Леанід жа не проста даслаў мне гатовыя пераклады — маўляў, “глядзі, я пераклаў” — мы працавалі разам, ён пытаўся ў мяне, што я мела на ўвазе, пра што хацела сказаць... У нас быў жывы кантакт!

**Л.С.:** Вы ж разумееце, што мужчыну цяжкавата перакладаць жаночыя вершы — тут іншая псіхалогія.

**Т.С.:** Вольга Сафронава вашаму дуэту не перашкодзіла?

**Л.С.:** Яна ў яго ўлілася — нават узяла адпачынак і цэлы месяц перастварала вершы Надзеі.

**Т.С.:** А кажуць, што сёння ніхто не будзе працаваць “за ідэю”...

**Н.В.:** Яна спецыяльна паехала ва Украіну, кансультавалася з настаўнікамі ўкраінскай мовы.

**Л.С.:** Я сам перад тым, як выдаць зборнік, раіўся з прадстаўнікамі рэгіянальнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі. Дарэчы, хочацца яшчэ раз падзякаваць Саюзу пісьменнікаў Дона, а асабліва яго старшыні — Івану Іванавічу Снісарэнку — за выхад гэтай кнігі. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Юрый Мацюшка напісаў рэцэнзію, свае важкае слова на першых старонках яе пакінулі таксама член Праўлення Саюза пісьменнікаў Дона Аляксей Палій і настаўніца вышэйшай катэгорыі, ветэран працы Галіна Астапава. А яшчэ дзякуй “ЛіМу”, што звярнулі ўвагу на плён нашай працы. Наогул жа, кніжка прэзентавалася ў губернатара, у нашага мэра, на літаб’яднаннях — і заўсёды яна выклікае жывую цікавасць: людзі пачынаюць параўноўваць, знаходзяць нешта агульнае з уласнай душой.

**Т.С.:** Вяртаючыся да творчасці, варта згадаць, што прафесіі вашыя далёкія ад літаратуры — медсястра, буравы майстар… Вольга Сафронава наогул — авіяцыйны інжынер-канструктар! Што ж паклікала вас да творчасці, ці стала паэзія другой прафесіяй?

**Л.С.:** Я ўжо даўно пішу вершы. Маю некалькі кніг, член Саюза пісьменнікаў Дона. Але я не ўяўляю, як вершы могуць стаць прафесіяй. Бываюць людзі, якія кожны дзень пішуць па два-тры творы і лічаць іх геніяльнымі, пакуль нехта больш дасведчаны не скажа, дзе ў яго не так. Спачатку чалавек крыўдзіцца, канечне, а пасля пачынае думаць, працаваць над вершам і, калі дасягае пэўнага ўзроўню, нават на замову не можа скласці некалькі радкоў. Як?! Калі не адчуў, не пражыў іх?

**Н.В.:** Я таксама імкнуся вучыцца, шмат бяру і ў Леаніда. Так атрымалася, што ніхто не мог мне падказаць, але я адчувала, што трэба працаваць, і імкнулася да дасканаласці.

**Т.С.:** Аднак столькі вершаў сёння выкладаецца ў інтэрнэт — вершаў бездапаможна-слабых, — але і на іх знаходзяцца аматары, якія ўхваляць. Як вам падаецца, што адбываецца: зніжэнне чытацкіх густаў ці парогу адказнасці аўтара перад словам?

**Л.С.:** Я б на гэта зірнуў крыху інакш: з аднаго боку, усё, што адбылося з намі за апошнія дзесяць гадоў, крызіс адукацыі ў параўнанні з савецкім часам, — усё гэта выклікала пэўны эмацыйны выбух, людзі пачалі выліваць сваю незадаволенасць на паперу — лаяцца ў рыфму!

**Н.В.:** Я, напрыклад, пачала пісаць яшчэ ў школе, саромелася спачатку, але потым з’явілася неадольная патрэба занатоўваць радкі, якія прыходзяць. Але мая грамадзянская лірыка — гэта найперш творы пра Радзіму, маю Беларусь.

**Т.С.:** Ці павінен аўтар уласнай творчасцю адстойваць пэўныя каштоўнасці, штосьці змяняць у гэтым жыцці, быць “больш, чым паэтам”?

**Н.В.:** Я лічу, безумоўна. У кожным творы — твая пазіцыя. Канечне, можна сядзець моўчкі, але тады пра нас будуць ведаць толькі праз СМІ, а гэта не заўжды станоўчае меркаванне. Я здзіўлялася і радавалася, калі інтэрнэт-чытачы маіх беларускамоўных твораў пісалі мне, што яны ўсё разумеюць, хвалююцца за нашу краіну і ўражваюцца таму, што ў нас пішуцца падобныя вершы пра любоў да Бацькаўшчыны.

**Л.С.:** Мне падаецца, што паэт заўжды больш востра адчувае тыя сацыяльныя моманты, дзе дзяржава і грамадства разыходзяцца ў сваіх памкненнях. Мы жывём сярод людзей і падзяляем іх думкі, настроі.

**Т.С.:** Як творцу з Расіі даведацца, што сёння хвалюе яго калегу з Беларусі, Украіны? Як сустрэцца паэту і перакладчыку?

**Л.С.:** Цяжка… У Расіі ўвогуле мала ўвагі надаецца літаратуры, кнізе.

**Н.В.:** А ў нашай краіне аб’яўлены Прэзідэнтам Год кнігі прымусіў многіх зазірнуць у кнігарні!

**Л.С.:** Добра, канечне, калі ўся творчая інтэлігенцыя працуе на адну мэту, як у вас, а калі кожны пачынае цягнуць коўдру на сябе… У Таганрогу, да прыкладу, два літаратурныя аб’яднанні. Зразумела, што творчых асоб шмат, але хацелася б, каб усе гэтыя людзі знайшлі агульны аб’ядноўчы пачатак.

**Т.С.:** Што магло б стаць такім пачаткам?

**Л.С.:** Дабро і любоў.

**Н.В.:** І, зразумела, літаратура! Добрая літаратура.

**Т.С.:** Ці будзе працяг у вашага “трохмоўнага сяброўства”?

**Л.С.:** У мяне ўзнікла ідэя новага зборніка. Ёсць тэма, якая нас аб’ядноўвае — памяць пра апошнюю вайну. У Беларусі вельмі цёплае стаўленне да захавання гэтай памяці, ва Украіне — іншая сітуацыя з патрыятычным выхаваннем, але я хацеў бы ўзяць вершы беларускіх аўтараў пра Вялікую Айчынную, перакласці іх на рускую мову, на ўкраінскую і выдаць да 9 мая наступнага года. Гэта быў бы сапраўды сур’ёзны праект і выдатны падарунак для ветэранаў. Так што запрашаю і паэтаў-чытачоў “ЛіМа” да супрацоўніцтва — дасылайце творы на мой электронны адрас: sever.1959@mail.ru.

**Т.С.:** Спадзяюся, што ў наступны ваш прыезд у Беларусь мы абмяркуем вынікі гэтага праекта, а пакуль прапануем пазнаёміцца з вершамі Надзеі Верас!

**Таццяна СІВЕЦ**

Надзея Верас

## На далонях тваіх

*На далонях тваіх*
*Ціха сны песціць вецер…*
*Мы з табой — удваіх*
*У вялікім Сусвеце…*

*Толькі я, толькі ты*
*Ў далячыні яскравыя*
*Удваіх паляцім…*
*Ні аб чым больш не мару я.*

*Кожны крок, кожны ўздых —*
*Буду толькі з табой!*
*На далонях тваіх*
*Я знайду супакой…*

## Красавіцкі снег

*Пер’ем…*
*Белым пер’ем высцілае снег зямлю,*
*Я лаўлю яго рукамі і дзіўлюся —*
*Снег з мяцеліцаю ў красавіку?!*
*Я яму з усмешкай пакланюся…*

*Белізной засыпаў вуліц чарнату,*
*Стомленых працягла зімою,*
*У карунку пазахутваўшы вярбу,*
*Шапкі белыя ўсклаўшы ўсім таполям.*

*Час нядоўгі гэтай белізны —*
*Мо да ранку і яна растане…*
*Напазычыла зіма дзён у вясны, —*
*Нас з табою адпусціць не ў стане!*

## Мая зямля

*Зямля маіх бацькоў і продкаў,*
*Зямля Купалы, Коласа зямля!*
*Азёрамі вачэй глядзіш самотна…*
*Ты, сэрцу мілая, заўжды такой была!*

*Душы тваёй не вытапталі войны,*
*Не пала ніц ты ў жорсткіх дзеляжах.*
*Мой мілы край, зялёны, ціхі, вольны,*
*Дзяцей сваіх ты песціш на руках.*

*Заўсёды ты ў сабе шукала сілу,*
*Ты з прыскy паўставала і жыла…*
*І песні, недапетыя Максімам,*
*У сэрцы назаўсёды зберагла.*

*Мая Радзіма, мілы мой куточак!*
*Калыска талентаў і родны край буслоў…*
*Няхай нішто цябе больш не азмрочыць!*
*Хай птушкі зноў вяртаюцца дамоў…*

# Беларусь у сэрцы

Ізяслаў КАТЛЯРОЎ

Дамовіўшыся з рэдакцыяй пра юбілейны артыкул да 60-годдзя Алеся Кажадуба і паклаўшы трубку тэлефона, я зразумеў, за якую няпростую справу ўзяўся. Так, у мяне двойчы былі ў гэтым шаноўным выданні публікацыі пра творчыя здабыткі Алеся Кажадуба. Але гэта сціплыя, хаця і захопленыя, чытацкія развагі, уражанні пра асобныя творы. А тут з нагоды юбілею трэба гаварыць амаль пра ўсё, што перажыта і створана ім. І гэта пра пісьменніка, які застаўся беларускім, нават жывучы ў Маскве, працуючы ў "Литературной газете", рэдагуючы расійска-беларускі дадатак да яе з вельмі характэрнай назвай "Лад". Ён жа з'яўляецца галоўным рэдактарам некалі слыннага выдавецтва "Советский писатель", укладальнікам грунтоўнай анталогіі беларускай паэзіі, якая ў серыі "Из века в век" пабачыла свет у Расіі...

Тым, хто больш-менш знаёмы з яго творчасцю, нагадваць біяграфічныя акалічнасці, мабыць, і не трэба. Лірычнае "я" Алеся Кажадуба амаль ніколі не разыходзіцца з уласным. Падсвечанае рэдкай цяпер у творцаў самаіроніяй, яно пераконвае, ніколькі не імкнучыся пераконваць. Шчырасць, натуральнасць, з якой ён ствараe сваю мастацкую рэальнасць, зачароўвае. Талент нібыта сам робіць майстэрства незаўважным…

Але я пішу юбілейны артыкул. Таму нагадаю, што нарадзіўся пісьменнік 27 верасня 1952 года ў Ганцавічах (Брэсцкая вобласць). Бацька — бухгалтар, маці — хатняя гаспадыня. Дзіцячыя і школьныя гады прайшлі ў Рэчыцы і Навагрудку. Закончыў рускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ. Працаваў настаўнікам рускай мовы, літаратуры і… фізкультуры ў Крайскай сярэдняй школе Лагойскага раёна. Вытрымаў конкурс на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР. А праз два гады стаў рэдактарам літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. Потым быў чатырохгадовы перыяд працы ў аддзеле нарыса і публіцыстыкі часопіса "Маладосць". У 1985-м закончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве, дзе і жыве… Пераказваю, а сам у думках прыгадваю, з якой лірычнай маляўнічасцю ўсе гэтыя жыццёвыя рэаліі набылі мастацкае ўвасабленне ў яго творах.

Першае апавяданне на беларускай мове Алесь Кажадуб надрукаваў у часопісе "Маладосць" у 1976 годзе. Называлася яно "У канцы лета". Вось як пра гэта ў аповесці "Без настальгії" прыгадвае сам юбіляр: "Загадчык аддзела прозы часопіса Уладзімір Дамашэвіч зазначыў: «Цэлы аўтарскі аркуш. А скарачаць не хачу — лёгка чытаецца…»" Такую ж натхнёную лёгкасць можна адчуць ці не ва ўсіх яго аповесцях, апавяданнях, эсэ. Але пагадзіцеся, каб пісаць мастацкі твор, у якім прысутнічаюць вядомыя беларускія пісьменнікі (той жа Уладзімір Дамашэвіч, Іван Чыгрынаў, Уладзімір Караткевіч, Алесь Жук, Яўген Лецка і іншыя), трэба адважыцца. Ды і тыя, каго не называе, лёгка пазнаюцца дзякуючы трапнаму слову назіральнага аўтара. Што ж, напэўна, гэта і ёсць праяўленне сапраўднага таленту, калі факты жыцця ператвараюцца ў мастацкае паветра твора, у іншую рэальнасць… Неяк у размове Алесь Кажадуб зазначыў, што ўмее і любіць пісаць толькі пра асабіста перажытае і пабачанае. Наконт "умее толькі" магу і паспрачацца, бо даводзілася чытаць яго цудоўныя гістарычныя эсэ. А наконт "любіць" варта пагадзіцца. Адчуваецца, што многія героі маюць рэальных прататыпаў. Можа, таму яны звычайна адной-дзвюма фразамі трапна характарызуюць самі сябе нават тады, калі гавораць зусім пра іншае. Гэтая своеасаблівая "дакументальнасць" надае лірычным творам менавіта той духоўны каларыт, якому вершыш пачуццём.

Дэбютная публікацыя на рускай мове адбылася пазней — у 1985 годзе. Часопіс "Юность" надрукаваў апавяданне "Ошибка". Потым аповесці і апавяданні друкаваліся ў "Маладосці", "Полымі", "Нёмане", "Всемирной литературе", "Юности", "Дружбе народов", "Нашем современнике", "Москве", "Слове", "Московском вестнике", "Литературной газете" і, вядома ж, у штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Гэта, аднак, няпоўны пералік. Празаік запатрабаваны.

Наўрад ці можна дзяліць творчасць лірычнага пісьменніка на нейкія перыяды. І ўсё ж калі ўдумаешся, то заўважаеш, што жыццё з усёй яго непрадказальнасцю само робіць гэта. Спачатку Кажадуб, свядома ці падсвядома, застаўся верным рэалістычным традыцыям. Асноўныя тэмы — вайна (апавяданні "У лютаўскую завіруху", "Даўгі нашы", "Пастаялец"), пасляваенная дзяцінства (аповесці "Гарадок", "Доўгі дзень Мацака", "Дарога на замчышча", апавяданні "Сад", "Вялікдзень", "Кільдым", "Мае рэкі"), жыццё беларускай глыбінкі (аповесці "Старая хата", "Высоко солнышко, высоко", "Сретенье", "Пара седых коней", "Палескія сны", "Хутар"). Гэтыя творы не засталіся незаўважанымі. Крытык І. Пітляр, у прыватнасці, пісала: "Маладога беларускага празаіка я ўпершыню адзначыла для сябе ў 1983 годзе, калі ў часопісе "Нёман" з'явілася яго аповесць "Старая хата"… Запомніліся вострая назіральнасць, лірызм, відавочны аўтабіяграфізм, — гэта значыць, апора на ўласны жыццёвы вопыт, натуральнасць, непасрэднасць тону…" Ды і іншыя не маглі не заўважыць відавочную жыццярадаснасць, лагоднасць, дабрыню, якія адразу ж вызначаюць яго. Істотных канфліктаў у творах няма, ніякіх драм асабліва не прадбачыцца… Цудоўна ўмее паказаць тое, пра што апавядае. Любіць і па-свойму ўвасабляе прыроду. Піша "шчыльна", цэніць "трапнае" слоўцу і яркую дэталь.

Чытаць яго цікава і пазнавальна. Толькі з аднаго апавядання "Сюр" можна даведацца, напрыклад, пра Віцебск больш, чым ці не з усіх даведнікаў пра гэты горад. А падзеі, заўважце, адбываюцца ў нашы дні на "Славянскім базары". Аказваецца, яшчэ ў XVI стагоддзі ў Віцебск прызначылі ўніяцкім архіепіскапам Іасафата Кунцэвіча, які забараніў праваслаўную веру. Вось яго і забілі, за што горад быў пазбаўлены Магдэбургскага права. Не менш захапляльныя развагі пра віцебскі перыяд жыцця Шагала — дарэчы, аднаго з заснавальнікаў сюррэалізму. У гэтым жа апавяданні згадваецца тысячагадовая Дабравешчанская царква, складзеная яшчэ з вапняковых пліт у грэчаскай традыцыі. Між іншым, акно гэтай царквы сарыентавана на першы прамень сонца. Такога нідзе больш няма. Тройчы спрабавалі ўзарваць яе, але не здолелі. Калі вам і гэтага недастаткова, то, чытаючы апавяданне, даведаецеся, што віцэ-губернатарам горада быў у свой час вядомы рускі пісьменнік Іван Лажэчнікаў, а Дзяржавін інспектаваў Паўночна-Заходні край. Усе гэтыя і іншыя звесткі надзвычай натуральна выглядаюць у мастацкім асяроддзі твора. Яны зусім не замінаюць сачыць за таксама натуральнай захапляльнасцю сюжэта. А апавядальнік Алесь Кажадуб іскрамётны, імправізацыйны.

Зрэшты, я павінен звярнуцца да наступнага перыяду творчасці аўтара. А ў ім відавочна, што Алесь Канстанцінавіч першым з беларускіх пісьменнікаў пасляваеннага пакалення шукаў і знаходзіў сваіх герояў у фальклорных глыбінях. Лесавік, дуб, ваўкалакі прысутнічаюць у творах гэтак жа натуральна, як людзі. Талент празаіка набывае яшчэ большую паэтычнасць. Аповесць "Лесавік" часам параўноўвалі з "Прощанием с Матёрой" В. Распуціна. Апавяданні ж, напісаныя ў 90-х гадах мінулага стагоддзя, вызначаюцца не толькі слоўнай маляўнічасцю, але і ўнутранай цэласнасцю. Вось як ахарактарызаваў іх крытык М. Федзь: "Ім уласцівы вольная раўнавага кампазіцыі, эмацыйная насычанасць вобразаў і стылю, а разам з тым стрыманасць пачуццяў і крыху падфарбаваны іроніяй апавядальны тэмбр. Нярэдка ў іх сюжэтную тканіну ўрываюцца рэзкія гукі звар'яцелай рэчаіснасці, што ўносяць дысананс і трывогу". Прыемна, што крытык таксама адзначае "безумоўную беларускасць" гэтых апавяданняў. "Народныя абрады, песні, павер'і, замовы, гумар з'яўляюцца душой яго прозы…" А вось што наконт гэтага гаворыць сам пісьменнік: "Для мяне адухоўленая ўся прырода, яна і чалавек — адзіная цэлае. Мне здаецца, гэтыя палескія матывы могуць дадаць у вялікую літаратуру нейкі дадатковы штрых, здольны ўзбагаціць яе хаця б у «малым»".

З апавяданняў на гістарычную тэму вызначаюцца "Залатая свіння", "Забойства па рытуалу", "Хутар". У апошнім — перапляценне сялянскіх праблем мінуўшчыны: кавалак зямлі і ўлада, што гэтым кавалкам распараджаецца. Гаспадар "кавалка" ва ўсім залежыць ад улады і ўсё ж імкнецца застацца самім сабой. Паўстае вобраз селяніна, што жыве не дзеля надзённага хлеба, а для спасціжэння сэнсу жыцця.

Цудоўныя якасці самабытнага таленту Алесь Кажадуб захоўвае і ў апавяданнях, прысвечаных Вялікай Айчыннай вайне: "Даўгі нашы", "Камендант". Дарэчы, каларытным героем апошняга з'яўляецца дзядзька пісьменніка Васіль Кажадуб… З твораў на сучасную тэму многія літаратурныя аглядальнікі зацікаўлена адзначалі апавяданні "Нацмэн", "Чачэн", "Зардак", "Мікалюкас", "Туфлі з кракадзілавай скуры", "Юшка ў Піцундзе", "Вельмі злосная жонка татарына", "Люська, Тонька і Швондэр", "Тост за Расію"… Рэаліі нашага сённяшняга жыцця паўстаюць у іх з усёй бязлітаснасцю мастацкай праўды.



"Алесь Кажадуб забяспечвае прысутнасць беларускага голасу ў рускай культурнай сітацыі. Гэтая не ўлічаная сітуацыя вельмі важная цяпер, калі… проза ў Беларусі спынілася для рускага чытача на прозвішчах Быкава і Алексіевіч", — слушна зазначыла Любоў Турбіна. Сваю думку на творчыя здабыткі пісьменніка ў апошнія гады выказаў і крытык С. Казначэеў. Ён лічыць, што яны напісаныя ў рэчышчы "новага рэалізму", дзе рэальнасць суседнічае з вымыслам, сучаснасць з гісторыяй, смешнае з трагічным.

І ўсё ж, падаецца, самабытны талент, якім шчасліва адораны Алесь Канстанцінавіч, — па-за межамі слоўнага вызначэння. Той, хто чытаў эсэ "Рака вады жывой", прысвечанае гісторыі беларускага этнасу, падтрымае мяне. Ніколькі не губляючы ўласцівай яму адухоўленай паэтычнасці, пісьменнік на падставе археалагічных, этнаграфічных, гістарычных і лінгвістычных даследаванняў выказвае ўласную тэорыю ўзнікнення беларускага этнасу. Яшчэ больш поўнае ўвасабленне ўсё гэта знайшло ў кнігах "Иная Русь", "Русь і Літва", "Дарога на Маскву". У выдавецкай анатацыі да апошняй, між іншым, сказана: "Тэта кніга ўпершыню ў расійскай гістарычнай літаратуры дае поўны і падрабязны аналіз этнагенезу заходняй галіны ўсходнеславянскага этнасу і яго развіцця ад старажытнейшых часоў да Сярэдніх вякоў. Аўтар аддае на суд чытачоў сваю сенсацыйную інтэрпрэтацыю пантэона славянскіх багоў, што, несумненна, будзе карысна для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй дахрысціянскай Русі". Так, пісьменнік зрабіў тое, што пакуль не змаглі зрабіць навукоўцы. Вынікам шматгадовых даследаванняў самых розных фактаў і тэорый узнікнення і развіцця беларускага этнасу, асэнсавання гістарычных канцэпцый (ад "нарманскай" да пасіянарнага выбуху Л. Гумілёва) стала яго ўласнае разуменне. У ім ён нічога не ідэалізуе. І тым не менш з пранікнёнай паэтычнасцю гучаць яго словы прызнання: "Пачуццё ракі, любоў ракі, засталося са мной ад Дняпра. Рачная вада хвалюе, зацягвае, мне зразумелыя яе гукі і пахі, і бачу я рыб, якія слізгаюць у рыжавата-зялёнай глыбіні. Дняпро, галоўная рака ўсходніх славян, працякае ў маім сэрцы заўсёды…"

# Каменьчыкі бываюць рознымі

Ганна АТРОШЧАНКА

Кнігі бываюць рознымі: цікавымі, лірычнымі, рамантычнымі, гумарыстычнымі… Але, мусіць, самае галоўнае для пісьменніка — каб творы запаміналіся, выхоўвалі чытача, дарылі глыбокі роздум, добры настрой.

Вось і новая кніга прозы "Камушки" Алеся Атрушкевіча менавіта такая — запамінальная. Як прызнаецца сам аўтар, у рэальнасці падзеі, апісаныя ў кнізе, не адбываліся. Гэта выдумка, крылатая фантазія творцы.

З гумарам напісаныя некаторыя эпізоды з жыцця героя — амерыканца Лёні Сёміна, які вяртаецца ў родны горад з далёкага замежжа. Падкрэслю: былы гамяльчанін не засумаваў па сябрах дзяцінства! Моцна непакояць і прыцягваюць яго схаваныя калісьці пад стромкімі соснамі ля вясковых магілак каштоўныя каменьчыкі.

За час, пакуль Лёня адсутнічаў, шмат чаго цікавага адбылося ў родным горадзе. Ліс (такая мянушка ў героя) сустракае на сваім шляху розныя прыгоды і, нягледзячы на прыродную хітрасць і асцярожнасць, неадночы трапляе ў непрыемныя сітуацыі. У якія? Не будзем цалкам раскрываць змест новай кнігі "Камушки". Лепей, шаноўныя, зазірніце ў бібліятэку, пацікаўцеся, прачытайце…



# Што патрэбна чалавеку?




Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Кожны з трох літаратурна-мастацкіх часопісаў, што асвятляюцца ў аглядах, мае ўласнае аблічча і прадстаўляе сабой своеасаблівы псіхалагічны тып. “Полымя”, чыё 90-годдзе будзе адзначацца ў снежні, адметнае сваёй грунтоўнасцю, узважанасцю і няспешнасцю сталага выдання. Апошнія рысы напоўніцу праявіліся на старонках жнівеньскага нумара.

Часопіс адкрываецца “жыццёвінкамі” Васіля Ткачова, якія маюць назву “Мы”. На лёсы розных людзей і іх гісторыі аўтар часцей за ўсё глядзіць збоку (акрамя мініяцюры пра аднакласніцу). Ён дэманструе сваю назіральнасць і жыццёвы досвед, але не выказвае ўласную пазіцыю. Напрыклад, у адным з абразкоў да Пятроўны прыязджаюць унукі з Сахаліна. А яна, не маючы магчымасці іх пракарміць, збягае ў бальніцу. Як трактаваць яе ўчынак — вырашаць чытачу. Зрэшты, асобныя “жыццёвінкі” варта было б, на маю думку, “раскруціць” да аб’ёмаў аповесці.

Апавяданне Юліі Зарэцкай “Свет не без добрых людзей” з’яўляецца часткай цыкла “Дунілавіцкія былі”, у якім гаворка ідзе пра жыццё вёскі Дунілавічы на Пастаўшчыне, радзімы аўтара. Дзеянне твора разгортваецца падчас Вялікай Айчыннай вайны, у цэнтры ўвагі — генацыд яўрэйскага насельніцтва. Але падзел герояў на адназначна станоўчых і выключна адмоўных, а таксама пэўная схематычнасць у адлюстраванні падзей могуць уздзейнічаць хутчэй на аўдыторыю, мала знаёмую з лепшымі ўзорамі ваеннай прозы. Зрэшты, не буду выключаць верагоднасці, што пісьменніца ставіла перад сабой задачу дакументальнай фіксацыі жыцця пад акупацыяй, якое яна ўвасобіла ў мастацкім жанры.

Давер часопіса да маштабных, эпічных жанраў праяўляецца ў публікацыі буйных твораў. Рэдакцыя працягвае знаёміць чытачоў з раманам Уладзіміра Гніламёдава “Ліхалецце”, а таксама з “Сонцам над галавой” Уладзіміра Ліпскага (друкуюцца лісты аўтара да ўнука).

З нізкі Алега Салтука найбольшае ўражанне пакінуў верш “Сон”, у якім убачыліся ясенінскія матывы. Калі рускі паэт рытарычна пытаўся: *“Жизнь моя, иль ты приснилась мне?”*, беларускі творца працягвае: *“Сон аднойчы прысніўся вясёлы // У самоце начное маёй: // Ці то лебедзі, ці то анёлы // У сінечы плылі над зямлёй. <…> Не магу я пра сон той забыцца: // Нада мной — белакрылая раць…// Мне здаецца: жыццё толькі сніцца. // Дзе яно, трэба ў неба спытаць”*.

Паэтычная падборка Віктара Гардзея “Легенды” фактычна знаходзіцца на памежжы лірыкі і эпасу, творы могуць быць аднесеныя да балад на легендарным матэрыяле. Сюжэты іх раскрываюцца ў назвах: “Скуль узяўся бусел”, “Адкуль пайшлі ваўкі” і “Адкуль пайшлі Смалявічы”. Падчас чытання ўзнікае адчуванне абсалютнай натуральнасці падзей і раскрываемых творцам вобразаў. Застаецца толькі захапляцца шчодрай фантазіяй аўтара і багаццем яго паэтычнай скарбонкі.

Грунтоўнымі, акадэмічнымі атрымаліся літаратуразнаўчыя артыкулы Тамары Нуждзіной і Пятра Маляўкі. А вось праца Зінаіды Драздовай “Літаратура патрэбна чалавеку заўсёды” (другая частка агляду айчыннай прозы за мінулы год) выклікала непаразуменне. З аднаго боку, шчыра парадавала высокая ацэнка твораў А. Брава, У. Сцяпана, А. Федарэнкі і іншых таленавітых пісьменнікаў. З другога, станоўчыя водгукі атрымалі фактычна ўсе (!) разглядаемыя творы. Нельга не ўсцешыцца такім шчырым пазітыўным настроем аўтара. Але ў мяне не могуць не ўзнікнуць сумненні. І як у крытыка, які рэцэнзаваў шэраг публікацый і не знайшоў там удаў. І як у рэалістычна настроенага чытача, які разумее, што сітуацыі, калі ўсе творы напісаныя добра, проста не існуе.

Думаю, вялікую цікавасць у чытачоў выкліча пераклад паэмы Міхаіла Лермантава “Ліцвінка”, здзейснены Уладзімірам Скарынкіным. З аднаго боку, сюжэт звязаны з беларускай гісторыяй (дзеянне адбываецца каля мяжы ВКЛ і Маскоўскага княства). З другога, на нашай мове гучыць класіка, знаёміцца з якой — сапраўдная эстэтычная асалода!

# Рэтраспектыва




Алена КАРП

“Я стварыла б міжнародны трыбунал і засудзіла б іх усіх, гэтых Карэ, Маруа, Тынянавых…” — калі верыць Соф’і Астроўскай, Ганна Ахматава надта непрыязна ставілася да аўтараў біяграфічных раманаў і ўсемагчымых мемуарыстаў. У гэтай непрыязі была насцярожаная падазронасць, цалкам зразумелая з боку творцы, які дакладна ведае, хто застаецца. Пасмяротныя біяграфіі, успаміны па вядомых прычынах выходзяць з-пад кантролю іх герояў. Праўдзівасць і этычнасць такіх матэрыялаў — цалкам на сумленні іх аўтараў. Да таго ж, не ўсе ўспаміны маюць хоць нейкую вагу для гісторыі літаратуры. Пэўная частка іх ствараецца выключна з мэтай пацешыць уласнае самалюбства, прысуседзіўшыся да класіка.

У такой сітуацыі найбольшы давер выклікаюць згадкі самых блізкіх родзічаў і архіўныя матэрыялы. Падобныя публікацыі якраз і прапануе жнівеньскі нумар “Нёмана”. Чытач знойдзе тут невядомы ліст Адама Багдановіча (прадмова Ціхана Чарнякевіча, падрыхтоўка да друку Наталлі Казапалянскай), у якім аўтар сведчыць пра сябе і, міжволі, пра свой час. Нагодаю для з’яўлення гэтага дакумента стала чыстка савецкага апарата, паводле якой Адам Ягоравіч быў звольнены з працы. Для яго, чалавека фенаменальна адукаванага і самаахвярнага, гэта была абраза, з якой немагчыма прымірыцца: “С такой оценкой я не могу и не должен уходить со службы и из жизни…” Заява да камісіі па праверцы і чыстцы — своеасаблівае curriculum vitae і адначасова сведчанне інтэлігентнасці, далікатнасці Адама Ягоравіча, які і ў нявыйгрышнай для сябе сітуацыі не дапускае самахвальства: “…ей [комиссии. — **А. К.**] говорит ряд видных народовольцев, что я вёл огромную революционную работу в течение ряда лет в самое тяжёлое время, и говорят в столь хвалебных выражениях <…>, что я постеснялся их зачитать публично”.

Не застаецца па-за кадрам і “суд советской общественности”. Пра яго шмат кажа і памылка ў выпісцы “Адам Георгиевич” замест “Егорович”, не кажучы ўжо пра тое, што ўсе заслугі А. Багдановіча не мелі вялікай значнасці (так, яго сапраўды вартая павагі адукацыя зняважліва названая “некоторым образованием”) перад абвінавачваннем, заўважым, несправядлівым.

Ва ўспамінах Тацццяны Грахоўскай “Не адкладай сустрэчу на пасля…” час збольшага ў падтэксце, галоўнае ж тут — партрэт асобы. Сімвалічна, што першы раздзел успамінаў называецца “Красота”. Бацька быў для дачкі і ўвасабленнем чалавечай прыгажосці, і Калумбам, праваднікам у свет харства. Ён вучыў бачыць прыгожае, і вочы дачкі цяпер зоркія, уважлівыя да драбніц, якія ствараюць непаўторную атмасферу і захоўваюць памяць, да прыкладу, малюнак з цюльпанамі, матылькі на абажуры апісаныя вельмі лаканічна, але чытачу бачацца выразна, больш за тое, праз іх бачыцца дом, сям’я. Сяргей Іванавіч “…ценил добро, постоянно нам напоминал, рассказывал подробно, чтобы и мы несли его благодарность дальше”. І гэты ўрок таксама быў успрыняты: у кожным раздзеле ўспамінаў — удзячнасць дактарам, настаўнікам, сібірскім сябрам…

Выхаванне Сяргея Іванавіча мела свой плён. Тыя лепшыя бацькавы рысы, пра якія згадвае Тацццяна Грахоўская, чытач заўважыць і ў аўтаркі ўспамінаў: шчырасць, уменне адпусціць, бачыць і помніць у жыцці добрае, а не злое. Так, яна цвяроза ўсведамляе: “Это неволя и бесправье проклятые, а Сибирь — замечательная”, гаворачы пра цяжкія паваенныя часы, звяртае ўвагу не столькі на галечу, колькі на трывушчасць духу, чалавечнасць: “Преподавательница французского (обаятельная, замечательный педагог Полина Григорьевна) взялась «подтянуть» меня. Я ходила к ней домой полгода. Видели бы вы нищету и убожество этого дома! Послевоенный Минск — этим всё сказано. Крошечная комната, вход прямо с улицы, кажется, даже без прихожей, и… три поколения обывателей. И никаких денег! Боже сохрани! Такие были нравы!”

Відавочныя літаратурныя здольнасці аўтаркі. Яны выяўляюцца ва ўменні структураваць тэкст, знаходзіць мінімум слоў, але максімальна дакладных і пранізлівых: “Ведь они «пропустили» свою молодость…” (пра бацьку і яго ссыльных сяброў), і ў трапнасці, шматзначнасці дэталяў: “Вспоминаю свой сибирский «лесоповал». Мне 10 лет. Нас школа выводит в лес на заготовку дров. Конечно, малыши в бригаде со старшими. Я счастлива, я ведь уже большая, я — как все. Слышу, папа тихо и грустно говорит маме: «Вот и моя дочь идёт на лесоповал…»”

Гэтыя ўспаміны вельмі сканцэнтраваныя, што да зместу, і насычаныя любоўю, што да эмацыянальнасці. Магчыма, яны пісаліся для сябе, як абавязак перад памяццю бацькі, але цяпер яны прамоўленыя і да нас, каб згадалі, перачыталі, адкрылі наноў.

# Мінск і нуар




Соф’я МАРОЗАВА

Восень радуе нас плёнам лета і ці не апошнімі перад маразамі кветкамі. Красуюць яны і на вокладцы восьмага нумара “Маладосці” і тым пабуджаюць да батанічных аналогій. Балазе, паэтычная частка зборніка дазваляе: тут і самотныя верасы Любові Дзікавіцкай (*“…Верасень звініць // Сарванай нотай // І шчыміць // Не разумею, дзе, — // У грудзях ці ў небе, // Адзінота”*), і лугавы званочак ад Марыі Кобец, і паэтычны плён Галіны Бабарыкі, які можна параўнаць (карыстаючыся метафарай паэтэсы) з восеньскімі “дрэвамі-букетамі”… Творы Валерыя Кухарчука пахнуць сокамі зямлі (*“Прымроілася. // Не. Пабачылася. // Туманы ўстаюць над Палессем. // Я пяшкую з Альгомля ў Таўмачава, // на памежжы губерняў Гомеля ды Бярэсця”*), а шчырыя прызнанні Васіля Дэбіша — “даспелым яблыкам” (так названа яго паэтычная нізка, надзвычай пачуццёвая і лірычная). Нумар прысвечаны талентам Берасцейшчыны і не толькі: Людміла Гуйда, Мікола Антаноўскі, Анатоль Галушка, Святлана Локтыш… Паэтычная частка часопіса сабрала багата творчых індывідуальнасцей.

Проза нумара хоць і не настолькі шматаблічная, але таксама прадастаўляе чытачу выбар, у прыватнасці, у апавяданнях: улонне прыроды, горад ці ўмоўная прастора? “Шэпт стомленай затокі” Міколы Бусько і “Паход у Трацццякоўку” Вячаслава Бурдыкі напісаны ў рэалістычным стылі. У цэнтры ўвагі першага — адзін дзень з жыцця аматара рыбалкі. Спустошанасць горадам, прага прыроды, натаеннне яе харастом, развагі пра браканьерства і гутаркі каля вогнішча — усё гэта ёсць у апавяданні. Вячаслаў Бурдыка прапануе гісторыю з жыцця мастакоўскага асяродка (месцы дзеяння — Мінск і Масква), расказаную дасціпна, з гумарам. Аўтару ўдалося стварыць яркія характары, паказаць логіку паводзін творчага чалавека (“Пакуль не перадумаў, тут жа падскочыў на вакзал і купіў білет на бліжэйшы цягнік, нічога не сказаўшы ні жонцы, ні сыну. «Потым патэлефаную, а то не пусцяць»”), выдаткі прафесіі і камізм сітуацый.

Абяцанай ж умоўнасць праявілася ў апавяданні дэбютанта Андрэя Дзічэнкі “Прывітайце яго, прывітайце”. Хоць гатычна-чорны горад і носіць у ім назву Мінска, але цалкам пазбаўлены яго прыкмет, таму мог бы звацца ўмоўным “горадам N”. Галоўная яго характарыстыка — змрочнасць, родная стылістыцы нуару (“Побач <…> размяшчаўся парк з крывымі дрэвамі. Ноччу гэта лесапасадка нагадвала балота, бракавала ёй затхлага смуроду і жабінага кваканя”). Пра сувязь з кінематографам нават згадваецца наўпрост: “Усім сваім знешнім выглядам дзядзька нагадваў сапраўднага джэнтэльмена з англійскіх кінастужак пяцідзесятых гадоў”. Натуральна, на такім фоне і з такімі героямі не магло абысціся без злачынства, але аўтара цікавіць найперш метафізічнае зло. Яно сноўдаецца па вуліцах горада пад імем Сцёпы і прыносіць смерць усім сустрэчным.

Андрэй Дзічэнка агарнуў асобу Сцяпана рамантычнай таямнічасцю, неадназначнасцю: герой-трыкстар, герой-джокер, які падыходзіць да сваіх (ненаўмысных?) ахвяр са шчырай радасцю, а ў іншы час сядзіць і чакае, “калі здарыцца цуд”. “Той, хто вечна прагне дабра і вечна чыніць зло”? Зрэшты, меркаваць пра яго матывацыю складана…

Затое можна весці гаворку пра творчы старт Андрэя Дзічэнкі: у 2010 годзе аўтар выдаў кіберпанкаўскі рускамоўны раман “Минское небо”, шмат піша ў рэчышчы навуковай фантастыкі, але ў апошні час звяртаецца і да гістарычных сюжэтаў. У “Минском небе” ён паспрабаваў міфалагізаваць беларускую сталіцу, у асноўным праз гратэскны паказ яе цёмных бакоў. Аўтар не хавае, што свядома перабольшвае змрочнасць горада. Такім жа шляхам Андрэй Дзічэнка пайшоў і ў “Прывітайце яго, прывітайце”. У выніку паўстала крымінальна-містычнае апавяданне, у якім стылізацыя становіцца самамэтай.



Віктар ШНІП

# Год Валянціна Губарава ў Аляхновічах

**(Першая частка балады надрукавана ў № 8 ад 24 лютага 2012 г.)**

## Ліпень

*паветра густое як мядовае
і конікі стракочуць
нібыта канапацяць бочкі для мёду
па рэчцы плывуць купальскія вянкі
як расквітнелыя німбы анёлаў
якія апусціліся на зямлю
каб жыць як мы і сярод нас
і ты вяртаешся з грыбоў
нібыта з раю ў гэты свет
каля высокіх копаў сена
як каля вежаў у якіх жывуць казкі
і ты чуеш іх і ты бачыш
як навальніцай напаўняецца неба
як палатно на мальберце фарбамі
з якіх пральецца жывы дождж
тваіх пачуццяў
у нашы душы*

## Жнівень

*паспелы яблык падае ў траву
як кропля сонечнага лета
і коціцца ў баразну сярод град
на якіх качаны капусты
як зялёныя планеты
у сузор'і кропу
пад сонцамі сланечнікаў
і ходзяць даўганогія буслы
каля Аляхновічаў па ржышчы
нібыта шукаюць мапу
на якой пазначаны шлях у вырай
і золата саломы самотнае
але светлае
як душы вяскоўцаў
што сеялі збожжа
і ў небе плывуць аблокі
як пыл за статкам кароў
якія вяртаюцца з пашы
і ты сядзіш на валуне
як на краі свету*

## Верасень

*жураўліны клін у небе
як стрэлка вечнага гадзінніка
паказвае на восень
і дзеці ідуць у школу
і светла і святочна ў вачах
як у слове Радзіма
што тут у дзяцей пачалася
з Аляхновіч
дзе не спыняюцца хуткасныя цягнікі
і толькі з электрычак чуецца
"Станцыя Аляхновічы"
і ты едучы на возе
на якім мяшкі з бульбай
сядзіш як на здабытым золаце*

## Кастрычнік

*вароны на пазалацелых вярхах
як на восеньскіх вежах
чорныя як у чорных плашчах віжы
глядзяць удалячынь на дарогу
па якой праскакаў вершнік
з прызнаннем ад закаханага
у ціхае мястэчка
якое за палямі за гарамі
дзе жыве Цудоўная і Непаўторная
а дождж сыплецца і сыплецца
і сады ўжо саромеюцца сваёй агаленасці
і кусты як кастрычыны
і апалае лісце
як луска ад залатых рыбак
якія ператварыліся ў людзей
і перасяліліся на карціны
мастака
каб быць вечнымі*

## Лістапад

*павуціна ці першая шэрань
лётае ў паветры
сярод лістоты як лятаючых
ліхтароў
якія асвятляюць калюгу
затуманеную першым лёдам
на дне якой бярозавы ліст
як залаты купал Храма
у далёкім-далёкім мінулым
з якога пачаліся твае дарогі
і ты ідзеш па Аляхновічах
і людзі вітаюцца з табой
і жонка чакае цябе і дзеці
і ў кожным кроку тваім
Вера Надзея Любоў
і гэты дзень як вечнасць
у якой няма месца
для здрады злосці зайздрасці
і сонца ў небе і ў тваіх вачах
як пацалунак Божы*

## Снежань

*ізноўку снег як попел
ад спаленых карцін
якія не атрымаліся ў Бога*



Фота Кастуся Дробава



Іна ФРАЛОВА

* * *

*Там у светлых барах
Некранутай ад веку раскошы —
На прасторы зямной,
Для мяне не іначай як рай,
Ёсць куточак малы,
За чужыя не лепшы, не горшы,
Але сэрцам сваім адчуваю —
радзімы мой край.*

*Краю вечнай вясны,
Дзе і рэха гучыць чысцінёю!
І як скончыцца шлях —
На зямлі той знайду супакой.
Там я ў хаце не госць.
За сталом са сваёю раднёю
Наталюся я песняй,
нібыта крынічнай вадой.*

*Акрыляе душу,
Бо і сам гэты край белакрылы!
Сваёй годнасці моц,
Як і прашчуру, мне дараваў.
І цябе, любы край, што было,
Што было толькі сілы
За бацькоўскую шчырасць
у сэрцы не раз апяваў.*

* * *

*Шыпкі мае! Вы мой пачатак неба,
Вы мне, здарожанай,
жаданы супакой.
Каб новы шлях адужаць, —
з ветрам трэба
Глынуць гаючы баравы настой.*

*Каб годна перажыць усе трывогі,
Мне ведаць трэба,
што яшчэ не раз,
Шыпкоўскім раннем
абрасіўшы ногі,
Пачую ў сэрцы вершаваны сказ.*

*Мне трэба быць упэўненай і ведаць,
Як крылам Бог апошні дасць узмах,
У хаце дзедаўскай
не скончыцца бяседа
І бусел пryляціць на родны дах.*

* *Шыпкі — вёска на Вілейшчыне.*

* * *

*У бухце паднябёснай жаўрукі
Вясны чаканай подых апяваюць.
"Было і будзе так ва ўсе вякі!
Было і будзе!" — свету абвяшчаюць.*

*Вядуць рашучы вальнадумны рэй,
З вятрамі чуйнымі складаюць
шматгалоссе,
Каб узнімалася да сонейка хутчэй
Магутнай хваляй дужае калоссе.*

*Зімовых дзён не спыняць скразнякі
Дух адраджэння прагны
і нястрымны —
Пакуль у родных высях жаўрукі
Пяюць вясне самазабыўна гімны.*

## Замалёўка

*Стала цёмна ў вокнах,
І кідаюць на плёс
Цень размыты намоклы
Зоркі з чорных нябёс.
Забалочаны бераг
Абдымае рака,
Вербаў схіленых шэраг
Спавіла асака.
Час панёс хваляванні —
І бяда не бяда.
Адшумела каханне,
Ды й яго не шкада.
А шкада толькі цені,
Што ўпрыгожылі плёс,
Яны ў вечар асенні —
Нагадалі мой лёс.*

## Дэбют



Святлана КУКУЦЬ

Святлана Кукуць вучыцца ў БДПУ імя М. Танка і, як бачна з яе шчырых, прачулых вершаў, любіць жыццё, прыроду, дзе часта застаецца на адзіноце, сярод яркай чырвані рабін, і тады з "кожнага сшытка душы" зрываюцца звонкія гукі і словы, складаючыся ў адметныя паэтычныя страфы і вобразы.

## Увосень я люблю пабыць адной

*Увосень я люблю пабыць адной,
Стаяць маўклівa ў яркай пазалоце,
Лавіць вачыма лісце у палёце,
Хапаць паветра лёгкаю рукой.
Увосень я люблю пабыць адной,
Паслухаць спевы ветру у галінах
Між гронак віннай чырвані рабіны,
Адчуўшы ноты сумныя душой.
Увосень я люблю пабыць адной
І піць люстранае бяздоннe неба,
Ў блакіце сумна-воблачнага свету
Размыцца буйнай кропляю-слязой.
І як бы яркіх фарбаў гушчынёй
Не радавала золата палітра,
Люблю я восенню пабыць адной,
Калі душа мая для ўсіх закрыта.*

## А я пайшла…

*Ты думаў, што я заплачу,
А я засмяялася
І моўчкі пайшла,
Схаваўшы свой боль і роспач,
Чарговую няўдачу…
А я засмяялася,
Хоць шчасця і не знайшла,
А піла нагбом горыч…
Ты застаўся… а я пайшла.
І ўсё-такі яно вечнае,
Пачуццё зямное — каханне…
Толькі не тое, якім
Разбаўляюць свой час
Максімалісты-падлеткі,
Якое прымаюць за разбэшчанасць
Сапсаваныя юнакі
І якое сціраецца
Шматгадовым сямейным бытам.
Сутнасць яго вечная
Сама па сабе,
А адзінае на сто гадоў
Сапраўднае пачуццё
Набліжае яго да нябеснага.
Іду і задыхаюся
Вясновай ракой ветру…
Амаль так,
Як тады ў роспачы,
Калі ты закрыў мне сонца
І абрэзаў мае крылы,
Але зусім па-іншаму…
Я задыхаюся ад радасці,
Ад усмешак мінакоў,
Ад прыветнасці сонца
І ад пачуцця волі.
Волі ад зімы.
Волі ад суму.
Волі ад цябе.*

## Табе не балюча?

*Ты зачаруеш
Сваёй усмешкай,
Закалышаш пасля сваім
голасам,
Закахаеш сваёй сутнасцю
Да майго самазабыцця.
А потым возьмеш маё сэрца,
Як пажоўклы ліст восені,
І кінеш у шалёны кіпень
Халоднага ветру;
Разатрэш буйной
Слязою дажджу
Па шыбе запацелага вакна;
Парвеш на маленькія
Кавалачкі
Нотны сшытак маёй душы…
І спытаеш: " Табе не балюча?"*

# Космас як прадчуванне

У Мінску прайшла цырымонія перадачы кніг Казіміра Семяновіча Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ад міжнароднай групы Ашчаднага банка Расіі ў асобе ААТ "БПС-Ашчадбанк".

**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**

Вядома, што на тэрыторыі Беларусі ёсць толькі асобныя скарбы з нашай былой спадчыны (літаральна некалькі працэнтаў). Большая ж частка даўно знаходзіцца ў бібліятэках, музеях і галерэях іншых краін. Таму вяртанне кожнага рарытэта ўспрымаецца як сапраўднае свята і аднаўленне гістарычнай справядлівасці. Менавіта ў такім ракурсе варта ўспрымаць перадачу кніг Казіміра Семяновіча.

Вайсковец, інжынер і артылерыст XVII стагоддзя, ён без перабольшання з'яўляецца адным з сімвалаў Беларусі. Семяновіч атрымаў усеагульнае прызнанне і славу як аўтар кнігі "Вялікае мастацтва артылерыі", першая частка якой выйшла ў Амстэрдаме ў 1650 годзе на лацінскай мове, і на працягу двух стагоддзяў выданне з'яўлялася агульнаеўрапейскім падручнікам. Дарэчы, даследчык напісаў і другую частку. Але яна так і засталася ў рукапісе. Захоўвалася ў Польшчы, у XIX стагоддзі была вывезена ў Расію. Цяпер лёс яе невядомы. Больш за тое, К. Семяновіч упершыню прапанаваў ідэю выкарыстання ў артылерыі рэактыўнага руху. Аўтар вынайшаў новы склад ракетнага паліва, а таксама шэраг канструкцый ракет. Да прыкладу, трохвугольнае крыло, якое выкарыстоўваецца ў звышгукавой авіяцыі. А таксама прапанаваў сістэму залпавага агню, якую потым ужывалі распрацоўшчыкі знакамітай "Кацюшы" і комплексу "Град". Не дзіўна, што па кнізе К. Семяновіча вучыўся Канстанцін Цыялкоўскі. А NASA лічыць аўтара "Вялікага мастацтва артылерыі" заснавальнікам ракетабудавання.

Здавалася б, значнасць асоб шэрагу нашых суайчыннікаў усвядомлена. Дык давайце вяртаць іх творы! Але ўсё не так проста. Як падкрэсліў дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі, большасць скарбаў такога кшталту знаходзіцца ў дзяржаўнай уласнасці. А згодна з міжнароднымі дамоўленасцямі, прынятымі пасля Другой сусветнай вайны, такія рарытэты належаць тым краінам, на тэрыторыі якіх яны знаходзяцца. І прадаваць іх ніхто не згодны. Выйсце — шукаць у прыватным сектары. Менавіта такі падыход прынёс свой плён. Выданні Семяновіча былі набытыя "БПС-Ашчадбанкам" у адной з антыкварных крам Германіі.

Якія выданні трапілі ў Нацыянальную бібліятэку? Як адзначыла Таццяна Рошчына, бібліёграф навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства НББ, дзве кнігі знаходзяцца ў цудоўным стане (зразумела, улічваючы іх узрост). Істотна, што абедзве з'яўляюцца прыжыццёвымі. Арыгінал 1650 года на лацінскай мове мае кардонны пераплёт. У ім адсутнічаюць некаторыя гравюры, якія, аднак, дубліруюцца ў другім выданні. Апошняе ўяўляе сабой пераклад кнігі на французскую мову, што выйшла ў 1651-м з удзелам самога Семяновіча (пераплёт скураны). Амаль ніякіх пазнак пра ўладальніка няма. Вядома толькі, што першае выданне ў XVIII — XIX стагоддзях знаходзілася ў княжацкай бібліятэцы нямецкага Аўгсбурга.

На афіцыйнай цырымоніі Віктар Мацюшэўскі, старшыня праўлення "БПС-Ашчадбанка", падкрэсліў, што падарунак НББ стаў асэнсаваным крокам, часткай агульнай палітыкі, якую ажыццяўляюць усе падраздзяленні ўстановы. Ён выказаў надзею, што ў далейшым такія мерапрыемствы будуцьладзіцца рэгулярна. У сваю чаргу Р. Матульскі агучыў цалкам справядлівы камплімент у адрас партнёраў: "Прыемна, што ў лёсу ёсць канкрэтны твар. І гэта твар БПС-Ашчадбанка". Ён паведаміў, што Нацыянальная бібліятэка даўно прыглядалася да кніг Семяновіча. Але пакупка стала магчымай толькі цяпер.

Удзельнікі сустрэчы не сталі раскрываць карты і паведамляць журналістам канкрэтныя назвы будучых прыемных "сюрпрызаў". Зрэшты, нічога дзіўнага тут няма. Як прызнаўся Р. Матульскі, папярэдняе выданне інфармацыі дае адмоўны эфект. Часцей за ўсё на рынку з'яўляюцца перакупшчыкі, якія хочуць зарабіць. У выніку кошт неапраўдана ўзрастае. Зрэшты, Р. Матульскі паведаміў, што на працягу бліжэйшага месяца НББ запросіць журналістаў для прэзентацыі новага рарытэта. Сачыце за "ЛіМам"!



*Рарытэты, якія трапілі ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі.*

Прэзентацыя

# Найлепшы чалавек і пісьменнік

Серыя "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" выдавецтва "Мастацкая літаратура" папоўнілася кнігай "Максім Танк. На камні, жалезе і золаце: успаміны, эсэ, прысвячэнні". Прэзентацыя гэтага выдання прайшла ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Як стварыць партрэт пісьменніка? Прачытаць яго творы, дзённікі, лісты. Паглядзець фотаздымкі. Але каб партрэт стаў больш поўным, варта пазнаёміцца з успамінамі людзей, якія ведалі творцу. Менавіта такі шлях прапануюць чытачу ўкладальнікі кнігі "Максім Танк. На камні, жалезе і золаце". Тут праз успаміны сяброў, артыкулы і эсэ навукоўцаў, прысвячэнні не толькі паўстае (ці хутчэй дапаўняецца новымі штрыхамі) вобраз паэта Максіма Танка, але і вымалёўваюцца абрысы яго асобы. Атрымліваецца, што і сёння велічны вобраз творцы жыве ў сэрцах многіх беларусаў. Напэўна, таму прэзентацыя гэтага выдання сабрала шмат вядомых літаратараў. Яны чыталі вершы Максіма Танка, згадвалі яркія моманты знаёмства з ім. Не пакінулі без увагі і працэс падрыхтоўкі выдання.

— Гэтая кніга магла пабачыць свет яшчэ 10 год таму, — распавёў галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп. — Над выданнем, якое першапачаткова рыхтавалася да 90-годдзя з дня нараджэння паэта, у той час працаваў Уладзімір Казбярук. Але ў 2002 годзе адбылося аб'яднанне выдавецтваў "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва", таму выхад кнігі адклаўся. І вось набліжаўся 100-гадовы юбілей, аўтары, якія раней пісалі матэрыялы для кнігі, пачалі цікавіцца лёсам рукапісу. Для таго, каб яго знайсці амаль праз 10 год, нам давялося нават правесці невялікае расследаванне. Але ўсё скончылася добра, кніга пабачыла свет і ўжо нават прададзены ўвесь яе тыраж — 1500 асобнікаў.

Пра адметнасці працы над кнігай распавяла і рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Аксана Спрынчан:

— Гэтае выданне для мяне набыло трохі сямейнае: тут ёсць аўтограф, які Максім Танк напісаў на кнізе майму дзеду Браніславу Спрынчану, ён быў адным з перакладчыкаў вершаў Танка на рускую мову. Ды і ў цэлым праца над кнігай была вельмі цікавая. Гэта і выбар назвы, якая, мне здаецца, добра пасуе філасофіі творчасці паэта, і шчаслівыя сустрэчы з сынам Максіма Танка. Ён нават дазволіў працаваць з сямейнымі альбомамі, куды ўклейваў здымкі сам Танк.

Доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ Вячаслаў Рагойша падчас свайго выступлення падкрэсліў:

— Алег Лойка калісьці напісаў артыкул "У Танка ёсць усё". І гэта сапраўды так. Ёсць і шырыня выяўлення натуры, жыцця чалавека, і глыбіня адлюстравання з'яў рэчаіснасці. Здаецца, што




ўсе мерыдыяны, паралелі зямнога шара звіняць у яго вершах.

Цяжка не пагадзіцца з Вячаславам Пятровічам яшчэ і ў тым, што Танк — велічыня, да якой мы яшчэ не дараслі, таму яго творчасць трэба даследаваць, а творы выдаваць і перавыдаваць. І, упэўнена, нас чакаюць яшчэ новыя адкрыцці. Новых граняў паэтычнага таленту і новых рыс Чалавека.

## У падтрымку чытання



*Жана ТУМІЛОВІЧ,*
*паэтэса:*

### «Я ЎДЗЯЧНА ЗА РАДАСЦЬ СУСТРЭЧ»

Як чытач я пачалася з Карнея Чукоўскага. Дастаткова рана пазнаёмілася з кнігамі. Мне, чатырохгадовай, мама чытала трылер "Муха-цокотуха". Я вывучыла яго на памяць і пачала самастойна складаць літаркі ў словы. Найцікавейшы працэс, як аказалася. Пасля — усе казкі, знойдзеныя ў доме. Ва ўзросце каля шасці гадоў прачытала першую дарослую кнігу — мемуары ваеннага лётчыка, вялікую па аб'ёме і не зусім зразумелую па змесце (чаго хацець ад хронікі ваенных вылетаў?) — хвалілася перад хлопчыкамі.

А пасля я стала чытаць усё запар. Спяшалася да паштовай скрыні па свежы нумар часопіса "Наука и жизнь" ці "Роман-газеты"! "Праглынала" тамы Жуль Верна. Суперажывала героям Джэка Лондана і Майн Рыда, рыдала над адрэзаным локанам паміраючай дзяўчынкі з "Хижины Дяди Тома" Гарыет Бічэр-Стоў, уяўляла сябе Рабінзонам з рамана Даніэля Дэфо і нават намагалася разлічваць яго харчовы рацыён, малюючы адной мне зразумелыя схемы капусных лістоў і казіных надояў. Вучылася на "выдатна", руская мова і літаратура былі любімымі прадметамі. Ды і як не захапляцца творчасцю такіх геніяльных класікаў, як Пушкін ці Чэхаў?! Чытала Шолахава, Булгакава, Пастэрнака. Пасля — Гюго, Саган, Рэмарка, Хэмінгуэя. Асобны астравок майго дзяцінства — "Планета людей" Экзюперы. З тых часоў, нягледзячы ні на што, веру, што Дабро і Маленькі Прынц існуюць. Пасля — Палякоў, Даўлатаў, Зюскінд, Сарокін, Пялевін, Велер… Юліяна Сямёнава адкрыла для сябе задоўга да яго экранізацыі. Назаўсёды закахалася ў іранічны дэтэктыў Іааны Хмялеўскай і не магу асіліць нават адзін раман Данцовай. Усім аўтарам, як старым сябрам, якія ўваходзілі ў душу, я ўдзячна за радасць сустрэч.

Ёсць кнігі, якія хочацца перачытваць. А ёсць такія, што патрабуюць пераасэнсавання ў пэўным узросце. Помню свае ўражанні ад "Анны Карениной" у школе і ў сталым узросце — рознавялікія. Ведаю, што дрэнны настрой можна паправіць старонкамі "Двенадцати стульев" і "Золотого телёнка". На любімае пытанне журналістаў — якую б адзіную кнігу ўзяла на бязлюдны востраў, — адкажу: "Біблію".

На жаль, усё менш часу на чытанне. З апошняга прачытанага параіла б іншым Анну Гавальду, аповесць "Гений" Алега Ждана, Захара Прылепіна.

Мастак і кніга

# Мария Мицкевич: «Дети — и сами огромные фантазёры...»



Брестчанку Марию Мицкевич знают многие читатели. Книги, которые она иллюстрирует, запоминаются, притягивают к себе. Хотя и работает молодая художница в книжной графике сравнительно недавно. Что думает о работе иллюстратора сама Мария и какие книги она выделяет среди других?.. Об этом и не только — наш разговор с талантливым оформителем.





Кирилл ЛАДУТЬКО

**— Мария, какие книги вы оформляете с большим желанием?**

— Больше всего мне нравится работать со сказками. Юмористические рассказы тоже интересны. Но сказки, в которых живут забавные вымышленные существа и творятся настоящие чудеса, позволяют мечтать и фантазировать! Ты словно сам возвращаешься в детство, вновь становишься ребёнком и попадаешь в удивительный мир, который творишь своими же руками! Ты играешь образами. Как волшебник, делаешь героев не только видимыми, но и вдыхаешь в них жизнь. Под твоим руководством персонажи начинают улыбаться, заводить друзей, обрастать увлечениями. И это восхитительное чувство всемогущества! Ведь ты ограничен только своей фантазией!

**— Все ли книги, которые предлагает вам то или иное издательство, вы берётесь оформлять?**

— Почти все. Ведь ко мне обращаются люди, которые видели мои работы и уже знают мой стиль.

Не соглашусь только если автор хочет, чтобы я отказалась от своей манеры рисования и когото копировала.

Мне тяжело работать и с уже готовыми персонажами. Люблю сама создавать внешность героя, выбирать для него одежду, дом. Но, если произведение мне очень нравится, могу в чём-то уступить.

**— Работая над рисунками, следуете замыслу автора или что-то ещё и додумываете?**

— Стараюсь следовать сюжетной линии книги и описаниям персонажей.

Но в иллюстрации вношу и многое от себя, стараясь подчеркнуть атмосферу произведения, её настроение.



Мне хочется, чтобы мои иллюстрации глубже раскрывали тему произведения и давали возможность додумать что-то своё, более ёмко раскрыть характер персонажа, мотивы его поступков, выстраивать новые сюжетные линии, оттолкнувшись от картинок. Ведь дети, кому и адресованы книги, сами огромные фантазёры. И часто, рассматривая иллюстрации, они рассказывают такое, чего даже я сама не замечала.

**— Обсуждаете ли рисунки со своими детьми, прежде чем отдать их в издательство?**

— Мои сын и дочь — первые зрители и главные критики. Даже на этапе разработки персонажа, когда герой обрисован только в карандаше и ещё не известна цветовая гамма, я советуюсь с ними.

Больше всего мне нравится, когда, глядя на мои картинки, дети говорят: “Какие они забавные, смешные!” и улыбаются. Это так приятно, когда твоя работа приносит радость не только тебе, но ещё и окружающим поднимает настроение!

А лучшая похвала моей работе — когда дети начинают срисовывать героев с моих иллюстраций и придумывать свои истории с их участием.

**— А что не устраивает вас во взаимоотношениях с издателями? Случается ли, что авторы просят что-то переделать?**

— Мне очень повезло работать с по-настоящему талантливыми и творческими людьми. И они всегда давали мне свободу, так как сами понимали, как важна независимость в творчестве.

К просьбам авторов о поправках я не отношусь как к чему-то отрицательному. Это, наоборот, говорит о том, насколько трепетно и тепло относится писатель к своему произведению.

И, к тому же, как можно спорить с человеком, в чьей голове родилась история? Ведь он жил с этими героями, путешествовал и выбирался из всевозможных переделок на протяжении нескольких недель, а то и месяцев. Он ближе с ними знаком (*улыбается*).

Моя задача — уловить настроение, атмосферу и постараться донести их до читателя в том виде, в котором задумал автор.

**— Часто ли заглядываете в историю детской книжной графики? Кто из белорусских, русских или художников других стран представляет для вас интерес?**

— Почти каждый день ищу что-то в истории, смотрю, что делают более опытные коллеги, мастера современной книжной графики. Это один из источников вдохновения.

Первым из художников-иллюстраторов, у кого беру своеобразные уроки, назову Павла Татарникова. Книги с его иллюстрациями я даже читать не могу, настолько прекрасно всё, что он создаёт! И вдвойне приятно, что он родился в Бресте, как и я.

Так же отмечу Владимира Савича, Тамару Мельянец, Валерия Славука, Татьяну Сучкову, Владимира Лукашика, за творчеством которых внимательно слежу и чьи книги покупаю для домашней библиотеки и читаю вместе с детьми. Из русских художников мне нравятся Игорь Олейников, Андрей и Ольга Дугины. С замиранием сердца листаю книги с иллюстрациями Свена Нурдквиста, Криса Риделла и Айяно Имаи. И многихмногих других прекрасных художников.

**— А сами не пробовали выступить в роли автора?**

— Нет, но иногда в голове навязчиво крутятся рифмы. Стихотворение “Друзьям”:

*Вы хотели б, чтобы феи*
*Окружали вас весь день?*
*Из часов на вас глядели,*
*И на чашечке сидели,*
*И над ухом песни пели,*
*Ведь им все это не лень!*

*Вы хотели б, чтобы Муза*
*К вам с утра на чай зашла?*
*С красным спеленьким арбузом*
*Вдохновенье принесла?!*
*Вы хотели б, чтобы эльфы*
*Наряжали елку вам...*
*Чтоб драконы на постели,*
*Как котята, в самом деле,*
*Кувыркались и сопели,*
*Согревая место вам?!*

*Вы хотели б все недели*
*Жить без стрессов, слез*
*и драм? —*
*Нужно только чай с малиной*
*Вам расставить по углам!*

*И тогда все тролли, феи*
*Просто мимо НЕ ПРОЙДУТ*
*И на запах этот дивный*
*Сами в гости заглянут!*

*Ну а если не успеют*
*Или что-то, как всегда,*
*Помешает им... Не бойтесь —*
*В гости к вам зайдут ДРУЗЬЯ!*

*А они, уж мне поверьте,*
*Даже лучше разных фей*
*Поднимают настроенье*
*И приносят в дом идей!!!*

А бывает и так, что рифмы прокрадываются, когда создаёшь иллюстрации к чужим стихам.

Но перерасти во что-то серьёзное это мое “стихоплётство” вряд ли может.

Слишком быстро я сдаюсь, если не нахожу красивой рифмы.

**— А мне кажется, что из всей этой вашей стихотворящей работы тоже могла бы вызреть книга… И всё-таки как художник о какой книге мечтаете?**

— Актёры мечтают о роли Гамлета. Иллюстраторы — об “Алисе в стране чудес” Льюиса Кэрролла.

Мечтаю познакомиться с белорусской писательницей Еленой Масло. У меня есть несколько её книг. Она пишет чудесные сказки для детей на родном языке!

А ещё мне бы очень хотелось поработать с автором, который бы написал сказки для детей по мотивам белорусской мифологии.

**— Читаете ли детскую литературу “не для работы”?**

— Да. Читаю классику своим детям перед сном. А ещё, укрывшись пледом с чашкой ароматного чая, знакомлюсь с современными авторами уже после того, как дети заснут.

Есть много детских писателей, которые пишут легко, честно и в то же время вдумчиво.

И знакомство с их произведениями позволяет сохранить способность видеть мир глазами детей.

Ведь дети замечают вокруг столько волшебного и чудесного, мимо чего мы, взрослые, просто пробегаем мимо, теряя на самом деле возможность отдохнуть душой и насладиться такими ценными мгновениями.

Брест — Минск

---

На паліцы

## АРХІТЭКТУРНАЯ ДАМІНАНТА І ІНШЫЯ РОЛІ

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Мірскі замак мае салідны ўзрост — у летапісах ён згадваецца з 1527 года. І далёка не ўсе яго таямніцы раскрыты даследчыкамі. Сёння гэта месца правядзення шматлікіх культурных акцый і фестываляў, сярод якіх “Музычныя вечары ў Мірскім замку”, рыцарскія турніры і інш., а яшчэ месца працы некалькіх пакаленняў жыхароў пасёлка Мір.

Замак быў пабудаваны магнацкім родам Ільінічаў, з 1569 года належаў Радзівілам і быў іх загарадной рэзідэнцыяй, потым перайшоў ва ўладанне князя Святаполк-Мірскага. Кожны з гаспадароў прыўносіў у яго архітэктурнае аблічча нешта новае, але шэдэўр сярэднявечнага дойлідства дабудоўваўся з вялікім густам і адчуваннем агульнага вобраза, таму неспецыялісту немагчыма “падзяліць” яго на складнікі — ён вельмі цэласны. Менавіта гэтыя ўмовы і паслужылі таму, што Мірскі замак стаў адным з самых знакамітых беларускіх брэндаў.





Пра старажытны помнік раскажа навукова-папулярнае выданне “Мірскі замак”, што нядаўна ўбачыла свет у выдавецтве “Беларусь”. Укладальнікам багата ілюстраванай кнігі і аўтарам тэксту стала Вольга Навіцкая, характство замка і навакольных мясцін захаваў на фота Анатоль Дрыбас.

У прадмове да выдання кандыдат гістарычных навук, дацэнт, дырэктар замкавага комплексу “Мір” Вольга Папко прыгадвае тых, хто на працягу многіх гадоў адраджаў амаль зруйнаваны войнамі замак, шчыраваў над яго рэстаўрацыяй і збіраў калекцыю экспанатаў.

Гатычны шрыфт на трох мовах — рускай, беларускай і англійскай — запросіць на змястоўную экскурсію. Першая частка прысвечана гісторыі архітэктурнай дамінанты Гродзеншчыны. І гэты, і астатнія раздзелы выдання — “Царква-пахавальня князёў Святаполк-Мірскіх”, “Англійскі пейзажны парк. Флігель”, “Дамок вартаўніка з узнымі варотамі”, “Тэрыторыя італьянскага саду”, “Абарончыя земляныя ўмацаванні” і “Прыдарожная капліца” — аздоблены цудоўнымі фотаздымкамі, на якіх ажываюць краявіды Гродзеншчыны, магутныя вежы, упрыгожанні пакояў… Калі вы яшчэ не пабывалі ў сэрцы Міра, вам абавязкова захочацца на ўласныя вочы ўбачыць і брукаванку ўнутранага двара, і шпалеру канца XVII — пачатку XVIII стагоддзя з сюжэтам на тэму Траянскай вайны, і іншыя адметнасці — пра іх раскажа выданне, на вокладцы якога фотаздымак Мірскага замка выглядае амаль казачным. І ці не гэта адна з яго роляў?

**Алесь ВЕТАХ**

# Віцька, я і кітайскі медаль

## *(урыўкі з аповесці «Сны пра дзяцінства»)*

Віцеў бацька працаваў у саўгасе на трактары. Дзядзька Казік найчасцей чапляў да яго бочку і развозіў па фермах брагу для жывёлы. У час абеду ён, як правіла, запыняўся пры сваёй хаце, каб падсілкавацца. Нам з Віцем дазвалялася залезці ў кабіну трактара паруліць. Вокамгненна там апыналіся. Уяўляючы сябе кіроўцамі, мы па чарзе з незвычайным імпэтам круцілі руль — гэтае цудадзейнае прыстасаванне, з дапамогай якога трактар слухаецца чалавека: паварочвае, едзе ў патрэбным напрамку. У дадатак гучна гулі-тыркалі пад нос, імітуючы працу дызельнага рухавіка з яго тарахценнем і пыханнем.

Аднаго разу Віцька рэзка крутнуў руль і тузануў ручку рычага пераключэння перадач — і бацькаў Т-40 пачаў паволі рухацца, крыху нахіліўся на правы бок і пакаціўся з дарожнага насыпу прама на вароты, за якімі адразу ўсчаўся сабачы брэх. Сэрца з перапуду, здаецца, заскочыла ў пяткі. Паўхвіліны — і ўсё! — гэтая сіняя «тарпеда на колах» пратараніла б вароты, разламала б сабачую будку і — о, жах! — прыдушыла б няшчаснага Бобіка. Віця, на дзіва, не разгубіўся, імгненна зрэагаваў у гэты момант, саслізнуў з крэсла і абедзвюма рукамі, колькі змогі, націснуў на тормаз, налёг на яго ўсім целам і выкрыкнуў:

— Гукай бацьку!

Не помню, як я перасіліў здранцвенне, а пасля, калі пачалі біць дрыжыкі, здолеў выбрацца з кабіны. У хату я памчаў з адчайным лямантам:

— Трактар паехаў! Хутчэй, ратуйце!

Віця з усіх высілкаў трымаў тормаз — і Т-40 не зрушыў з месца. Дзядзька Казік прыбег і ўратаваў форс-мажорную сітуацыю. На хаду ён падхапіў велікаваты камень і, калі падбег да трактара, падклаў яго пад левае кола. Затым памітусіўся на двары і знайшоў, што трэба: пад правае падсунуў кавалак тоўстага бруса. Віцеў бацька сеў за руль, выехаў на дарогу і трохі адагнаў трактар. Ён перш пахваліў сына, а затым пачаў на яго сварыцца, што той вінавата патупіў галаву і ледзь-ледзь не плакаў.

Трактар-працаўнік дзядзькі Казіка доўга вуркатаў на нашай вуліцы. Ён ужо зрабіўся часткай нашага штодзённага жыцця. Калі Віцеў бацька прыязджаў дахаты і ляпаў дзверцамі кабіны, то можна было не глядзець на гадзіннік — трэба было садзіцца за стол і абедаць.

З Віцем мы ўчынілі такое, што казаць брыдка пра наш учынак. А больш за сябра вінаваты я сам — і больш ніхто.

Калі бацькоў не было дома, мы адамкнулі левыя дзверцы новай шафы і пачалі корпацца на паліцах, быццам нешта там паклалі ці забыліся. Зразумела, я ведаў, дзе маці з бацькам пакідаюць ключы. Раней мы дабраліся на гарышчы да старога куфэрка і перавярнулі ў ім усё дагары нагамі. Ніхто з дарослых пра гэта на той момант яшчэ не ведаў. Цяпер вось зноў улезлі ў шкоду. На сярэдняй паліцы была бацькава таемна-загадкавая схованка. Мяне даймала цікаўнасць: а што там? У прыадчыненым партсігары ляжалі медалі. Я ведаў, што адзін з іх — кітайскі. Перад якім-небудзь святам, найчасцей перад Днём Перамогі, наш языкаты сусед не прамінаў моманту, каб, пасмейваючыся, не падчапіць бацьку:

— Ваня! Глядзі, каб абавязкова кітайскі медаль прышпіліў!

У тым жарце, як я цяпер разумею, быў падвох: адносіны Савецкага Саюза з Кітаем тады сапсаваліся, дружба і сяброўства закончыліся. Вось палітычна дасведчаны сусед і даймаў бацьку, аднак той на яго кпіны-смешкі не адгукаўся, невядома чаго ад гэтай правакацыі можна было чакаць. Не рэагаваў, бо, жывучы да 1939 года пабліз дзяржаўнай мяжы, ён, як і ўсе аднавяскоўцы, прызвычаіўся: маўчанне — золата. Ды і слоўныя баталіі, хай сабе і жартоўныя, не любіў, да жыцця ставіўся сур'ёзна.



— Давай медалі перахаваем, — па-змоўніцку прапанаваў Віця.

— Навошта?

— Закапаем пад кустом агрэсту. Паліваць іх будзем. Глядзіш, а на ім медалёў нарасце столькі, як царскіх ягад, — наіўна тлумачыў сябар, не маючы намеру абдурыць мяне, як ліса Аліса ката Базіліа.

Але атрымалася, нібы ў той казцы: я пагадзіўся — і мы паклалі медалі ў ямку, прысыпалі іх зямлёю. І пачалі чакаць, калі пачуем медальённы звон. Дзяцінства — час вялікай наіўнасці і веры ў цуд. Калі б мне хто тады сказаў, што на вярбе растуць грушы, то я і гэтаму паверыў бы.

Бацька агледзеўся праз дзень, што медалі зніклі. Ён адразу здагадаўся, чыіх рук гэта справа. Давялося, патупіўшы вочы, весці яго да куста агрэсту каля прыгрэбкі. Больш за ўсё баяўся, каб бацька не адлупцаваў, не накруціў вушы. Ён адкапаў медалі, абтрос іх ад зямлі і зноў склаў у бліскучы партсігар. Я стаяў пры бацьку і не мог дыхнуць, чакаў са страхам грому з маланкамі, прысуду, пакарання за свой ганебны ўчынак. Бацька мяне быццам не заўважаў. Ён панёс бляшанку з медалямі, не абмовіўся ні слоўцам. А праз паўгадзіны, калі я адважыўся зайсці ў хату, зірнуў на мяне без гневу са шкадобаю ў вачах і сказаў:

— Зусім ад рук адбіўся. Пераапранайся! Хадзем са мною ў бібліятэку.

Так пачалося маё "пакаранне" кніжкамі.

А медаль той кітайскі зноў я згадаў, калі старшынстваваў на абароне дысертацыі Цзянь Цюня, якога ў нас на факультэце завуць Уладзімір Іванавіч. Дамовіліся з ім, што я прынясу пасведчанне да гэтага медаля і ён перакладзе, за што мой бацька быў адзначаны кітайскім урадам. Калі я паказаў яму паперку з незразумелым для мяне тэкстам, то Цзянь Цюнь, ён жа Уладзімір Іванавіч, літаральна засвяціўся радасцю, і гэтая святочна-ўрачыстая радасць на яго твары зашкальвала. "Напэўна, радуецца подпісу Маа Цзэдуна", — падумаў я, бо ведаў, што ў пасведчанні да медаля фігуруе імя "Вялікага кормчага".

— Што выклікала вашу такую вялікую, невыказную радасць? — пацікавіўся я.

— Можна, я пабягу на ксеракс і зраблю адбітак гэтага дакумента, — адразу папрасіў ён і дадаў: — А потым скажу, што да чаго.

У знак згоды я кіўнуў галавою, даў ветлівы дазвол. І вось радасны Цзянь Цюнь з дзясяткам копій у руках стаіць перада мною і тлумачыць:

— Тут, у гэтым тэксце, ёсць іерогліф, якога няма ў сучаснай кітайскай мове. Ведаеце, дакумент вашага бацькі я буду паказваць на занятках студэнтам.

Пасля мне прыснілася: ідзём мы з татам па шматлюдным, тлумным Пекіне. Навокал няма дзе яблыку ўпасці. Ён моцна трымае мяне за руку, а я баюся, каб хаця не згубіцца. Рух наш запыніла каляска, запрэжаная рыкшам, і з яе тоўсты сівабароды кітаец з прыветлівай усмешкай на твары пытае:

— А ці здалёку будзеце?

— Мы адтуль, дзе шумяць зялёныя лясы, ціха цякуць рэкі, расце лён і бульба, дзе самыя гарэзлівыя, непаслухмяныя дзеці.

— Куды шлях трымаеце?

— У бібліятэку…

Вераснёўскім надвячоркам, калі ўжо змяркалася, я, не заходзячы ў дом, міжволі пайшоў, як быццам мяне хто павёў, да старой грушы-дзічкі на нашым агародзе. У прыцемках ступаў па рэштках бульбяных карчоў і тонкіх сцяблінах яшчэ не дасохлага бульбоўніку. Усе мінулыя дні пасля гулянак на прышкольным двары, дзе пачынаючы ад першага верасня збіралася шмат дзятвы, я прыходзіў дамоў, адкрываў рыпучыя дзверы, і на мяне дыхала цяпло напаленай печы. На гэты раз, калі зайшоў на панадворак і пабачыў над самай дзічкай далёкае зіхценне першай зоркі на небе, пакрочыў на покліч гэтага трапяткога мігцення. Здавалася, нябесная зорка-іскрынка вось-вось загарыцца яркім агеньчыкам і напоўніць святлом звечарэлае сутонне. Яна быццам падміргвала мне, вабіла да сябе нейкай чароўнай таямнічасцю. Не даходзячы да грушы-дзічкі, я спыніўся на бульбянішчы і выцягнуў угару насустрач зорцы свае рукі, сціснуў іх у кулакі, якія моцна прытуліў да грудзей пад самымі ключыцамі, заплюшчыў вочы, увесь напружыўся і сцяўся, як вожык, у камячок. Я зноў працягнуў рукі ўперад і… пачаў падымацца ў паветры ўверх, а затым паляцеў, хоць гэтаму, пэўна ж, ніхто не дасць веры. Так, я паляцеў, узняўся па-над дзічкаю і нават вышэй старых велічна-манументальных таполяў, што, быццам вартавыя, стаялі абапал сядзібы дзеда Кныша. Вось я лячу над густымі шатамі гэтых высачэзных, маўкліва-сонных дрэў. Плыву ў вячэрнім паветры лёгка, ціха, паволі. Апускаю вочы долу — і ў шэра-цьмяным паўзмроку спрабую разглядзець абрысы хат, калодзежаў, постаці людзей на падворках. Вунь, здаецца, Віцева матуля ідзе ад хлява з даёнкай у руцэ, злева ад мяне па дарозе зыбаецца-сунецца воз з бульбоўнікам і гарбузамі, а наперадзе па пожні з парослай травой пасецца стрыножаны белагрывасты конь. Я лячу, азіраюся навокал, а мяне там, уверсе, здаецца, ніхто не бачыць. Селянін, чалавек з клопатамі пра хлеб надзённы, глядзіць перад сабой, альбо вочы яго трымаюцца шэра-чорнага долу. Прыземленым у клопатах і працы людзям не да нябесных летуценняў і мрояў, ім няма калі лічыць варон, задраўшы галаву, а таму незаўважна для ўсіх я плыву-рухаюся над вёскай, аглядаю знаёмыя да драбніц мясціны. Спыняю свой лёт перад пачаткам куп'істага балота, бо вельмі баюся, што не хопіць моцы перасягнуць яго межы. Паціху зніжаюся, а затым апускаюся на сыры мурог. Сэрца гучна тахкае, б'ецца так шпарка, як у спуджанай птушкі ці палахлівага зайца-шарака. Адчуваю стомленасць, поўную страту сіл, кволасць, нямогласць ва ўсім целе. Здаецца, праз хвілю-другую магу паваліцца, як сноп, і апынуцца ў беспрытомнасці. Аднак неяк я выбавіўся з гэтага надзвычайнага стану — ці сну, ці то трызнення, ці то самагіпнозу — і рушыў дахаты, непрыкметна для ўсіх прыйшоў да таго месца на бульбянішчы, адкуль пачынаўся мой незвычайны, амаль птушыны палёт. Магчыма, уражлівая душа вылятала з цела і вандравала па гэтым свеце, а затым вярталася ў сваю абалонку. Хто яго ведае, што са мною рабілася.

Назаўтра ўвечары я зноў паспрабаваў узняцца-паляцець — і паўтарылася тое самае. Мае эксперыменты працягваліся. Неўзабаве я лётаў на немалую адлегласць, перамяшчаўся ў паветры з аднаго месца на другое. Пасля кожнага пералёту я адчуваў страшэнную стому, пэўны час дзе-небудзь сцішана сядзеў, каб аднавілася сіла і моц у целе. Мне захацелася, каб і Віця разам са мною навучыўся лётаць. І тады мы разам будзем кружыць, нібы птахі, над нашым мястэчкам, лётаць-дзівіцца з вышыні, што дзеецца навокал.

— Віцька, хочаш, навучу лётаць! — прапанаваў я сябру.

— Лётаць? — з недаверам перапытаў ён.

— Ага, лётаць! — радасна выгукнуў я.

— Ну, брахун? Ты гэта сур'ёзна? Слухай, Мюнхгаўзен, у цябе часам шарыкі за ролікі не заскочылі? Ці ты пацвельваешся, проста жартуеш?

— Жартую, анягож… — пасля хвіліннага маўчання засмучана адказаў я.

Сябра не паверыў мне, а таму я перадумаў вучыць яго лётаць. Гэтае дзіўнае, незвычайнае ўменне было маёй вялікай таямніцай. Аднаго разу я праляцеў некалькі кіламетраў. Калі апусціўся на зямлю, то ступіў крок, другі — і рухнуў, самлеў. Мяне, непрытомнага, са збялелым тварам, падабралі людзі з суседняй вёскі і прывезлі на падводзе да сябе дамоў. Дзесьці праз паўгадзіны я ачомаўся і, калі даведаўся, што здарылася і чаму ляжу на ложку ў чужой хаце, вельмі напужаўся. Дамоў я прыцягнуўся апоўначы. Маці, чакаючы мяне, перахвалявалася. Яна пытала, дзе так доўга валачыўся і што рабіў. У адказ я маўчаў, як падпольшчык. Пасля таго я больш не спрабаваў лётаць. Ці было тое насамрэч, папраўдзе? Неяк у адной з тэлеперадач гаварылася пра індыйскіх ёгаў, пра тое, што яны ляжаць і спяць на вадзе, могуць лёгка падымацца ў паветры.

З цягам часу я забыў пра гэтае сваё ўменне лётаць…

Дзяцінства… Ты рана скончылася. Можна сказаць, прамільгнула і перакінулася ў дарослае жыццё з яго клопатамі і турботамі. Лёс і жыццё пазбавілі мяне ружовых мараў і летуценняў. Як і вельмі многім з тых, хто жыве на гэтай пакутнай зямлі, давялося спазнаць увесь боль і цяжар страты блізкіх, родных людзей: бабулі, бацькі, маці, брата Толіка. І дачасна не стала цябе, мой першы, самы дарагі сябар дзяцінства.

Віця, Віцька... Не ведаю, што з табой здарылася, якое ліха абрынулася, чаму так рана цемра забрала цябе ў свае нетры. У тую вестку цяжка паверыць… Але цябе больш няма. Аднойчы ты паехаў у свет — і больш не вярнуўся на радзіму. Мабыць, не варта чакаць цуду, ты ўжо там, куды цябе перавёз на сваім чоўне няўмольны Харон. Цябе няма... Але ты будзеш жыць, пакуль жыву я, пакуль мне сняцца сны і памяць не пакіне мяне.

Я згадваю наша з табой далёкае дзяцінства. На жаль, яно ніколі больш не вернецца. Мне не спіцца, і я ўзіраюся ў акно, думаю: "Чаму так хутка ўсё мінае? Дзіцячыя гады прабеглі як адзін дзень. Здаецца, жывеш — і чакаеш чагосьці лепшага, светлага, прыгожага. Праходзіць, мінае жыццё ў гэтым бясконцым чаканні. Няўжо самае лепшае, што застаецца чалавеку на гэтым свеце, — сны пра дзяцінства?"

Ужо світае, і вось-вось пачне ўваскрасаць сонца. На высахлай таполі вартуюць настылую цішу чырванадзюбыя буслы. Гэтак, як і сотні гадоў таму, пачынаюцца раніцы на нашай з табою, дружа, радзіме. Неўзабаве твая матуля, прыгнутая да зямлі радыкулітам, расчыніць скрыпучыя веснічкі, каб выправіць з радоўкаю на выган марудлівую пярэстую рагулю. Значыць, і мне трэба браць заплечнік і ісці на чыгунку, каб ехаць у горад, туды, дзе мяне чакаюць праца і клопаты. Я абавязкова яшчэ вярнуся ў гэты чысты, светлы і незабыўны свет дзяцінства. У снах, мроях, трызненнях…

# Што чуваць у Радзівілаў?

***Вялікі княжацкі дом, сэрца Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж", зноў, як і два з паловай стагоддзя таму, поўніцца жывой музыкай.***

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

Гучыць яна і на брукаваным пляцы ўнутранага двара ўатачэнні высокіх мураваных сцен, калі ладзіць тут свае летнія імпрэзы Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі. І ўсё часцей гасцюе ва ўзноўленай у стылі ампір Тэатральнай зале на 130 глядацкіх месцаў. Побач з ёю, дарэчы, размясцілася экспазіцыя "Тэатральнае і музычнае жыццё ў Нясвіжскім палацы", дзе можна падзівіцца і на старадаўні пастановачны рыштунак — тэатральныя машыны XVIII стагоддзя, падобныя да тых, што скарыстоўваліся для імітацыі прыродных стыхій у імпрэзах Уршулі Радзівіл.

Сваю найноўшую гісторыю аднаўленая Тэатральная зала Палацавага ансамбля XVI — XIX стст. пачынае прыгожа і годна, у духу лепшых традыцый высокага мастацтва. Так, напрыклад, у красавіку тут адбыўся майстар-клас для музыкантаў Маладзёжнага камернага аркестра пад кіраўніцтвам нашай выдатнай скрыпачкі, лаўрэата міжнародных конкурсаў Влады Беражной. З канцэртам-рэчыталам прыязджаў адзін з найвядомых сучасных піяністаў Барыс Беразоўскі, які быў, між іншым, прыемна ўражаны якасцямі ўсталяванага на гэтай утульнай камернай сцэне белага раяля фірмы "Petrof". Вядучыя артысты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі прывозілі сюды адмысловы "Калейдаскоп папулярных мелодый": у іх выкананні гучалі вядомыя рамансы.

А падчас фестывалю "Музы Нясвіжа-2012" у гэтай светлай, высакародна і лаканічна аформленай зале ўпершыню выступілі музыканты Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі. Іх праграма "Шляхі мецэнацтва. Да 500-годдзя дынастыі Радзівілаў" аб'яднала музыку розных часоў, стыляў і жанраў, якая набыла новае жыццё ў аранжыроўках для камерных ансамбляў вялікага калектыву: кларнетыстаў, салістаў на драўляных духавых інструментах, выканаўцаў на флейтах, трубачоў, харавой групы, струннага аркестра і квартэта. Выконваліся творы, так або інакш звязаныя з жыццём дынастыі ўладальнікаў замка, з эпохай росквіту мастацтва ў сценах слыннага дома Вялікіх князёў: музыка Вацлава з Шамотул, Яна Карловіча, Яна Голанда, Міхала Казіміра Агінскага, прадстаўнікоў роду Радзівілаў: Мацея, Антонія ды Соф'і...

Пры канцы жніўня ў гэтых сценах адбыўся канцэрт "Музычныя скарбы Еўропы". Ён стаўся своеасаблівай прэзентацыяй серыі мастацка-асветніцкіх імпрэз, якія музей-запаведнік ажыццяўляе па суботах і нядзелях (бо ў выхадныя дні заўважна павялічваецца плынь экскурсійных груп) — з верасня па кастрычнік. Праект прадугледжвае выкананне кампактных, непрацяглых праграм старадаўняй камернай музыкі, пэўным чынам спрычыненай да Нясвіжа і даступнай для ўспрымання нават недасведчанымі слухачамі. Так, напрыклад, у "нясвіжскім" рэпертуары ансамбля старадаўняй музыкі "Кантабіле" — усім вядомы "Жарт" з



Тэатральная зала палаца.

Сюіты Ёгана Себасцьяна Баха, танцавальныя нумары з г. зв. "Полацкага сшытка", уверцюра з оперы "Агатка", напісанай прыдворным нясвіжскім кампазітарам Янам Давідам Голандам на лібрэта Мацея Радзівіла і створаны таксама ў некарананай сталіцы "Дывертысмент" Мацея Радзівіла, контрдансы Восіпа Казлоўскага, Ля мінорны паланэз ("Развітанне з радзімай") Міхала Клеафаса Агінскага... Той, хто зазірнуў "на агеньчык" да Радзівілаў і пацікавіўся, што ж гучыць у гэтых легендарных сценах вераснёвымі днямі, мог патрапіць на канцэрт струннага квартэта "NewQuartet". Праграму ансамбля расквеціла мажорная і цёплая музыка Вольфганга Амадэя Моцарта: яго дывертысменты, "Маленькая начная серэнада", спецыялістам вядомая найперш пад назвай "Маленькая музыка на ноч"...

Безумоўна, пакуль рана гаварыць пра фарміраванне ў Нацыянальным гісторыка-культурным музеі-запаведніку свайго канцэртна-тэатральнага сезона са сталай афішай. Але Нясвіж як асяродак еўрапейскага мастацкага жыцця адраджаецца de facto. Прафесійныя выканаўцы выступаюць у зале ратушы, у палацы, фарным касцёле і на вольным паветры ў замкавым двары, у Цэнтры культуры і адпачынку, бібліятэцы; мяркуецца, што з аднаўленнем сямейнай замкавай капліцы ў ёй можна будзе ладзіць камерныя канцэрты арганнай музыкі... Перадумовы для паўнавартаснага філарманічнага і музычна-тэатральнага жыцця ў старажытным горадзе ўжо ёсць.

**Газета "Літаратура і мастацтва" — інфармацыйны партнёр акцыі "Нясвіж — культурная сталіца Беларусі".**

# Гаспадыня «Музычнай гасцёўні»

**Валянціна ФІЛІПЕНКА**

Гады чатыры таму я выпадкова пачула на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё вельмі прыемны, выразны, інтэлігентны голас піяністкі Таццяны Старчанкі, якая распавядала пра свой будучы канцэрт у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Тады я і даведалася, што Таццяна — нязменная гаспадыня філарманічнай "Музычнай гасцёўні". І пачала цікавіцца канцэртамі з яе ўдзелам.



*Піяністка Таццяна Старчанка.*

Памятаю: так захацелася патрапіць на канцэрт Таццяны Старчанкі, прысвечаны Ф. Шапэну (дарэчы, ён і мой улюбёны кампазітар), але даведалася, што ў касе білетаў даўно няма. Я ўсё ж такі пайшла ў філармонію з надзеяй купіць хоць уваходны квіточак — і вось шчаслівы выпадак: купіла білет "з рук". Як трапятала мая душа ад высокіх пачуццяў да неўміручай музыкі Ф. Шапэна ў выкананні Т. Старчанкі! Я гатовая была крычаць "брава!". З таго часу старалася не абмінуць ніводнага яе канцэрта: я "захварэла" на Таццяну.

Выклікаюць захапленне яе рознабаковая адукаванасць і высокі прафесіяналізм; яркая, элегантная, абаяльная знешнасць; светлы розум; прыгожае маўленне, цёплая душа, неверагоднае жыццялюбства, чулае і неабыякавае стаўленне да прыхільнікаў яе таленту і патрабавальнасць да сябе.

Яна — фантастычная жанчына, загадкавая і такая розная! Кожны канцэрт Т. Старчанкі чакаеш, як свята, а яе праграмы заўсёды праходзяць з аншлагам.

У чым поспех яе творчасці? Дык гэта відавочна! Каб дастукацца да сэрцаў гледачоў, Т. Старчанка прапускае мастацтва праз уласныя сэрца і душу, для кожнага канцэрта знаходзіць нешта новае. Варта ўспомніць цудоўныя джазавыя аранжыроўкі папулярных класічных твораў у канцэрце "Класік-джаз трыа"; ці Таццяна, майстар фартэпіяннага выканальніцтва, раптам затанчыць на сцэне танга ў канцэрце "Не толькі танга"; ці пойдзе ў скокі і заспявае ў самым дасціпным праекце "Музыкі жартуюць".

Запомніўся і вечар, прысвечаны зоркам беларускага тэатра і кіно, на сцэне філармоніі. Узрушыла і захапіла спалучэнне паэзіі "Срэбранага веку" і музыкі. Адмысловую ўвагу прыцягнула творчасць Ігара Севяраніна ў таленавітым выкананні майстра мастацкага чытання Алега Вінярскага ў спалучэнні з музыкай Сяргея Рахманінава. Гэта свежая ідэя, увасобленая ў жыццё, прыйшлася шматлікім слухачам да душы. А канцэрты Т. Старчанкі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі — яшчэ адна выдатная праява яе творчага таленту!

Мяне захапляе і манера Таццяны весці свае канцэртныя праграмы: без шаблонаў, цёпла і пранікнёна, нібыта звяртаецца да кожнага гледача як да добрага знаёмага. Гэта ўплывае на залу, і ўсталёўваецца даверлівая сувязь. Вельмі важная кароткая інфармацыя пра змест музычнага твора, што дапамагае слухачам-аматарам зразумець і адчуць глыбіню класічнай музыкі, зведаць радасць жыцця.

Самае галоўнае — Таццяна Старчанка здолела аб'яднаць таленавітых, добрых, адданых музыкантаў. У яе канцэртах заўсёды ўдзельнічаюць Даша Мароз (фартэпіяна), Віктар Альшэўскі (кантрабас), Ігар Аўдзееў (ударныя), Яўген Віданаў (флейта), Наталля Корсак (мандаліна), Кацярына Архіпава (скрыпка), Наталля Малышава (віяланчэль), Таццяна Шумакова (цымбалы) і іншыя выканаўцы, у тым ліку салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі, Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра.

Я схіляюся перад іх высокім майстэрствам.

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

Гран-пры XVII Міжнароднага фестывалю "Белая вежа", які праходзіў у Брэсце і меў дадатковую назву "Класіка PLUS", атрымаў вулічны спектакль "Макбет, хто гэты скрываўлены чалавек?". Яго паставіў паводле вядомай трагедыі У. Шэкспіра рэжысёр П. Шкотак у тэатры "Biuro Podrozy" (Польшча). Падчас фэсту 25 калектываў з 11 краін паказалі 28 спектакляў. Лаўрэаты вызначаліся ў васьмі намінацыях. Дыпломам "За найлепшы акцёрскі ансамбль у класічным творы" адзначаны спектакль "Гульцы" паводле М. Гогаля Рускага тэатра Эстоніі; "За найлепшы класічны спектакль малых формаў" — пастаноўка "Тэатральныя стварэнні" паводле п'есы Э. дэ Анджэліс Драматычнага тэатра імя А. Венгеркі (Польшча); дыплом "За найлепшы класічны спектакль для дзяцей і падлеткаў "Крылы для Дзюймовачкі" паводле твораў Х. К. Андэрсена атрымаў Палтаўскі акадэмічны абласны тэатр лялек (Украіна). Сярод узнагароджаных акцёраў — і нашы: дэбютант з Брэста А. Бараннік і патрыярх сталічнай сцэны Р. Янкоўскі.

Арыі, дуэты, сцэны з класічных опер і рамансы прагучаць у канцэрце, прысвечаным 75-годдзю з дня нараджэння народнага артыста Беларусі Юрыя Бастрыкава (1937 — 2011). У праграме ўдзельнічаюць Н. Руднева, Н. Гайда, Я. Пятроў, У. Пятроў, С. Франкоўскі, М. Майсеенка... Разам з імі ды з іншымі салістамі рэжысёр і вядучы імпрэзы В. Скорабагатаў і канцэртмайстар Г. Карант рыхтуюць аповед-успамін пра выдатнага спевака, чый магутны "барытон-цунамі" гучаў у спектаклях НАВТ оперы і балета Беларусі амаль чатыры дзесяцігоддзі. Канцэрт адбудзецца 4 кастрычніка ў Камернай зале імя Л. П. Александроўскай.

Паэма Аркадзя Куляшова "Хамуціус", пераўвасобленая рэжысёрам У. Савіцкім у спектакль "Майго юнацтва крылы", кранула сэрцы многіх гледачоў, якія прыйшлі ў сталічны Дом літаратара... на адкрыццё новага сезона Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. ТЮГ усё яшчэ чакае завяршэння рэканструкцыі роднага будынка і тым часам дбае пра творчасць. На мінулым тыдні артысты паказалі прэм'еру паводле казкі братоў Грым "Беласнежка і сем гномаў" (п'еса Ж. Лашкевіч, рэжысёр Т. Вінаградава, мастацкі кіраўнік пастаноўкі У. Савіцкі), праз месяц — прэм'ера "Царэўны-жабы" (п'еса В. Ткачука, рэжысёрскі дэбют актрысы тэатра Г. Казловай). Да 130-годдзя Якуба Коласа У. Савіцкі стварыў спектакль "Міхалава зямля" паводле хрэстаматыйнай паэмы нашага класіка.

Зноў завітала ў Мінск прымадонна санкт-пецярбургскага Марыінскага тэатра Ірына Гардзей — наша зямлячка, выпускніца Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Як вядома, яна рэгулярна гастралюе ў Аўстрыі, Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Ізраілі, Італіі, Кітаі, Польшчы, Швейцарыі, Фінляндыі, Францыі, Японіі... З прыемнасцю развівае супрацоўніцтва са славутай беларускай, адной з найярчэйшых оперных зорак, і наш Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета. Летась тут з поспехам прайшоў сольны канцэрт І. Гардзей, а сёлетняй вясной аматары оперы авацыяй віталі яе выступленне ў спектаклі "Тоска". Гэтым разам артыстка паўстала перад нашай публікай у партыі Абігаіль — гераіні оперы "Набука".



Мой край.

# Казкі ў Горках... знітаваныя!

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота Віктара Кавалёва**

На палітры будзённага дня міжсезонная непагадзь пакідала бляклыя маркотна-шэрыя ды бурыя фарбы. Мы, напэўна, даўно ўжо занудзіліся б ад напружанай камандзіроўкі па Магілёўшчыне і пакіравалі ў бок вакзала, каб не наш надзвычай абаяльны, дасціпны і гасцінны сябра — пісьменнік Міхась Уласенка. Міхась Аляксандравіч, як сапраўдны экскурсавод і краязнаўца, улюбёны ў свой горад, вёў нас па даволі шумных цэнтральных вуліцах Горак...

Вялікая выставачная зала, у якой мы ўрэшце апынуліся, выглядала такой ўтульнай ад няяркага спакойнага святла; і столькі сонца, цёплыні, радасці жыцця зыходзіла ад каляровых выяў на яе сценах! Што за незвычайныя карціны? Уражаныя да здзіўлення, мы затрымаліся ў гэтай гурме казачных вобразаў, напатканай у Горацкім раённым гісторыка-этнаграфічным музеі; з прыемнасцю паслухалі расповед яго супрацоўнікаў, якія пазнаёмілі нас і з іншымі музейнымі экспазіцыямі, і з адметнасцямі гісторыі горада, і з living рознабаковай дзейнасцю сваёй установы — у тым ліку выдавецкай, літаратурна-асветніцкай, выставачнай. Дарэчы, і выстаўка, што з першага позірку выклікала ў нас прыемнае здзіўленне, аказалася адмысловай праявай творчага жыцця самога музея.

> Напэўна, калі адну з гэтых незвычайных карцін павесіць над калыскай, яна нашэпча дзіцяці перад сном казачную гісторыю з добрым фіналам, і сон яго будзе светлы ды яркі. А калі на рукатворную казку паглядзіць чалавек дарослы, яна падорыць яму добры настрой на ўвесь дзень.

Стракатымі лапікамі — лясная лістота ды някідкія лугавыя краскі ў траве; каларытны вясковы далягляд; вясёлыя жоўтагаловыя сланечнікі. Ці вось яшчэ: сумёты зіхацяць бліскаўкамі сняжынак і над комінам уецца светлы дымок; ад ладных хатак і галінастых дрэў пад высокаю поўняй кладуцца на зімовае бездарожжа глыбокія сіняя цені. А сюжэты знаёмых казак: якія пластычныя абрысы персанажаў і прадметаў, якія дынамічныя лініі спыненага руху, трапна "схопленыя" жэсты, выразная міміка! Сакавітая дэкаратыўнасць, ігра фактур і колераў спалучаюцца з мастацкай пераборлівасцю, патрабавальным густам, пачуццём меры. Кожны з рукатворных цудаў — узор дасканала выкананай руплівай работы.

Усё гэта разам (асабліва калі разглядаеш незвычайныя творы на здымках, зробленых тады ў музеі) вельмі нагадвае і малюнкі з дзіцячых кніжак, і традыцыйны жывапісны лубок, і стоп-кадры з добрых дыснееўскіх мульцікаў. Аднак свае маляўнічыя "палотны", насценныя дыванкі, пано знакамітая горацкая "казачніца" Ніна Баранава стварае з тканіны ў тэхніцы аплікацыі. Яе чарговая персанальная выстаўка, разгорнутая ў вялікай зале карцiннай галерэі музея, складалася з больш як сотні работ. Пераважна — мастацкіх аплікацый, якія сямтам перамяжаліся вышыванымі нацюрмортамі ў драўляных рамах ды найтанчэйшымі карункавымі сурвэткамі.

Сваё майстэрства, сакрэты якога пераняла ад маці ды бабулі, Ніна Фёдараўна ўдасканаліла да высокага прафесійнага ўзроўню: балазе, на гэта ёсць Богам дадзены талент дый вольны час, хаця і цяпер, у свае "за семдзесят", яна працуе і на заслужаны адпачынак не спяшаецца.

Родам Ніна Баранава з Браншчыны. У 1961 годзе, узяўшы шлюб, разам з мужам прыехала ў Горацкі раён. Маладая сям'я амаль на дзесяць гадоў атабарылася ў вёсцы Каменка, з 1972-га жыве ў Горках. А творчасць? Яна доўгі час заставалася гэткім кантрапунктам у лёсе Ніны Фёдараўны, пакуль не загучала галоўным лейтматывам.

Пасля заканчэння спецыяльных курсаў Н. Баранава працавала ў гандлі. Была бухгалтарам у Горацкім камбінаце бытавога абслугоўвання насельніцтва. Потым для энергічнай пенсіянеркі знайшлася праца ў мясцовай падатковай інспекцыі. Вышыўкай, вязаннем кручком і на прутках яна займалася ўсё жыццё — нібыта між іншым, перапрацоўваючы побыт у дзівасвет, ладзячы свята вакол сябе і радуючы блізкіх людзей рукатворнай прыгажосцю. І вось — захапілася аплікацыяй, праз якую ўвасабляе сюжэты вядомых казак: рускіх, беларускіх, украінскіх. Знітоўвае, злучае, спалучае ў літаральным сэнсе матэрыяльныя дэталі, ладныя лапікі тканіны і драбнюткія "штрыхі", каб у выніку ювелірных маніпуляцый цэласны ўяўны вобраз матэрыялізаваўся ў пазнавальны малюнак: "Рэпка", "Лісіца і Жuравель", "Пых", "Воўк і сямёра казлянят", "Казка пра рыбака і рыбку", "Калабок"... Унучцы на дзень нараджэння падаравала "Курку Рабу". Да ўлюбёнага сямейнага свята змайстравала нешта кшталту насценнай паштоўкі "З Новым годам!". А Дню святога Валянціна прысвяціла афарыстычную філасофскую выяву двух сілуэтаў пад "райскім" дрэвам, на якім няма ніводнага яблыка...

Аплікацыя зрабілася для Ніны Фёдараўны ўлюбёным відам дэкаратыўна-прыкладной творчасці, дзякуючы якому горацкая ўмеліца набыла вядомасць ужо не як самадзейная мастачка, а як самабытны майстар народнай творчасці. Мінула роўна пятнаццаць гадоў з таго часу, як улучылася яна ў народнае аб'яднанне "Мастацтва", што існуе пры музеі, і атрымала дыплом І ступені за свае работы, прадстаўленыя на прэстыжным фестывалі "Беларусь — мая песня". Імя Н. Баранавай добра ведаюць наведвальнікі раённых, абласных, рэспубліканскіх выставак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, яе творы экспанаваліся ў сталіцы Расіі.

Горацкі раённы гісторыка-этнаграфічны музей вядзе свой летапіс са снежня 1984 года, калі была прынята сумесная пастанова бюро Горацкага гаркама КПБ, выканкамаў раённага Савета народных дэпутатаў і гарадскога Савета народных дэпутатаў наконт стварэння ў гэтым старадаўнім кутку Магілёўшчыны дзяржаўнага гісторыка-этнаграфічнага музея. Трыццаць пяць гадоў таму, у верасні 1987-га, мастакі Магілёўскага мастацкага камбіната, грунтуючыся на распрацаванай навуковай канцэпцыі музея, пачалі стварэнне яго экспазіцыі, а з лістапада наступнага года ўстанова пачала працаваць для наведвальнікаў. І вось што значыць жывы, творчы погляд на дзейнасць традыцыйнай установы: дзякуючы нестандартнаму афармленню мастацкага аддзела, на яго аснове ў музеі была адкрыта карцінная галерэя (1989 год)! Камплектаванню яе фонду паспрыялі дарункі мастакоў-землякоў ды іх сем'яў: Я. Сімкіна, В. Васільева, Ф. Яўмененкі. Тут адбываюцца самыя розныя зменныя мастацкія выстаўкі (да дваццаці экспазіцый за год). Яно і не дзіўна: горацкія музейцы падтрымліваюць творчыя сувязі з раённымі музеямі Магілёўскай і Віцебскай абласцей, абменьваюцца з імі выставачнымі калекцыямі карцін, дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Часта ўпрыгожваюць галерэю вернісажы выдатнага беларускага акварэліста Ф. Кісялёва, чые маляўнічыя аркушы таксама ёсць у фондах музея. Мастак жыве ў Магілёве і наведваецца да горацкіх сяброў, каб прэзентаваць свае работы або правесці майстар-клас.

А створанае пры музеі аб'яднанне "Мастацтва" сёлета адзначае сваё 20-годдзе. Да знамянальнай даты ў самай вялікай зале галерэі наладзілі выстаўку самадзейных мастакоў і прызнаных майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Экспазіцыя пад назвай "Таленты зямлі горацкай" экспанавалася тут цягам усяго лета. Няма сумніву, гледачам было на што падзівіцца, углядаючыся ў такі розны, непаўторны дэкаратыўны, тэматычны і вобразны свет, створаны ў кампазіцыях Алы Аўраменкі, Вольгі Лысечкі, Наталлі Душкінай, Людмілы Трацко, Людмілы Шыпінай... Пацешыла вока наведвальнікаў музея і стваральніца казачных аплікацый Ніна Баранава.



Курка Раба.



Селянін і мядзведзь.



Снягурка.



Пых.



Зіма.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

28 верасня 2012 г.

# Дзень у кніжніцы: як гэта было

“Александрыйская бібліятэка адпачывае!” — натхніць чытача на напісанне гэткіх цёплых слоў змаглі супрацоўнікі цэнтральнай бібліятэкі горада над Сожам, прапанаваўшы жыхарам і гасцям Гомеля правесці час у сценах храма кнігі.

**Марына СТУПІНСКАЯ,**
**фота Тацццяны Бедушэўскай**

Да прафесійнага свята ў рамках тыдня бібліятэк пад агульным дэвізам “Мы вам рады!” бібліятэкі-філіялы Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы арганізавалі акцыі па папулярызацыі кнігі і чытання, тэматычныя мерапрыемствы, чытальні пад адкрытым небам і азнаямляльныя экскурсіі.

Яркім, а таму запамінальным, стаў для многіх гамяльчан Дзень адчыненых дзвярэй у гарадской бібліятэцы імя А. І. Герцэна. Зладжаная каманда бібліятэкараў прапанавала чытачам весела і пазнавальна правесці час на працягу ўсяго дня. Дзея разгортвалася на трох паверхах бібліятэкі і ахапіла ўсе катэгорыі яе карыстальнікаў.

Сустракалі чытачоў падчас свята каля цэнтральнага ўвахода, дзе прапанавалі на вольным паветры пачытаць прэсу і стаць удзельнікам акцыі “Аддадзім кнігу ў добрыя рукі”. Дарэчы, не адна кніга ў гэты дзень знайшла ўтульнае месца на кніжнай паліцы новых гаспадароў. Тут жа ўсе жадаючыя маглі авалодаць майстэрствам арыгамі і паспрабаваць скласці папяровую кветку. Майстар-класы суправаджалі ўсе мерапрыемствы Дня ў бібліятэцы. Дзяўчаты вучыліся візажу і заплаталі французскія косы, з задавальненнем выступалі ў якасці мадэляў, а самыя актыўныя госці змаглі далучыцца да ўдзельнікаў гарадскога клуба гістарычнай рэканструкцыі, што давалі ўрокі сярэднявечных танцаў.

Для аматараў інтэлектуальных размінак кожны аддзел бібліятэкі падрыхтаваў цікавыя пытанні на веданне літаратуры, вызначаліся чытачы, якія добра арыентуюцца ў бібліятэчных каталогах і хутка знаходзяць кнігі на кніжных паліцах. Самыя кемлівыя атрымалі падарункі.



У чытальнай зале бібліятэкі.



На выстаўцы жывапісу Дзмітрыя Яўсеенкі.

Прыцягвалі ўвагу наведвальнікаў і, здавалася б, традыцыйныя формы работы: напрыклад, выстаўка “Любімыя кнігі гамяльчан”, што распавядала пра літаратурныя густы вядомых жыхароў Гомеля, сярод якіх прадстаўнікі ўлады, кіраўнікі ўстаноў культуры і прамысловых прадпрыемстваў, акцёры, мастакі, карэспандэнты мясцовых СМІ.

На выстаўцы “Бібліятэчны hand-made” дэманстраваліся прадметы, створаныя рукамі бібліятэкараў: вязаныя вырабы, вышыўка, паштоўкі і нават вырашчаныя экзатычныя пакаёвыя кветкі.

Прыхільнікаў жывапісу парадаваў гамяльчанін Дзмітрый Яўсеенка. Мастак прадставіў гледачам адзінаццаць карцін, на якіх адлюстраваў чароўныя жаночыя вобразы. Урачыстае адкрыццё персанальнай выстаўкі суправаджалася феерычнай інсталяцыяй: загадкавыя персанажы на час пакінулі межы карцінных рам і апынуліся сярод гасцей. Падтрымаў рамантычную атмасферу імпрэзы Іван Мурашка, які іграў на саксафоне. Гучалі таксама песні ў выкананні салістаў камернага хору абласной філармоніі, можна было паслухаць рамансы ў выкананні артыстаў абласнога драматычнага тэатра.

Арганізатары свята імкнуліся пераканаць: бібліятэка сёння — гэта не толькі цэнтр інфармацыі, а вялікі сацыякультурны цэнтр.

### БІБЛІЯТЭКА БЕЗ МЕЖАЎ

Па ініцыятыве бібліятэкі-філіяла № 8 гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, Гомельскага аўтобуснага парка № 1 і пры падтрымцы адміністрацыі Савецкага раёна горада ў грамадскім транспарце на маршрутах, што злучаюць самыя аддаленыя раёны Гомеля, з’явіліся друкаваныя рэкламныя лісты ў падтрымку чытання. Па вуліцах горада ў Дзень бібліятэк хадзіў адмысловы аўтобус. У ім можна было пазнаёміцца з навінамі, якія друкаваліся ў прэсе, і нават папоўніць хатнюю бібліятэку адной з прапанаваных кніг. Падчас руху бібліятэкары распавядалі гараджанам пра храмы кнігі, міма якіх праязджалі, а таксама пра мерапрыемствы, што запланаваны ўстановамі культуры ў Год кнігі.

# «Вёска» Крашэўскага гучыць па-беларуску!

Амаль два гады таму вядомы на Пружаншчыне краязнаўца, паэт і пчаляр Мікола Папека пачаў пераклад паэмы “Вёска” знакамітага польскага пісьменніка XIX стагоддзя Юзафа Ігнацыя Крашэўскага. Сёлета адзначаюцца 200-я ўгодкі з дня нараджэння Ю. Крашэўскага, жыццёвы і творчы лёс якога цесна звязаны з вёскай Доўгае, што ў Пружанскім раёне.

**Раіса ЗІНЧУК,**
**бібліятэкар**
**Пружанскай ЦРБ,**
**фота Вольгі Макарчук**

Вядомы ва ўсім свеце польскі раманіст, чыя літаратурная спадчына складае каля 600 тамоў, амаль зусім не перакладаўся на беларускую мову. Не перакладалася і яго паэма “Вёска”. Мікола Папека — першы, хто наважыўся перастварыць яе на беларускай мове, зрабіўшы некалькі варыянтаў перакладу.

Твор быў выдадзены ў брэсцкім выдавецтве “Альтэрнатыва” тыражом 99 асобнікаў за кошт аўтара. Рэдагаваў “Вёску” перакладчык Я. Бяласін. У афармленні вокладкі кнігі выкарыстаны жывапісная работа “Купалле” брэсцкага мастака І. Крупскага, ураджэнца Пружаншчыны, і выява медальёна, прысвечанага 50-годдзю літаратурнай дзейнасці Ю. Крашэўскага. Медальён знойдзены падчас вывазу зямлі з радавой сядзібы Крашэўскіх і захоўваецца ў фондах абласнога краязнаўчага музея.

Днямі ва ўтульнай гасцёўні “Сустрэча” Пружанскай ЦРБ імя М. Засіма прайшла прэзентацыя кнігі. На сустрэчу былі запрошаны вучні школ горада, супрацоўнікі бібліятэкі, творчая інтэлігенцыя. Адкрыла імпрэзу вядучая гасцёўні Т. Лазарук, якая пазнаёміла ўсіх прысутных з творчасцю Ю. Крашэўскага, прадставіла яго кнігі, якія захаваліся ў фондах бібліятэкі. Потым слова ўзяў галоўны герой мерапрыемства Мікола Папека. Ён падзякаваў людзям, якія паспрыялі перакладу паэмы крытыкай і прапановамі, і прачытаў адзін з вершаў ідыліі. Са словамі ўдзячнасці за добры пераклад звярнулася да М. Папекі брэсцкая паэтка Руслана Гусева, якая доўгі час займаецца вывучэннем творчасці знакамітага польскага пісьменніка.

Многія ведаюць Міколу Папеку як аўтара зборніка вершаў “Чарнавікі” і заснавальніка літаратурнай мядовай прэміі, якая ў гэтым годзе ўручалася ўжо ў дзясяты раз.



Мікола Папека.

# У лабірынтах РДБ

Самай буйной бібліятэчнай установай усёй постсавецкай прасторы з'яўляецца Расійская дзяржаўная бібліятэка. Якія асаблівасці працы ў яе фондах? Наколькі РДБ адрозніваецца ад Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі? Прапаную чытачам уласныя ўражанні.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

## АД РУМЯНЦАВА — ДА ЛЕНІНА

Патрыятычна настроеныя чытачы ведаюць, што ніводная падзея ў свеце не адбываецца без прамога ці ўскоснага ўплыву Беларусі ці беларусаў. У выпадку з заснаваннем Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі такая сувязь больш чым відавочная. Адным з уплывовых дзяржаўных дзеячаў Расіі пачатку XIX стагоддзя з'яўляўся Мікалай Румянцаў, міністр замежных спраў і старшыня Дзяржаўнага савета Расійскай імперыі. Уладальнік Гомеля, мецэнат, арганізатар "Румянцаўскага гуртка", ён сабраў вялікую калекцыю кніг, рукапісаў, этнаграфічных і гістарычных матэрыялаў. Пасля смерці Румянцава ў 1826 годзе калекцыя была перададзена дзяржаве. Праз год імператар Мікалай I падпісаў загад аб стварэнні ў Санкт-Пецярбургу Румянцаўскага музея, які неўзабаве зрабіўся адкрытым для публікі. У 1861 годзе ўстанову перавялі ў Маскву і размясцілі ў знакамітым Доме Пашкова (цяпер там знаходзіцца аддзел рукапісаў і нотна-музычны аддзел РДБ).

На аснове кніжнага фонду была створана бібліятэка, якую ў 1924-м перадалі толькі што створанай установе — Расійскай публічнай бібліятэцы імя Леніна (пазней Усесаюзная бібліятэка імя Леніна). Цікава, што творы жывапісу з "Румянцаўкі" разышліся па музеях і галерэях, у тым ліку трапілі ў знакамітую "Траццякоўку". Неўзабаве для бібліятэкі быў узведзены асноўны будынак у сталінскім стылі, дзе працуюць чытачы. Не будзе перабольшаннем сказаць, што сярод іх былі ці не ўсе прадстаўнікі савецкай інтэлектуальнай эліты.

Але і пасля распаду СССР бібліятэка захоўвае сваё значэнне для незалежных рэспублік. Нічога дзіўнага тут няма: у спісе буйных сусветных бібліятэк РДБ займае чацвёртае месца (пасля Брытанскай бібліятэкі, Бібліятэкі кангрэса — у Вашынгтоне і Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі), а яе фонды налічваюць 42,7 млн адзінак захоўвання. Для параўнання, у нашай Нацыянальнай бібліятэкі — больш як 9 млн. Працуючы ў фондах апошняй над дысертацыяй па гісторыі, прысвечанай праблемам 1920 — 1930-х гадоў, я ў пэўны момант сутыкнуўся з цяжкасцю: шэраг выданняў у Мінску адсутнічаў. Таму магчымасць папрацаваць у РДБ стала шыкоўным падарункам, якім нельга было не скарыстацца.

## ШУКАЕМ РАЗЕТКУ

Пачнём знаёмства з РДБ ад пачатку. Хутчэй за ўсё, вы прыехалі да яе на адной з… чатырох ліній метро. Так-так, да бібліятэкі можна выйсці са станцый "Павялецкая", "Арбацкая", "Бібліятэка імя Леніна" і "Аляксандраўскі сад", якія ўтвараюць буйны перасадачны вузел. Уздымаемся па прыступках. Абавязкова ўсміхаемся фатографу, які шчоўкае "мыльніцай", птушцы, што вылятае, і сям'і, якая здымаецца на фоне Дастаеўскага, чый помнік стаіць ля ўвахода (месцы ля помніка Пушкіну даўно занятыя). Запіс адбываецца ў другім пад'ездзе, суседнім з уваходным, першым. Сама працэдура дастаткова хуткая: запаўняем анкету, працягваем у акенца пашпарт, кажам для фота "Чы-ыз!" ("Малады чалавек, якое "чы-ы-ыз"?! Гэта афіцыйны дакумент!"), чакаем некалькі хвілін — і ў вашых руках чытацкі білет, выдадзены на пяць гадоў.

Вяртаемся да галоўнага пад'езда. Адчыняем дастаткова цяжкія дзверы (моладзь моладздзю, а ў інтэлігентных бабулек на іх часам проста не хапае моцы). Праходзім праз турнікет з дапамогай білета. У гардэробе пакідаем амаль усе рэчы, а ў абмен атрымліваем фірмовы пакет з эмблемай РДБ.

Пасля гардэроба — другая мяжа ўмацаванняў у асобе супрацоўнікаў РДБ (на першай, ля турнікета, стаялі паліцэйскія). Кожны чытач атрымлівае спецыяльны кантрольны лісток, на якім піша прозвішча і свой нумар. Акрамя таго, уверсе могуць паставіць штампік пра наяўнасць ноўтбука. (Вось гэта разумны ход — прынамсі, не маючы ўласнага міні-камп'ютара, з чужым ніхто не выйдзе). Кантрольны лісток неабходна пакідаць падчас працы ва ўсіх спецыялізаваных залах. А вось калі працуеш у "сваім" і атрымліваеш кнігі, супрацоўнікі ставяць на лістку лічбу, якая адпавядае іх колькасці. Калі здаеш — лічба закрэсліваецца, а наверсе ставіцца штампік. Потым, пры выхадзе з бібліятэкі, кантрольны лісток аддаецца паліцэйскаму.

Пры запісе чытач адразу адносіцца да адной з чытальных зал. Першая — навуковая, для дактароў навук, прафесараў і акадэмікаў. Другая — для "цехнароў". Трэцяя — для гуманітарыяў. Калі ў нашай Нацыяналцы залы больш кампактныя, камерныя, у РДБ асобныя з іх здаюцца велізарнымі. На кожным стале — месца, паліцы для кніг, лямпа. Аднак у зале для гуманітарыяў быў адзін істотны недахоп, які перакрываў усе яго перавагі. Там чамусьці адсутнічалі разеткі для ноўтбукаў (прычым у іншых залах яны былі), таму на падзарадку даводзілася накіроўвацца ў каталог. Сёлета трэцюю залу закрылі на рамонт. Спадзяюся, пасля яго навукова-тэхнічны прагрэс усё ж такі дабярэцца туды.

## РАЗДРУКУЕМ ЧУЖУЮ ДЫСЕРТАЦЫЮ?

Але не будзем забягаць наперад. Перш чым атрымаць кнігі, неабходна іх замовіць. На маю думку, гэтая сітуацыя выглядае ў Мінску куды лепш, чым у Маскве. Прызнацца, даўно забыўся, калі карыстаўся ў НББ картказым каталогам. Звычайна ўсё неабходнае заказваецца праз яго камп'ютарны аналаг. Цяжкасць маскоўскай працы ў існаванні… двух электронных каталогаў! Адзін — традыцыйны. Чытач выбірае праз камп'ютар у зале электроннага каталога неабходнае выданне, замаўляе яго і праз пэўны час атрымлівае (зноў-такі, у нас усё зручней: камп'ютары ўсюды). Падчас працы на другім, які бачны праз экран спецыяльнага аўтамата, можна раздрукаваць толькі патрабаванне на заказ, якое потым неабходна аднесці да адпаведнага стала.

Але існуе некалькі цяжкасцей. Перш за ўсё, абодва каталогі часткова дубліруюць адзін аднаго, але пры гэтым не ўключаюць у сябе шэраг матэрыялаў. Але больш істотнае, што ніхто з кансультантаў так і не змог патлумачыць мне, па якім прынцыпе тыя ці іншыя фонды трапляюць у адзін каталог, а па якім — у другі. Прычым з вуснаў адной з супрацоўніц прагучала цудоўная фраза: "А тут амаль ніхто гэтага не разумее". Заставалася змірыцца і прыстасоўвацца да прапанаваных умоў.

Свае асаблівасці існуюць пры працы з дысертацыямі. Падчас навучання ва ўніверсітэце даводзілася браць у дэканаце спецыяльную паперу, у якой змяшчалася просьба: дазволіць працаваць у зале дысертацый НББ. У РДБ усё куды прасцей. Доступ у залу адкрыты ўсім чытачам. Пэўная цяжкасць заключаецца ў тым, што яна знаходзіцца не ў сталіцы Расіі, а ў падмаскоўных Хімках. (Там, дарэчы, размяшчаецца і зала газет, і літаратура на іншых мовах. Кошт дастаўкі аднаго асобніка ў асноўны будынак — 50 рублёў). Але выйсце дастаткова простае: у галоўным корпусе існуе пакой электроннай бібліятэкі, дзе прадстаўлены доступ да ўсіх аўтарэфератаў і большасці дысертацый, што абараняліся ў Расіі з 1990-х гадоў (каб трапіць туды, аўтар ці арганізацыя, дзе ён абараняўся, павінны заключыць з РДБ дамову). Прычым карыстальнік мае права раздрукаваць пэўную частку працы (не больш як 15% ад агульнага памеру).



Галоўны корпус.

## У СТАЛОВУЮ — З "АВОСЬКАЙ"

Але згадзіцеся, што доўга сядзець над кнігай шкодна. Нездарма кажуць, што коні ад працы дохнуць, а людзі лечацца. Самы час адпачыць! Пакольк РДБ будавалася куды раней, чым Нацыянальная бібліятэка, у ёй няма трэнажорнай залы і зусім не праводзяцца экскурсіі для цікаўных карэнных масквічоў, што прыехалі з Каўказа ці Поўначы. Таму нічога не застаецца, як спускацца на першы паверх — у сталовую.

Часам складвалася ўражанне, што менавіта там знаходзіцца сапраўдны цэнтр бібліятэчнага жыцця (у канцы жніўня, падчас вакацый, там часам было больш людзей, чым у залах). Сталовая складаецца з двюх частак. Першая ўяўляе сабой буфет. Другая — уласна сталовую з дастаткова нізкімі коштамі: абед можа каштаваць 150 — 170 рублёў, што для дарагой Масквы не вельмі вялікая сума.



Зала каталога.

Адзіны недахоп сталовай — ранняе заканчэнне працы, 18:00. Прычым за паўгадзіны да гэтага можна разлічваць хіба толькі на вегетарыянскі абед. Наогул, што да рэжыму працы, НББ апярэджвае РДБ. Калі ў Мінску можна працаваць і на выхадных, то ў нядзелю ў Маскве не папрацуеш. Зрэшты, гэта яшчэ не самая горшая сітуацыя. Напрыклад, Расійскі дзяржаўны архіў сацыяльна-палітычнай гісторыі адкрыты для наведвальнікаў усяго толькі тры разы на тыдзень, ды і тое не поўны дзень.

Дарэчы, ледзь не забыўся расказаць пра самае галоўнае правіла сталовай. Нават калі вы ў захапленні ад працы шэф-повара РДБ і жадаеце забраць прысмакі з сабой, будзьце асцярожнымі! Справа ў тым, што пакет не любіць вострых вуглоў (нават звычайных папак). Таму некалькі разоў здараліся сітуацыі, калі ён пачынаў рвацца проста на вачах. Які кантраст з НББ, дзе чытачам прапануюць трывалую сумку на плячо! (Тут пакет даводзіцца трымаць у руках). Але самае крыўднае, што пакет цалкам празрысты. Пра сябе я называю яго "авоськай": усе рэчы ў ім — як на далоні. Таму калі вы яшчэ не перадумалі, хавайце ежу ад калег па залі, каб не адрываць іх ад працы.

## ЯК ЗНАЙСЦІ НІРВАНУ?

Зрэшты, праца ў Расійскай дзяржаўнай бібліятэцы ўяўляе сабой не толькі знаёмства з кнігамі, дысертацыямі, часопісамі. Магчыма, чытачы-матэрыялі іранічна ўсміхнуцца над маімі словамі. Але я ўпэўнены, што кожны будынак пасвойму жывы. Ён канцэнтруе ў сабе атмасферу навакольнага асяроддзя і шчодра дзеліцца са сваімі жыхарамі і гасцямі. Не ведаю, што адчуваюць у сценах РБД матэматыкі, фізікі і хімікі. Але для гуманітарыяў (асабліва для гісторыкаў, тым больш для даследчыкаў савецкага перыяду) гэта сапраўдная нірвана. У чым яна праяўляецца?

У ідэале навукоўцы, якія даследуюць мінулае, павінны "перанесціся" ў той час і разважаць яго катэгорыямі. Інакш кажучы, даследуючы дзейнасць дзеячаў "нашаніўскага адраджэння", трэба ўсялякім чынам імкнуцца зразумець іх логіку і думкі, улічваючы грамадска-палітычнае і эканамічнае жыццё пачатку XX стагоддзя, а не ажыццяўляць на тую эпоху сучасную праекцыю.

Атмасфера двух даваенных дзесяцігоддзяў літаральна жыве ў бібліятэцы. На першы погляд, яна звязана са сталінскім ампірам. Але варта завітаць на трэці паверх, у залу афіцыйных і нарматыўных актаў, вокны якога выходзяць на вуліцу Махавую, як адчуванне змяніцца. Проста насупраць вас — Крэмль, дзе вырашаліся лёсы ўсёй краіны. Далей праглядаецца знакаміты "Дом на набярэжной", у якім жыла фактычна ўся даваенная эліта, што спрыяла рэпрэсіям, а потым стала іх ахвярай. А праз раку ад апошняга — Храм Хрыста Збавіцеля, узарваны ў тыя часы людзьмі, якія жылі ў Доме і працавалі ў Крамлі. Як вядома, аднаўленне Храма адбылося ўжо пасля распаду СССР.

Праца ў бібліятэцы пакідае фантастычнае адчуванне ўласнай прысутнасці ў прасторы і часе, якія вывучаеш. Магчыма, гэта і ёсць адна з неабходных умоў для рэалізацыі ўласнага даследавання. Вы лічыце, што гэта перабольшванне? Сустрэнемся ў калідорах РДБ!

# Сем праектаў, аб'яднаных адной ідэяй

Да 90-годдзя Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі было прымеркавана адкрыццё рэспубліканскага мультыпраекта "Бібліятэка", які задзейнічаў амаль усе выставачныя пляцоўкі "дыямента": культурна-асветніцкія выстаўкі "Гісторыя пісьменства" і "Кніга ў выяўленчым мастацтве" размясціліся ў галерэі "Ракурс", кніжна-ілюстрацыйная выстаўка "Храмы часу, памяці, думкі" — у кальцавым калідоры на другім паверсе будынка; мастацкая выстаўка "Слова" — у галерэі "Лабірынт"; выстаўка каліграфіі — у Мабільнай галерэі; падрыхтаваныя разам з Беларускім дзяржаўным архівам кінафотафонадакументаў фотапраект "Нацыянальная бібліятэка Беларусі ў абсягах часу" і з Гісторыка-культурным музеем-запаведнікам "Заслаўе" выстаўка "Сучасная арт-кніга" — у галерэі "Атрыум".



*Каліграф і перакладчык Лі Дзо.*

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Наталіі Купрэвіч**

На ўрачыстым адкрыцці было прамоўлена шмат добрых слоў у адрас бібліятэкі. Пра адказнасць, з якой рыхтаваліся да юбілею, што выпаў на Год кнігі, распавяла першы намеснік дырэктара НББ Алена Далгаполава, прыгадала першага дырэктара НББ Іосіфа Сіманоўскага загадчык навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Галіна Кірэева. Дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, прафесар, доктар філалагічных навук Аляксандр Лукашанец, асабістае знаёмства якога з НББ мае 37-гадовы стаж, адзначыў: "Бібліятэка дала добры шлях у прафесійнае жыццё многім пакаленням студэнтаў, садзейнічае захаванню і вяртанню ў культурны ўжытак багацця нашай спадчыны, спрыяе павышэнню ролі Беларусі як неад'емнай часткі культурнай і інфармацыйнай сусветнай прасторы". Аляксандр Аляксандравіч перадаў віншаванні калектыву бібліятэкі і словы захаплення прыгожым будынкам ад удзельнікаў кангрэсу славістаў — прадстаўнікоў 19 краін Еўропы і ЗША, якія нядаўна наведалі НББ.

Загадчык аддзела галерэйна-выставачнай дзейнасці НББ, старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Фёдар Ястраб падкрэсліў: "Роля бібліятэкі — не проста сховішча ці прапаганда кніг, гэта цэлы сусвет, лабірынт, падарожжа па якім патрабуе шмат ведаў. Аб'яднальнай ідэяй нашага мультыпраекта з'яўляецца тэкст. Гэта выява, любая рэч, артэфакт. У аснове жывапіснай карціны ляжыць сюжэт — а ён заўсёды прамаўляецца, нават чорны квадрат — знак, тэкст, пасланне. Таму арганічна выглядае яднанне ў адным праекце кніжных выставак, культурна-асветніцкіх, фота-, арт-кнігі, выстаўкі беларускіх і кітайскага каліграфістаў. Фундаментальны праект, прысвечаны бібліятэцы не як інфармацыйнаму цэнтру, а як разуменню Сусвету. Тэкст — як інфармацыя і ўяўленне душы чалавека творчага. Нятворчых людзей, дарэчы, не бывае, проста для адных мастацтва — актыўнае праяўленне, для іншых — суперажыванне, успрыманне". (Часта таленты ў розных галінах мастацкай дзейнасці спалучаюцца ў адной асобе. Лі Дзо — каліграф і перакладчык, удзельнік выстаўкі "Слова", падарыў жадаючым кнігу сваіх перакладаў старажытнага кітайскага паэта Лі Бая, што пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура".)

З самага пачатку свайго існавання кніга робіцца той каштоўнасцю, якая ўпрыгожвае палотны: можна ўбачыць біблію на іконе "Хрыстос Пантакратар", кніга — неад'емная частка інтэр'еру ў творах Сандра Бацічэлі, Эль Грэка, Рагіра ван дэр Вейдэ, Рафаэля, Эдуарда Манэ, Мікельанджала Буанароці, Ганса Гальбейна Малодшага і іншых вялікіх жывапісцаў, пра што сведчыць выстаўка "Кніга ў выяўленчым мастацтве".

Фёдар Адамавіч упэўнены: "Кніга будзе развівацца як грунтоўны культуралагічны, а не толькі інфармацыйны факт". І прыкладам таму называе выстаўку арт-кнігі: трыццаць твораў як знаных майстроў, так і зусім маладых, навучэнцаў гуртка Рыты Цімохавай у Мінскай дзяржаўнай гімназіі-каледжы мастацтваў. Арт-кніга — таксама сінтэз. Сінтэз мастацтва і паэзіі: менавіта паэтычныя радкі Міхася Башлакова, Міколы Шабовіча, Юрыя Сапажкова ў перакладзе Міколы Мятліцкага сталі арт-кнігамі Міхася Барздыкі і Юрася Малаша. Самых юных стваральнікаў арт-кнігі натхняюць як вершы (Аляксандра Аверчанка "Вершы А. Разанава"), так і казкі, легенды, паданні (Дар'я Грахоўская "Вобразы славянскай міфалогіі", Павел Бандарык "Бременские музыканты"), так і творы сучасных аўтараў (Ганна Воўк "История о старике Кулебякине, плаксивой кобыле Миле и жеребёнке Равкине" Людмілы Уліцкай) і нават героі мульцікаў і кіно (Алена Новік "Сімпсаны", Аляксандра Перадзэ "Мары і монстры", Вераніка Балоціна "Индейцы", Мікіта Вітчанка "Драконология").

Да тэксту як мастацкага сродку звяртаюцца Юлія Мацура ("Кот і лайдакі"), Генадзь Драздоў ("Вершаваныя аб'явы"), Зоя Луцэвіч ("Няма часу на каханне"), Сяргей Варкін ("Эга"), паўнавартасны тэкст зашыфраваны ў творах такіх мастакоў, як Уладзімір Сытчанка ("Возера"), Андрэй Плясанаў ("У гэтай краіне", "Залатая рука"), Марына Капілава (з серыі "Краплёныя карты") і іншых удзельнікаў выстаўкі "Слова".

Падчас урачыстага адкрыцця мультыпраекта адбылося гашэнне маркі і канверта, прысвечанага 90-годдзю Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, спецыяльна падрыхтаванага РУП "Белпошта". Цырымонію правялі намеснік генеральнага дырэктара па камерцыйных пытаннях "Белпошты" Таццяна Гвоздзева і першы намеснік дырэктара НББ Алена Далгаполава.

Выстаўкі мультыпраекта "Бібліятэка" — фундаментальнага і арыгінальнага, адрасаванага шырокаму колу гледачоў, усім, хто цікавіцца Словам, Культурай, Мастацтвам, будуць доўжыцца да 20 лістапада. Паглыбіўшыся ў іх прастору, вы цалкам згодзіцеся з выказваннем Дзмітрыя Ліхачова: "Калі ў выніку якой-небудзь разбуральнай катастрофы на зямлі знікнуць усе цэнтры адукацыі і культуры, калі на свеце не застанецца нічога, апрача бібліятэк, — у свету і чалавецтва ёсць шанц адрадзіцца".

# А ты ведаеш свае правы?

У выніку дамоўленасцей паміж Нацыянальным цэнтрам прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь і сталічнай дзіцячай бібліятэкай № 1 у апошняй створана "Акадэмія прававой культуры".

**Вольга БОГУК,**
**бібліятэкар**
**дзіцячай бібліятэкі № 1**
**г. Мінска**

Першым крокам стала стварэнне тэматычнага кута "Твае правы", які быў аформлены ў чытальнай зале. Ён уключаў у сябе артыкулы Канвенцыі аб правах чалавека, прававую літаратуру для дзяцей, мастацкую літаратуру, у якой закранаюцца праблемы парушэння правоў чалавека, і рэкламны матэрыял. Асобна быў выдзелены фонд прававой літаратуры са свабодным доступам для чытачоў. Супрацоўнікі падрыхтавалі тэматычныя папкі: "Канвенцыя аб правах дзіцяці", "Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь" і "Правы непаўналетніх".

Другім крокам стала дыягностыка ў чытачоў ведаў пра прававыя асновы, праведзеная шляхам анкетавання. Супрацоўнікі высвятлялі, што наведвальнікі ведаюць пра правы дзіцяці, пра абарону ўласных правоў, пра тое, як гэтыя веды могуць дапамагчы ў жыцці. Атрыманыя і апрацаваныя дадзеныя дазволілі сфарміраваць пэўны цыкл мерапрыемстваў.

Першае — "Акадэмія прававой культуры: уступныя экзамены" — стала азнаямляльным. Супрацоўнікі і чытачы знаёміліся па метадзе "Павуціння". Яго сэнс у наступным: адзін з удзельнікаў трымае клубок яркіх нітак, называе сваё імя, любімыя заняткі, любімую кнігу ці аўтара і кідае клубок наступнаму. Далей удзельнікі высвятлялі, што такое прававая культура, з якіх элементаў яна складаецца. Адказы былі ўпісаны ў "Прававую хатку". Слухачы змаглі падыскутаваць на тэму "ці неабходна прававая культура чалавеку", а таксама "каго можна назваць правакультурным". Навучэнцы 6 класа дапамаглі ў распрацоўцы эмблемы Акадэміі і дэвізаў — "Хачу стаць правакультурным" і "Можа мама, можа тата, але маю права — Я!"

На занятках, прысвечаных бібліятэцы як цэнтру прававой інфармацыі, слухачы акадэміі не толькі вучыліся адрозніваць прававую інфармацыю ад іншых відаў інфармацыі, але і ўдзельнічалі ў яе стварэнні, выказвалі і адстойвалі свой пункт гледжання ў прававых дэбатах. Дзеці з цікавасцю разгадвалі прававыя крыжаванкі, галаваломкі. Адным з ключавых момантаў нашых заняткаў стала стварэнне… уласнай Канстытуцыі! Удзельнікі, грунтуючыся на веданні правоў і абавязкаў чытачоў, а таксама на ведах, атрыманых падчас мінулых заняткаў, змаглі скласці ўнікальны дакумент — "Канстытуцыю Бібліятэчнай Рэспублікі". У яе ўваходзяць: прэамбула, раздзелы "Агульнае становішча", "Правы карыстальнікаў бібліятэкі", "Абавязкі карыстальнікаў бібліятэкі". Дакумент быў урачыста падпісаны бібліятэкарамі і ўсімі ўдзельнікамі.

Для слухачоў была праведзена экскурсія па бібліятэчным цэнтры прававой інфармацыі, прадстаўлены агляд інфармацыйных рэсурсаў, якія стварае і распаўсюджвае Нацыянальны цэнтр прававой інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Слухачы пазнаёміліся з дзіцячым прававым парталам, дзе змаглі праверыць свае веды ў розных гульнях, прадстаўленых на сайце, азнаёміцца з іншымі магчымасцямі гэтага рэсурсу.

На занятках "Мая бяспека" і "А калі раптам..." чытачы інсцэніравалі розныя прававыя сітуацыі, такія, як вымагальніцтва, крадзеж, паклёп, падман, гарантыйныя адносіны і інш. Пасля прагляду праходзіла абмеркаванне з дзіцячым псіхолагам і юрыстам. Слухачы задавалі пытанні і атрымлівалі прафесійныя адказы.

Асабліва запомніўся дзецям прававы квест "Правы і абавязкі". Квест — адзін са спосабаў пабудовы сюжэтаў, падарожжа персанажаў да пэўнай мэты. Падчас яго героям даводзіцца пераадольваць шматлікія цяжкасці і сустракаць мноства персанажаў, якія дапамагаюць або перашкаджаюць ім. Гэты жанр патрабуе рашэння разумовых задач. Сюжэт можа быць прадвызначаным ці прапаноўваць мноства варыянтаў, выбар якіх залежыць ад дзеянняў ігрока. У нашым выпадку мы задзейнічалі кнігасховішча, якое было ідэальна прыдатным для нашых мэт. У ім размясцілі перашкоды, якія ігракі павінны былі пераадолець, і пазнакі, дзе шукаць артыкулы з Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Гульня працягвалася да таго часу, пакуль усе схаваныя артыкулы не былі выяўлены. Напрыканцы заняткаў у Акадэміі удзельнікі правялі "Час разважання", дзе абмеркавалі правы чалавека, у першую чаргу — дзіцяці.

# Прырода. Гомель. Паўстоўскі

Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка імя У. І. Леніна арганізавала выстаўку выяўленчага мастацтва “Мая любімая кніга — Прырода”, прысвечаную творчасці Канстанціна Паўстоўскага, 120 гадоў з дня нараджэння якога споўнілася сёлета.



**Алег АНАНЬЕЎ,**
**намеснік дырэктара Гомельскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

К. Паўстоўскі (1892 — 1968) — з’ява ў рускай літаратуры, прычым да канца не ацэненая. Ён прадаўжальнік яе вялікіх традыцый ад Пушкіна, Тургенева, Буніна... Адметная асаблівасць творчасці — дамінаванне дзвюх тэм: руская прырода, якой ён аддаваў перавагу перад усімі прыгажосцямі зямнога шара, і сусветная культура. У сваіх творах К. Паўстоўскі прапагандуе агульначалавечыя каштоўнасці і радасці жыцця.

На адкрыцці выстаўкі тэму зацікаўлена абмяркоўвалі члены Саюза пісьменнікаў Беларусі Ніна Шклярава; Алена Агіна (яна ж — і мастачка, аўтар некалькіх жывапісных твораў, прадстаўленых у экспазіцыі); Юрый Максіменка; аўтар гэтых радкоў, прадстаўнік двух творчых аб’яднанняў Беларусі — саюзаў пісьменнікаў і мастакоў; мастак Ігар Хайкоў; паэт Уладзіслаў Шышыгін, аўтар-выканаўца, педагог Гомельскага музычнага каледжа імя Н. Ф. Сакалоўскага Ірына Мяцельская і іншыя.

Можа ўзнікнуць пытанне: чаму кнігі Паўстоўскага на працягу ўжо некалькіх пакаленняў зачароўваюць чытачоў? На думку ўдзельнікаў выстаўкі, у штодзённай мітусні спраў і клопатаў нашы сэрцы кранае рамантызм. Уласна, Паўстоўскі і вядомы ўсім як адзін з найбуйнейшых пісьменнікаў-рамантыкаў XX стагоддзя.

У паездках прайшла немалая частка жыцця Паўстоўскага, і гэта знайшло адлюстраванне ў яго творчасці. Як тут не ўспомніць, што першы аповед быў напісаны ім менавіта ў Беларусі. Улетку 1910-га 18-гадовы Канстанцін гасцяваў у далёкіх сваякоў у маёнтку Іолча на Брагіншчыне. Паездка на Палессе настолькі ўразіла і запомнілася будучаму пісьменніку, што ён прысвяціў ёй свой першы аповед, які быў надрукаваны ў тым жа годзе ў часопісе “Огни”. Пазней пад назвай “Корчма на Брагинке” гэты аповед увайшоў у першую частку цыкла “Далёкие годы” і яго “Повесть о жизни”, пасля намінаваную на Нобелеўскую прэмію.

Брагінка — звілістая рака ў Брагінскім раёне — упадае ў Прыпяць недалёка ад Дняпра. На рацэ і адбываюцца падзеі. Аўтар маляўніча апавядае пра маёнтак і яго гасцінных гаспадароў, пра сваю паездку ў Камарын і сяло Пагоннае. З асаблівай сімпатыяй выпісаны вобраз абаронцы беднякоў, усіх абяздоленых — народнага атамана Андрэя Гона, які здзяйсняў налёты на памешчыцкія сядзібы...

Ужо ў першым сваім творы пісьменнік праявіў сябе як майстар “акварэльных” твораў — настолькі чыстая, лёгкая і празрыстая яго мова: “Полесье сохранилось у меня в памяти как печальная и немного загадочная страна. Она цвела лютиками и аиром, шумела ольхой и густыми ветлами, и тихий звон её колоколов, казалось, никогда не возвестит молчаливым Полешукам о кануне светлого народного праздника”.

Ужо прызнаны мэтр і Нобелеўскі лаўрэат Іван Бунін захоплена адазваўся пра гэты твор: “Дорогой собрат! Я прочитал Ваш рассказ «Корчма на Брагинке» и хочу сказать о той редкой радости, которую испытал я: он принадлежит к наилучшим рассказам русской литературы”.

Панарамная выстаўка з’явілася своеасаблівай ілюстрацыяй лірычных і ў той жа час вельмі рэалістычных карцін прыроды ў творах Канстанціна Паўстоўскага. 47 твораў жывапісу, графікі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва прадставілі 17 аўтараў Гомельшчыны (больш як палова — члены Беларускага саюза мастакоў).

Выстаўка дала падставы нагадаць, што да прыроды ў Паўстоўскага было маральна-філасофскае стаўленне. Ён быў адным з першых публічных праваабаронцаў і пачынальнікаў экалагічнага руху, лічыў: калі б людзі лепш захоўвалі прыроду, беражліва ставіліся да лясоў і рэк, да помнікаў даўніны, яны самі былі б маральна лепшыя...

Атмасферы судакранання да сапраўднага мастацтва, разважанняў пра творчасць Паўстоўскага, пра тое, што значыць прырода ў жыцці кожнага чалавека, садзейнічала і музыка: класічныя творы Шапэна і аўтарскія імправізацыі на тэму “Краявіды” выканала на фартэпіяна Ірына Мяцельская.

Услед за Паўстоўскім задачу мастацтва арганізатары выстаўкі бачаць у тым, каб знайсці водгук у душы чалавека. Гэтую думку ён выказаў геніяльна проста і прыгожа: “Есть в сердце скрытая струна. Она обязательно отзовётся даже на слабый призыв прекрасного”.

# Шляхамі супрацоўніцтва

У штаб-кватэры СНД у Мінску адбылася прэзентацыя новай кнігі вядомых аўтараў Ато Хамдама і Леаніда Чыгрына “Подзвіг Эмамалі Рахмона”, выпушчанай выдавецтвам “Кнігазбор” у перакладзе на беларускую мову.

**Ірына КАЧАТКОВА**

Мерапрыемства, у якім узялі ўдзел прадстаўнікі Выканаўчага камітэта Садружнасці Незалежных дзяржаў, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, дыпламаты, паслы замежных краін, акрэдытаваныя ў нашай краіне, было прымеркавана да святкавання Дня дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Таджыкістан. У пасяджэнні таксама бралі ўдзел прадстаўнікі навуковай эліты, грамадскіх арганізацый, творчых саюзаў Беларусі і Таджыкістана.

Як падкрэсліў Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Таджыкістан у Рэспубліцы Беларусь, Пастаянны Паўнамоцны прадстаўнік Рэспублікі Таджыкістан у статутных і іншых органах СНД Казідаўлат Каімдодаў, пазітыўнае развіццё двухбаковага супрацоўніцтва паміж Таджыкістанам і Беларуссю — заслуга Прэзідэнтаў нашых краін, іх палітычнай волі і сяброўскіх адносін. Значнай падзеяй у беларуска-таджыкскім міжкультурным дыялогу з’яўляецца выданне кнігі на беларускай мове.

Першы намеснік Старшыні Выканаўчага камітэта — Выканаўчы сакратар СНД Уладзімір Гаркун, падкрэсліваючы, што кніга будзе цікавай як для шырокіх колаў чытачоў, так і для спецыялістаў, асабліва гісторыкаў і палітолагаў, адзначыў, што Таджыкістан — член сусветнай супольнасці, — імкнучыся да захавання і ўмацавання стабільнасці, міру і згоды ў грамадстве, паспяхова ажыццяўляе дэмакратычныя пераўтварэнні.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец распавёў пра даўнія і плённыя традыцыі супрацоўніцтва паміж беларускімі і таджыкскімі літаратарамі.

Пра вялікае значэнне мірнага суіснавання розных народаў і розных рэлігій, стваральнай працы на карысць будучых пакаленняў, вялікія намаганні кіраўнікоў абедзвюх дзяржаў на шляху развіцця і ўмацавання рознабаковага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі гаварылі старшыня Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі Ніна Іванова, сакратар грамадскага аб’яднання “Саюз пісьменнікаў Беларусі” Георгій Марчук, рэжысёр Маргарыта Касымава.

Адзінзаўтараўдакументальнамастацкай аповесці — шырокавядомы ў Таджыкістане і за межамі краіны пісьменнік, перакладчык, драматург, узнагароджаны шматлікімі прэміямі і літаратурнымі ўзнагародамі — Ато Хамдам падрабязна распавёў пра гісторыю стварэння твора: матэрыялы збіраліся паступова, упарта вывучаліся, асэнсоўваліся, назапашваліся, складаліся ў радкі, старонкі, раздзелы… Далі плён таксама шматлікія паездкі па краіне, сустрэчы з людзьмі. “Аповесці папярэднічае старажытная грэчаская мудрасць: “…той, хто сваю асобу адсоўвае на другі план, а на першы ставіць чалавечае шчасце, таму наканавана здзейсніць вялікія ўчынкі і застацца ў памяці свайго народа да апошніх дзён свайго жыцця” — гэтыя слушныя словы цалкам датычаць Прэзідэнта Эмамалі Рахмона”, — падкрэсліў Ато Хамдам.

Восем раздзелаў грунтоўнай працы прысвечаны падрабязнаму разгляду не толькі сённяшніх падзей у краіне, але і вывучэнню неацэннай гістарычнай спадчыны: “…Усе мы — толькі звёны агульнага і бясконцага ланцужка пакаленняў, які цягнецца з глыбінь мінулага і сягае далёка ў будучыню, і нашы повязь і адзінства з тымі, што жылі да нас, відавочныя і неаспрэчныя”. Разам з аўтарамі чытачы вандруюць па Вялікім Шаўковым шляху, ідуць старажытнымі дарогамі Сагдыяны і Бактрыі, апынаючыся то ў гарачых стэпах, то ў воінскім лагеры грэкаў, то ў славутых сваімі культурнымі дасягненнямі Самаркандзе і Бухары, Балху і Гераце, Худжандзе і Мерву, якія ў свой час адыгралі значную ролю ў кансалідацыі таджыкаў. Са старонак кнігі гучаць галасы выдатных мысляроў і навукоўцаў старажытнасці Імома Азама і Авіцэны, адданых сыноў таджыкскага народа Ісмаіла Самані і Спітамэна, простых рамеснікаў і сціплых дэхканаў.

Аўтары робяць спробу таксама зазірнуць у заўтрашні дзень сваёй краіны і ўсяго чалавецтва, асэнсаваць магчымае развіццё падзей: “…Мы жывём на адной планеце, і нашы лёсы вельмі цесна звязаны між сабой. І само сабой паўстае пытанне: які будзе далейшы лёс усяго чалавецтва, нашай зялёнай планеты Зямля, лёс таджыкскага народа, калі і надалей будуць працягвацца кровапралітныя войны, ажыццяўляцца перадзел свету, галоўнай мэтай якога з’яўляецца кантроль над прыроднымі багаццямі?.. У нас адзіная чалавецтва цывілізацыі, і што ёй наканавана… — залежыць толькі ад нас”.

# Перспектыва радуе

Выкладчыкаў і курсантаў ваенна-медыцынскага факультэта БДМУ звязваюць з публічнай бібліятэкай № 5 г. Мінска даўнія сяброўскія стасункі. Загадчыца бібліятэкі Алена Калейнік пастаянна запрашае іх у літаратурную гасцёўню на сустрэчы з аўтарамі, таму будучыя ваенныя медыкі добра сарыентаваныя ў сучаснай беларускай літаратуры.

**Вольга ПАЛОМЦАВА**

Да чарговага мерапрыемства, прысвечанага Году кнігі і Дню бібліятэк, супрацоўнікі кніжніцы аформілі выстаўку, якая прадстаўляе беларускую літаратуру — ад твораў класікаў да навінак апошніх гадоў.

Цікавы сцэнарый свята дапамог прысутным прыгадаць гісторыю беларускага пісьменства ад вытокаў да нашых дзён, імёны беларускіх першаасветнікаў і народных паэтаў, адзначаны ў мінулым годзе юбілей Максіма Багдановіча, сёлетнія юбілеі Янкі Купалы, Якуба Коласа і Максіма Танка, гарады, што сталі цэнтрамі Свята беларускага пісьменства, а таксама ўсміхнуцца добраму відэажарту, сюжэт якога суцэльна неверагодны: дасведчаны сярэднявечны адміністратар дапамагае чытачу карыстацца кнігай. У мерапрыемстве ўдзельнічалі члены Мінскага гарадскога аддзялення СПБ — паэтэсы Аліна Легастаева і Вольга Нaрына. Госці пакінулі пажаданні ў рукатворнай Кнізе факультэта.

Выпусціць з ВНУ не толькі добрых спецыялістаў, але і ўсебакова развітых асоб — такую задачу ставіць перад сабой кіраўніцтва ўстановы, таму раскрыццю талентаў тут спрыяюць. Прарэктар па навуковай і выхаваўчай рабоце Уладзімір Мануйлік паабяцаў прысутным, што і на наступны год курсанты з кнігай не развітаюцца, а мерапрыемства, прысвечанае Дню пісьменства, выйдзе за межы факультэта на большую пляцоўку, і заклікаў пачынаць рыхтавацца да яго ўжо сёння.

# Свята-падарожнік

Супрацоўнікамі Бярэзінскай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы распрацаваны праект “Свята кнігі пад адкрытым небам”, які прадугледжвае эстафетнае правядзенне святаў кнігі ў вёсках раёна. Увазе гасцей прапанoўвалася перасоўная выстаўка-прагляд “2012 — Год кнігі”, якая складалася з некалькіх блокаў. Яны распавядалі пра гісторыю кнігадрукавання, пісьменнікаў і кнігі — юбіляраў 2012 года, выдадні пра гістарычнае мінулае Бярэзіншчыны, знакамітых людзей краю. Асобна вылучаўся блок “Прэзентацыя кнігі”, дзе дэманстравалася кніга вядомага земляка-пісьменніка або аматара прыгожага пісьменства, выдадзеная Бярэзінскай ЦБ і непасрэдна звязаная з месцам правядзення свята.

**Наталля МАЕЎСКАЯ**

# Узор малюе... расол

Многія рэгіёны нашай краіны маюць сваю адметную кераміку. Напрыклад, для бабруйскага характэрны дымлёныя, тэракотавыя і абварныя вырабы з гліны.Візітнай карткай гэтага рэгіёна можна лічыць Цэнтр рамёстваў у пасёлку Глуша, дзе створана сур'ёзная база для развіцця, папулярызацыі і захавання ганчарнага мастацтва.

**Раіса МАРЧУК,**
**фота аўтара**

Тут працуе ўнікальны ганчар, член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, народны майстар Беларусі Юрый Боўда, чыё ўнікальнае майстэрства ўключана ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей. Яму належыць арыгінальны спосаб апрацоўкі гліны — абвар. Юрый Іванавіч часты госць міжнародных ганчарных пленэраў у Расіі, Венесуэле, Арменіі, ва Украіне і пастаянны — у "Горадзе майстроў" на "Славянскім базары ў Віцебску".

Гэты майстар з 15 гадоў, як кажуць, на сваім хлебе. Хаця керамістам стаў выпадкова. Жыў у пасёлку пад Бабруйскам, дзе знаходзіўся цэх керамікі. Неяк прачытаў у газеце аб'яву пра тое, што туды набіраюць вучняў. Вырашыў пайсці — і яму пашанцавала: трапіў да старых майстроў, вельмі паважаных людзей, якія шчыра дзяліліся сакрэтамі ганчарства.

— Мяне лічаць прадаўжальнікам іх справы і наогул рэгіянальнага бабруйскага ганчарства, — зазначыў майстар. — Ганаруся гэтым і адчуваю вялікую адказнасць. Працаваў майстрам вытворчага навучання ў Бабруйскім мастацкім вучылішчы імя Ларына і выпусціў тры групы — амаль 90 чалавек. Праўда, не ўсе яны сталі майстрамі-керамістамі. Ганчару, як і мастаку, патрэбна мець своеасаблівы прыродны дар, схільнасць да гэтай справы. Толькі той, хто адчувае гліну кончыкамі пальцаў і душою, зможа стварыць добрую і прыгожую рэч. Калі ж не — нічога не атрымаецца! Не ўсім гэта дадзена. Керамістам трэба нарадзіцца.

Дарэчы, майстар па крупіцах узнаўляў тэхналогію абварной керамікі. Штосьці чэрпаў з кніг, а чагосьці дасягаў шляхам проб і памылак. У выніку выпрацаваў сваю ўласную тэхналогію. Пасля закончыў Віцебскі педагагічны інстытут і абараніў дыплом па дэкаратыўна-прыкладным мастацтве. Ганчарствам займаецца ўжо больш як чатыры дзесяцігоддзі.

— Кераміка патрэбна ўсім, і не толькі для прыгажосці, яна мае ўтылітарна-бытавое прызначэнне, — распавядае Юрый Іванавіч. — Гліна — гэта матэрыял будучыні, таму што можа знікнуць нафта і іншая сыравіна, а запасы гліны — невычэрпныя. Мы ходзім па ёй. Два-тры штыкі ў зямлю — і залежы гэтай сыравіны. Прынамсі, японцы стварылі керамічны рухавік. Гліна — матэрыял вельмі падатлівы, цёплы. Многія мараць займець вырабы фірмы "Цэптар". Хаця керамічны посуд значна лепшы. Ужо шэсць тысяч гадоў людзі карыстаюцца ім! І кераміка не згінула, паранейшаму запатрабавана. Людзі атрымліваюць ад яе задавальненне, яе нічым не заменіш, яна мае і будзе мець сваю нішу.

Як каваль бачыць колер жалеза, так вока майстра павінна бачыць і адчуваць колер чарапка, яго малюнак. Абварная кераміка — рабенькая. Пры гэтай адмысловай тэхналогіі расол, у які дабаўляецца мука і іншыя кампаненты, награваецца і ў яго апускаецца гатовы гаршчок. Калі выраб апусціць поўнасцю ў вадкасць, ён можа стаць аднатонным. Вопытны ганчар чыста інтуітыўна адчувае, колькі часу неабходна на тое, каб атрымаўся прыгожы і адмысловы малюнак, — лік ідзе на імгненні. Як мароз малюе на шкле ўзоры, так і расол размалёўвае гаршчок.

— Для вырабу керамікі не выкарыстоўваем ніякай хіміі, таму наш посуд — экалагічна чысты, — прадаўжае майстар. — Напрыклад, абмазваем міску малаком і ставім у печ, дзе тэмпература дасягае 300 градусаў, — атрымоўваецца светлая кераміка. Калі 400 градусаў — будзе цёмная, дымлёная. Вырабы па некалькі разоў абпальваем у печы, якая топіцца дровамі. Спачатку топім яе гадзін 12 — 14, каб яна паступова набірала тэмпературу. Потым печ шчыльна закрываем, перакрываем доступ кіслароду. У топку дабаўляем траву, апілкі. Печ паступова астывае, дым поўнасцю прабівае гліняны чарапок. Такі посуд ужо не прапускае вільгаць. Такі ж вынік і пасля апрацоўкі малаком — вільгаць не праходзіць.



Гліняны рукамыйнік.

Як растлумачыў майстар, посуд раней быў вельмі практычны. Налівалі ў гарлач малако. Зверху, роўна з рыльцам, атрымоўвалася смятана, унізе — сыракваша. Гаспадыні не трэба было доўга думаць, колькі там смятаны адышло, яна крыху страсянула гарлач — і вяршкі аддзяляліся. Зліла іх, засталося кіслае малако, якое ў тым жа посудзе паставіла ў печ, каб атапіўся тварог — проста і разумна. Ці возьмем гляк для чаю. Выраб меў вузенькае горлейка. Заварвалі ў ім чай і ставілі ў печ. Напой вельмі доўга не астываў. Можна сказаць, гэта той жа "Цэптар", які людзі вынайшлі тысячагоддзі таму. У гліняным посудзе ўсё вельмі добра захоўвалася і не псавалася. Адным словам, увесь посуд быў для чалавека, для яго здароўя.

Асабіста мяне ўразіў гліняны рукамыйнік. Калі яго крыху зварушыць, ён нахіляецца, і колькі трэба вады выцякае. Прадумана да дробязей. Дарэчы, посуд, зроблены на ганчарным крузе, звініць пры пастукванні, як званочак.

— Разам з дарослымі ганчарствам і лепкай з гліны займаецца група дзяцей, — паведаміў кіраўнік Цэнтра рамёстваў у пасёлку Глуша Валерый Боўда, родны брат Юрыя Іванавіча. — Няблага праявілі сябе ў кераміцы браты Арловы — Мікалай, Уладзімір і Максім. Мікалай займаецца з шасці гадоў. Ім ёсць у каго вучыцца. Бацька хлопцаў, Аляксандр Васільевіч, пасляхова кіруе ўзорным дзіцячым калектывам "Глечыкі", які дзейнічае пры Глушанскім раённым цэнтры рамёстваў. У дзевяць гадоў асвоіў ганчарства і лепку Глеб Савін. Разам з братамі Арловымі браў удзел у многіх выстаўках. Хочацца верыць, маладая змена годна прадоўжыць традыцыі продкаў і слава бабруйскай керамікі не згасне ніколі.




*У кожнай рэчы — цяпло рук і часцінка душы Юрыя Боўды.*

## Афарызм

*Няма на свеце такога невясёлага становішча,*
*дзе б вясёлыя людзі не знайшлі сабе весялосці!*

**Якуб КОЛАС**

## З глыбінкі

### ПЕРАЗОЎ СТАГОДДЗЯЎ

У мастацкай галерэі "З'ява" Барысаўскай цэнтральнай бібліятэкі імя І. Х. Каладзеева працуе выніковая выстаўка міжнароднага праекта "Перазоў стагоддзяў: 1812 — 2012" у рамках Міжнароднага мастацкага праекта "На сваёй зямлі". Арганізатарамі мерапрыемства сталі грамадская арганізацыя "Беларускі зялёны крыж", клуб-сядзіба "Бівак" і грамадскае аб'яднанне "Бярэзіна 1812 год". Падчас адкрыцця выстаўкі прэс-сакратар ГА "Беларускі зялёны крыж" Іна Ваўкавец заўважыла: "На зараджэнне ідэі паўплывала і тое, што наш цэнтр размешчаны на Кацярынінскім тракце, які з'яўляецца сведкам Рускай кампаніі Напалеона 1812 года. Мы зразумелі, што стаім не проста на зямлі, а на неацэннай крыніцы гісторыі нашай Радзімы".

Гэты праект з'яўляецца лагічным працягам шматгадовай дзейнасці Беларускага зялёнага крыжа па захаванні прыроднай і культурнай спадчыны Беларусі, выхаванні маладога пакалення на традыцыйных каштоўнасцях, "звязванні часоў" праз пакаленні і агульную гісторыю, прыцягненні таленавітых творцаў да развіцця грамадства.

Удзельнікамі праекта "Перазоў стагоддзяў: 1812 — 2012" сталі студэнты, мастакі і выкладчыкі вышэйшых мастацкіх навучальных устаноў з Беларусі, Расіі, Украіны. Прадстаўленыя карціны дазваляюць больш падрабязна і дэталёва ўбачыць адносіны сённяшняга пакалення да гісторыі вайны 1812 года, падзеі якой закранулі ўсю нашу краіну. Гэта работы Юрыя Сяргейчыка "Узыход у Гродна", Валерыі Лысяк "Бярэзіна 200 год пасля", Рымы Петраковай "Начная размова", Рамана Гейрэханава "Перазоў стагоддзяў" і іншыя.

Дарэчы, выстаўка будзе экспанавацца ў Мінску, Смалявічах, Магілёве, а потым і ў гарадах Расіі.

**Дар'я ШОЦІК,**
**г. Барысаў**

### ЛЮБІЦЬ КНІГУ І ЛЮДЗЕЙ

Больш як трыццаць год Лілія Бабырова працуе бібліятэкарам аддзела абслугоўвання і інфармацыі Рагачоўскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.

Вы толькі задумайцеся: тры дзясяткі гадоў на адным месцы! Колькі мы пэражылі розных грамадска-палітычных катаклізмаў, эканамічных цяжкасцей, многія з нас шукалі месца працы там, дзе больш плацяць, а Лілія Анатольеўна заўсёды была адданая любімай справе — рабоце з кнігай і людзьмі. А яны ж розныя і па ўзросце, і па адукацыі і развіцці, і па родзе заняткаў, і па характары — да кожнага ў шаноўнай Лілii Анатольеўны індывідуальны падыход, у аснове якога выхаванасць, ветлівасць, вялікая ўнутраная культура.

А яшчэ для яе характэрна надзвычайная эрудыцыя, прафесіяналізм. Лілія Анатольеўна цікавіцца сама і знаёміць чытачоў з навінкамі літаратуры, асаблівую ўвагу надае беларускім выданням, творам, змешчаным у літаратурна-мастацкіх часопісах, кнігам землякоў. І заўсёды з радасцю сустракае чарговага наведвальніка бібліятэкі, дорыць яму шчырую, прыязную ўсмешку, ад якой цяплее на душы...

**Міхась КАВАЛЁЎ,**
**г. Рагачоў**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

Юрыдычны адрас:
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2760.
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 27.09.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4078
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686